27 чэрвеня 2014 | № 25 (394)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**ЯШЧЭ ЁСЦЬ ЧАС АФОРМІЦЬ ПАДПІСКУ**
на II паўгоддзе

ISSN 2218-2144

**5** **ЗБРОЯ ЁСЦЬ – НЕ МАЕМ ГРОШАЙ**

**Лукашэнка ў чарговы раз расказаў, якое ў нас павінна быць войска: неабходна ствараць мабільную армію, абсталяваную эфектыўным узбраеннем. А вось за якія грошы — Аляксандр Рыгоравіч, на жаль, не паведаміў**



**27** **НАШЧАДКІ ЯНУКОВІЧА**

**У Кіеве створаная Партыя развіцця, якая прэтэндуе на тое, каб стаць пераемнікам Партыі рэгіёнаў.**

**9–24** **Літаратурная Беларусь**

**30** **ЛЁТЧЫЦА З КАТЫНСКАГА СПІСУ**

**Свет абляцеў запіс допыту захоплененай тэрарыстамі штурмана ўкраінскіх ВПС Надзеі Саўчанкі. Гэта нагадала мне допыт супрацоўнікамі НКУС пілота II Рэчы Паспалітай Яніны Левандоўскай**

# Ачомаліся?

## Падобна, што нас чакае чарговая «вымушаная лібералізацыя»

Сяргей ПУЛЬША

«Калі ўлады зразумеюць, што для іх гэта выгадна ў палітычным і эканамічным плане — не мець палітвязняў у Беларусі, вось тады могуцьісці і іншыя размовы і перамовы», — заявіў на прэс-канферэнцыі пасля свайго вызвалення вядомы беларускі праваабаронца, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (МФПЧ) Алесь Бяляцкі. Падобна на тое, што беларускія ўлады пачынаюць гэта разумець.

Алесь Бяляцкі, які правёў у турме 1052 дні, быў вызвалены «ў тэрміновым парадку». 21 чэрвеня ў інтэрнэце, на Нацыянальным прававым партале Беларусі, з'явіўся закон аб амністыі. Асаблівасць гэтага партала ў тым, што публікацыя дакумента на яго старонках аўтаматычна азначае ўвядзенне закона ў дзеянне (раней для гэтага даводзілася чакаць публікацыі ў газеце). Падаецца, што з таго часу, як гэты закон стаў на інтэрнэт-старонку, кіраўніцтва Бабруйскай калоніі №2, дзе адбываў пакаранне Бяляцкі, не змарнавала ні секунды. У 9 гадзінаў раніцы Бяляцкага ўжо выклікалі да «кума», а пракурор, які абавязаны прысутнічаць падчас амніставання, перамясціўся ў калонію ледзьве не праз тэлепорт. Ну які чалавек зранку ў суботу паедзе не тое што на працу, а, можна сказаць, «у камандзіроўку»?

Толькі той, каму загадзя вядома, што ў яго будзе гэтая камандзіроўка. А значыць, да вызвалення Бяляцкага рыхтаваліся, і на значна вышэйшым узроўні, чым кіраўніцтва калоніі. Бо хтосьці ж павінен быў выпісаць тую «камандзіроўку» пракурору, праўда?

Вызваленне Бяляцкага было тым больш нечаканым, што, прынамсі яўна, беларускія ўлады не вядуць перамоваў з Захадам аб нейкім «урэгуляванні сітуацыі». Перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС, якія адбываюцца зараз, былі абвешчаныя міністрам замежных спраў Беларусі Уладзімірам Макеем яшчэ пад час саміту «Усходняга партнёрства» 29 лістапада 2013 года ў Вільні.

Апошнім часам не бачна было ў Беларусі і нейкіх «еўрапейскіх эмісараў». Хіба што Лукашэнка скатаўся да калегі Таміслава Нікаліча. Але гэты візіт у Сербію можна лічыць толькі «адказам» за візіт сербскага прэзідэнта ў Беларусь у сакавіку 2013 года. Нават тыя аналітыкі, хто разглядаў візіт №1 як «візіт пасярэдніка для разблакавання адносінаў з Еўропай», у выпадку візіту №2 такіх аптымістычных заяваў не рабілі.

Дарэчы, і рэакцыю сусвету на вызваленне Бяляцкага можна лічыць вельмі стрыманай. Раней вызваленне кожнага палітвязня, нават калі ён адбыў увесь тэрмін «ад званку да званку», шырока і гучна віталася, а зараз гук сцішаны.

Напрыклад, часовы паверэны ў справах ЗША ў Беларусі Ітан Голдрыч адзначыў, што Дзярждэпартамент ЗША вітаў вызваленне Бяляцкага, але «пазіцыя Злучаных Штатаў — вызваленне і рэабілітацыя ўсіх палітзняволеных. І толькі ў гэтым выпадку можна чакаць змякчэння санкцый».

Прэзідэнт ПАСЕ Ан Брасэр таксама вітала вызваленне праваабаронцы, але падкрэсліла, што «настане дзень, калі не будзе ніякіх палітвязняў — у Беларусі ці дзе яшчэ. І мы ўсе будзем узмоцнена працаваць над тым, каб наблізіць гэты дзень».

Ужо хто-хто, а МФПЧ павінна была б залівацца слязамі шчасця з нагоды амністыі аднаму са сваіх лідараў. Але ж не. Кіраўнік аддзела Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі МФПЧ Саша Кулаева заявіла, што «вызваленне аднаго чалавека, нават вельмі для нас дарагога і любімага, ні ў якой ступені не павінна разглядацца як нейкае сістэмнае змяненне сітуацыі. Трэба дамагацца вызвалення астатніх палітвязняў і сістэмных зменаў, якія зробяць сітуацыю такой, каб гэта больш не магло паўтарыцца».



Сустрэча Алеся Бяляцкага на вакзале. Справа ад яго: Марына Адамовіч — жонка Мікалая Статкевіча, насупраць Наталля — шчаслівая жонка Алеся. Фота Сяргея Пульшы

> **Настане дзень, калі не будзе ніякіх палітвязняў**

Дарэчы, беларуская ўлада на тыдні зрабіла не адзін, а тры крокі «добрай волі». Акрамя вызвалення Бяляцкага, у Мінску зноў адкрыўся Інфармацыйны цэнтр пасольства ЗША, а той жа Ітан Голдрыч паведаміў, што ўрад Беларусі дазволіў пасольству павялічыць штат супрацоўнікаў на аднаго чалавека. Нагадаем, колькасць супрацоўнікаў пасольства ЗША ў Мінску была скарочаная па настаянні беларускага боку з 35 чалавек да пяці ў 2008 годзе з-за ўвядзення Штатамі санкцый адносна канцэрна «Белнафтахім». Зараз санкцыі засталіся на тым жа месцы, але, як бачым, маленькія паўкрокі да нармалізацыі адносінаў зробленыя. І зробленыя, між іншым, Беларуссю.

Падобна на тое, што беларускія ўлады прыцiснула. І прыцiснула іх, перш за ўсё, эканоміка. У мінулым нумары мы пісалі пра складанасці атрымання грошай з Расіі і пра тое, што без гэтай падтрымкі «беларускі эканамічны цуд» ляснецца з вялікім грукатам. А наперадзе — прэзідэнцкія выбары, падчас якіх трэба традыцыйна «падкарміць электарат». У гэтай сітуацыі спадзеў можа быць на крэдыт Міжнароднага валютнага фонду. Як у 2009-м, калі мы атрымалі ад МВФ $3,5 мільярда долараў. Шмат хто казаў, што менавіта за гэтыя грошы Аляксандр Рыгоравіч забяспечыў сабе чарговую «элегантную перамогу» адначасна з разгонам Плошчы.

Сітуацыя паўтараецца. Застаецца толькі дадаць, што дакументы на гэты крэдыт ужо больш за паўгады як гатовыя. У кастрычніку 2013 года старшыня Нацбанка Надзея Ермакова паведаміла, што мы разлічваем на новы крэдыт у тым жа аб'ёме, а кіраўнік місіі фонду ў Беларусі Дэвід Хофман дадаў, што такі крэдыт магчымы «для структурных рэформаў эканомікі, калі гатоўнасць да такіх рэформаў будзе пацверджаная на самым высокім узроўні».

Вызваленне Бяляцкага — гэта звыклая «замануха» для палягчэння перамоваў па крэдыце. Калі ЕС і ЗША запляскаюць у ладкі — можна абмежавацца адным Бяляцкім. Калі не — давядзецца выпускаць і астатніх.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### САЛІГОРСК. Баронім беларускую мову



**Беларускамоўныя салігорцы падтрымалі ініцыятыву праваабаронцы Гары Паганяйлы па абароне беларускай мовы ад дыскрымінацыі і накіравалі адпаведныя звароты ў Канстытуцыйны суд.**

Як вядома, 13 красавіка 2014 года набыў моц Закон «Аб канстытуцыйнай судаводвытворчасці», які прыйшоў на змену ранейшай рэдакцыі Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь». Упершыню права звяртацца ў Канстытуцыйны Суд для ўзбуджэння вытворчасці па справах аб выпраўленні ў заканадаўстве прабелаў, выключэння ў ім калізій і прававой нявызначанасці атрымалі грамадзяне і грамадскія аб'яднанні. Каб пазбавіцца гэткіх калізій у заканадаўстве аб мовах, і з'явілася ініцыятыва юрыдычнага эксперта Беларускага Хельсінскага Камітэту Гары Паганяйлы.

Ідэя была актыўна падтрыманая Асамблеяй НДА. У сеціве былі змешчаны адпаведныя медатычныя рэкамендацыі і зварот, які кожны жадаючы можна самастойна накіраваць у Канстытуцыйны Суд. Гэткай магчымасцю скарысталіся і некаторыя жыхары Салігоршчыны, дадаўшы ў зварот прыклады дыскрымінацыі беларускамоўных у сваім рэгіёне. Сярод падпісантаў ёсць і вядомыя ў Салігорску грамадскія дзеячы — Уладзімір Шыла, Леанід Мархотка, Аляксей Валабуеў, Рыгор Астапеня.

**spring96.org**

### ВІЦЕБСК. Усталявалі помнік князю Альгерду



**Помнік князю Альгерду будзе ўрачыста адкрыты 27 чэрвеня падчас святкавання 1040-годдзя Віцебска.**

У цэнтры Віцебска нарэшце ўсталявалі помнік вялікаму князю літоўскаму Альгерду. Трохгадовыя кулуарныя баталіі за вяртанне князя ў паўночную сталіцу Беларусі нарэшце завяршыліся. Конны помнік князю Альгерду быў створаны мінскім скульптарам Сяргеем Бандарэнкам і адліты на полацкім прадпрыемстве «Тэхналіт». Працэс мантажу доўжыўся ўвесь дзень.

Паназіраць за працэсам усталявання манумента князю Альгерду прыехаў старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец. Агледзеўшы помнік, ён заявіў, што гэта «найлепшая скульптура ў Беларусі».

Князь віцебскі і вялікі князь літоўскі Альгерд увайшоў у гісторыю горада над Дзвіной тым, што далучыў Віцебск да Вялікага Княства дзякуючы шлюбу з дачкой апошняга віцебскага князя Марыяй. Падчас праўлення Альгерда Вялікае Княства Літоўскае стала адной з самых вялікіх і магутных дзяржаваў сярэднявечнай Еўропы. Альгерд пасьпяхова ваяваў з Тэўтонскім ордэнам, татарамі і Маскоўскім княствам. У 2013 годзе супраць устаноўкі помніка Альгерду выступіла група «прадстаўнікоў арганізацый расійскіх суайчыннікаў».

**radyjo.net**

### БАРАНАВІЧЫ. Міліцыя шукае падбухторшчыкаў




**23 чэрвеня індывідуальны прадпрымальнік Мікалай Чарнавус, які працуе на мясцовым кааператыўным рынку, быў выкліканы ў Баранавіцкі гарадскі аддзел унутраных спраў.**

Капітан міліцыі Сяргей Паўленя правёў з ім індывідуальную размову і ўзяў тлумачэнне на конт плаката з планам дзейнасці баранавіцкіх прадпрымальнікаў на ліпень 2014 года, які з'явіўся 13 чэрвеня каля працоўнага месца Мікалая Чарнавуса. На думку Мікалая Чарнавуса, нечаканае з'яўленне менавіта гэтага плаката з планам правядзення пратэстнай акцыі на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску і стала прычынай гэтай позвы ў ГАУС.

Са слоў грамадскага актывіста стала вядома, што супрацоўнік міліцыі зусім не цікавіўся зместам плакату і чаму, напрыклад, індывідуальныя прадпрымальнікі хацелі наведаць кабінеты мясцовых чыноўнікаў. Найперш, капітанам міліцыі Сяргей Паўленя хацеў даведацца імёны тых, хто вывесіў 13 чэрвеня гэты плакат з заклікам да арганізацыі калектыўнага мерапрыемства 3 ліпеня на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску?

У выніку размовы Мікалай Чарнавус паведаміў супрацоўніку міліцыі, што не ведае, хто вывесіў плакат з планам дзейнасці баранавіцкіх прадпрымальнікаў на ліпень 2014 года каля яго працоўнага месца. А таксама дадаў, што згодна арт. 27 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ён мае права не даваць тлумачэнні супраць самога сябе.

**spring96.org**

# Справа накіраваная на новы разгляд

**Калегія Мінскага абласнога суда 24 чэрвеня разгледзела касацыйную скаргу актывісткі аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Наталлі Бордак на прысуд суда Нясвіжскага раёна.**

Мінскі абласны суд, разгледзеўшы матэрыялы справы, знайшоў шмат супярэчнасцяў і адмяніў судовую пастанову. У прыватнасці, у матэрыялах адміністратыўнай справы адсутнічалі звесткі пра тое, ці была гэтая акцыя дазволеная гарадскімі ўладамі, ці не. Справа накіраваная ў той жа суд на новы разгляд.

Наталля Бордак была затрыманая ў Нясвіжы 9 мая за антываенную акцыю і плакат «Не пуцінскай вайне з Украінай». З 9 па 11 мая Бордак пратрымалі ў аддзяленні міліцыі ў склепе. 12 мая распачаўся судовы працэс. Паколькі Наталля Бордак мае няпоўнагадовага сына і запатрабавала адваката, суддзя Вольга Крупец дала ёй час да 19 траўня на пошук абаронцы. Да гэтага часу актывістка была вызваленая з залі суду.

20 траўня Наталлю Бордак прысудзілі да штрафу ў 3 600 000 рублёў.

Наталля Бордак патлумачыла свой учынак жаданнем спыніць спробы агрэсіі Расіі супраць суседняй дзяржавы. Па словах актывісткі аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», калі яна ішла з плакатам па парку ў Нясвіжы, прыкладна палова мінакоў яе вітала, палова — асуджала.

**Паводле spring96.org**

# Прэс-фота Беларусі

**Пра тое, чаму ніхто з фіналістаў не атрымаў гран-пры і ці цягнецца «экстрэмісцкі» шлейф за конкурсам пасля гісторыі з альбомам «Прэс-фота Беларусі-2011», пасля абвяшчэння вынікаў конкурсу распавёў сябра аргкамітэта Сяргей Міхаленка.**

Настолькі ўроскідку сёлета сябры журы вылучылі сваіх «кандыдатаў» на гран-пры, што выбраць з іх нешта адно так і не атрымалася... Ва ўсе папярэднія гады на вокладку альбомаў бралі фота, якое атрымала гран-пры. Але асабіста мая пазіцыя, што альбом — самастойны прадукт, таму гэта не абавязкова. Кніжка стаіць на паліцы, і вокладка ўсё ж павінная «прадаваць» яе. Напрыклад, у літоўскім конкурсе «Прэс-фота» на вокладку бяруць самае «звонкае» фота.

Што тычыцца наступстваў праблем, з якімі сутыкнуўся альбом «Прэс-фота Беларусі–2011» (прызнаны «экстрэмісцкімі матэрыяламі» па рашэнні суда), то на працы журы гэта дакладна ніяк не адбіваецца, бо яно ж не «тутэйшае». Для маскоўскіх фатографаў ці для літоўскага сябра журы гэта, канешне, не таямніца. Але ж мы не інфармуем усіх спецыяльна, што была такая гісторыя. Сёлета палітычных тэм у дасланых на конкурс фотаздымках практычна не было. Але і яркіх падзеяў было небагата — я думаю, што гэта ад падзеяў усё ж найперш залежыць. Самае яркае — гэта Хаўер. Фотаздымкаў пра гэтую завею даволі шмат даслалі, хаця яны ў выніку не выйшлі ў фінал. Калі казаць пра тэндэнцыі — мне падаецца, што фатографы сталі больш праектаў на сацыяльныя тэмы рабіць. Раней адчувалася, што фатографы адпрацоўваюць пры агенцтвах пэўныя тэмы, якія «вядуць». А цяпер больш самі шукаюць.

Не адчуваюць ніякай павышанай увагі з боку органаў і арганізатары конкурсу. Мы проста спакойна працуем. Найперш перад намі стаяць эканамічныя пытанні. Гісторыя з альбомам «Прэс-фота Беларусі–2011» адбілася на тым, што мала хто хоча «свяціцца» побач. Гэты шлейф дагэтуль цягнецца, ён нібы маркер такі...

З аргкамітэтам конкурсу можна звязацца наступным чынам:
Вадзім Заміроўскі +375 29 353 54 52; Сяргей Міхаленка +375 29 155 22 00; e-mail: info@pressphoto.by

**Паводле baj.by**

# 25 гадоў Беларускага народнага фронту

**25 гадоў таму, 24–25 чэрвеня 1989 года, у Вільні адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага народнага фронту (БНФ).**




Адзін са стваральнікаў першай дэмакратычнай партыі Вінцук Вячорка ўспамінае падзеі тых дзён:

— Гэта была першая ў найноўшай гісторыі зборка, у якой паяднаііся вялікія групы самых актыўных людзей — як майго пакалення, так і старэйшых, і мноства, што называецца, навaанжагаваных, навадалучаных да беларускай справы, да справы свабоды людзей. Гэта першае ўражанне, — сказаў Вячорка. — І другое ўражанне — гэта пачуццё, якое ахоплівала тады ўсе народы савецкай імперыі, якія змагаліся і за свабоду, і за вызваленне ад імперскага ярма. Памятаю, тады жыхары Вільні на заклік «Саюдзіса» (нацыянальна-вызваленчы рух Літвы 1980–1990-х гадоў — БелаПАН) проста наперабой прапаноўвалі нам, удзельнікам з'езда, начлег.

На жаль, некаторыя з паплечнікаў адышлі ў лепшы свет. Зусім нядаўна адышоў Віктар Івашкевіч — адзін з рухавікоў стварэння і дзейнасці БНФ. Некаторыя цяпер у палітычнай эміграцыі. Але што датычыць найбольш прынцыповых і трывалых, то яны застаюцца ў беларускім грамадскім і палітычным жыцці. Хаця частка людзей, якія адчулі тады пэўны адрэналін нацыянальна-палітычнай энергіі, пайшлі потым у прыватнае жыццё, у самарэалізацыю, у бізнэс, на жаль, не адчуўшы таго, што ў нас так хутка, за адзін заход, як гэта атрымалася, напрыклад, у Эстоніі ці Чэхіі, не атрымаецца.

Тагачасныя нашы праграмныя мэты імкліва пачалі здзяйсняцца пачынаючы з 1990–1991 года. Абвяшчэнне суверэнітэту, а потым незалежнасці Беларусі, дзяржаўнасць беларускай мовы, рэальны адрыў ад савецкай імперыі, пачатак пабудовы дзяржаўных інстытутаў незалежнай Беларусі, эканамічнай і фінансавай сістэмы, войска — усё гэта імкліва ствaралася. І, безумоўна, вельмі балюча было глядзець і пакутліва процістаяць таму, як з 1994 года гэта пачынала разбурацца.

Ніхто не мае права сказаць, што незалежнасць Беларусі звалілася сама па сабе, у парадку жывой чаргі пасля іншых так званых саюзных рэспублік. Беларускі народны фронт быў і хрыбтом, і нервам гэтага працэсу. БНФ, безумоўна, быў галоўным чыннікам, які ўскрыў праўду пра сталінскія рэпрэсіі — найбольшай шокавай тэрапіяй для грамадства была праўда пра Курапаты. І таксама гэта праўда пра Чарнобыль, які ўдарыў найперш па Беларусі. Гэтыя два чыннікі былі вельмі моцным мабілізатарам для людзей датуль, можа, далёкіх ад палітыкі.

Тыя людзі, якія сёння вызнаюць ідэалы класічнага Беларускага народнага фронту — катэгарычнае непрыняцце дыктатуры, паяднанне ідэяў свабоды і незалежнасці ў неразрыўным адзінстве, яны сёння неабавязкова належаць да нейкіх фармальных палітычных структураў. Гэта людзі як майго і старэйшага пакаленняў, так і тыя, якім сёння 20 гадоў. Якраз у гэтых, дваццацігадовых, я найбольш веру, таму што яны, не будучы яшчэ сапсаванымі прагматызмам служэння рэжыму, ілюзіямі наконт таго, што можна пад некага падладзіцца, якраз тыя класічныя ідэалы БНФ, тыя сцягі падхопяць, — спадзяецца Вінцук Вячорка.

**БелаПАН**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Пойдзем шукаць скарб

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Улады прыдумалі зручную для сябе схему, па якой даецца «экспертная ацэнка» магчымых эканамічных рашэнняў. У якасці экспертаў выступае ўся краіна, усё насельніцтва Беларусі.**



Працуе схема так — «укід» інфармацыі, адсочванне рэакцыі ў СМІ і спецыялізаваных супольнасцях, аналіз дадзеных — і адмова ад рашэння. Прынамсі, гэта дазваляе не нарабіць буйных памылак.

Так было з указамі аб сельскай гаспадарцы: мы пісалі, што падтрымка вёскі ў тым плане, як гэта меркаваў урад, заб'е сельгасвытворчасць. У выніку прымаць такія ўказы Лукашэнка не стаў. У мінулым нумары мы патлумачылі, што планаваны ў краіне «інстытут спецімпарцёраў» можа прывесці краіну да дэфолту. І зноў урад прыслухаўся да нашай «эканамісткі» Таццяны Лісічэнкі. Міністэрства прамысловасці адмовілася ад увядзення інстытута спецімпарцёраў для прамысловых прадпрыемстваў дзяржаўнай формы ўласнасці.

«Міністэрства прамысловасці пасля разгляду з зацікаўленымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання пытання па прадастаўленні выключнага права дзяржавы на ажыццяўленне імпарту шэрагу прамысловых тавараў, працу па падрыхтоўцы нарматыўнага дакумента лічыць немэтазгодным», — паведамілі ў Мінпраме. Таксама там падкрэслілі, што «ўвядзенне спецімпарцёраў у далейшым не плануецца».

Адзін раз — можа быць, і выпадковасць. Два разы — гэта ўжо тэндэнцыя. Але ўраду трэба папрацаваць над сваім іміджам. Бо такая колькасць «планаваных, але не прынятых рашэнняў», якія «не прайшлі грамадскі кантроль», можа зрабіць уражанне, што ва ўладзе сядзяць непрафесіяналы, якія не могуць пралічыць наступствы сваіх ініцыятываў. Пэўна, там трэба было б стварыць адмысловую групу, якая б займалася выключна выкрыццём негатыўных наступстваў кожнай урадавай ініцыятывы. І не выпускаць на «народную ацэнку» тыя рашэнні, якія б праз гэтую групу не прайшлі. То бок, не агучваць на публіку відавочнае глупства.

Гэта, як кажуць, навіна добрая. У астатнім справы ўсё горш і горш.

Расія вырашыла нас «кінуць», нягледзячы на тое, што мы падпісалі пагадненне пра Еўразійскі эканамічны саюз. Дамаўляліся: мы падпісваем — яны нам крэдыт у два мільярды «зялёных». Сваю частку мы годна выканалі, а вось грошы так і не прыйшлі. І, можа быць, не прыйдуць.

Дзярждума РФ прыняла папраўкі ў закон аб бюджэце на 2014 год, якія прадугледжваюць толькі павелічэнне даходаў і прафіцыт федэральнага бюджэту ў бягучым годзе. Агульны аб'ём выдаткаў бюджэту не змяняецца і застаецца на ўзроўні 13,96 трыльёна расійскіх рублёў. Гэта азначае адсутнасць якіх-небудзь змяненняў па ўмовах міждзяржаўнага крэдыту, які РФ мае намер даць Беларусі ў гэтым годзе.

Параметры крэдыту Беларусі за кошт расійскага бюджэту–2014 былі вызначаны напачатку года — $450 мільёнаў на 10 гадоў пад 4% гадавых з ільготным перыядам у два гады. Але незадоўга да падпісання ЕАЭС Пуцін паабяцаў дадатковыя грошы ў памеры $2 мільярды. Да таго ж, Беларусь так і не атрымала абяцаны кіраўніком Банка развіцця Сяргеем Румасам брыдж-крэдыт расійскага банка ВТБ у $1 мільярд.

Брыдж-крэдыт — гэта «тэрміновы» крэдыт пад высокія працэнты і з маленькім тэрмінам ягонага вяртання. То бок, гэта такі аналаг «грошай да зарплаты»: дай мільён на тыдзень, а калі заробак атрымаю, вярну мільён дзвесце. Калі расійскі ВТБ адмовіўся даць грошы «да заўтра», значыць, ён ведае — заўтра яны ў нас не з'явяцца, то бок, ніякіх дзеянняў па вылучэнні Беларусі міждзяржаўнага крэдыту ў Расіі не прадпрымаецца. І таму даваць грошы «ў невядомасць» ВТБ не жадае.

Расія, нягледзячы на ўсе Мытныя саюзы і ЕАЭС, таксама мае намер падгадзіць нам і з іншай прадукцыяй. Зараз нашы тавары хай кепска, але ж прадаюцца ў Расіі. А вось беларускае піва і іншыя тавары «ў пластыку» хутка ў Расію не пойдзець. У ніжняй палаце расійскага парламента прайшоў першае чытанне законапраект аб забароне продажу піва ў ПЭТ-тары на тэрыторыі краіны.

Пад пагрозай можа апынуцца не толькі піва, але і раслінны алей, сокі, малако, напоі і іншая прадукцыя ў пластыкавай упакоўцы. ПЭТ-тару аб'ёмам больш за 0,5 літра могуць забараніць ужо з 1 студзеня. Расійскія парламентары перакананыя, што ПЭТ-тара небяспечная для здароўя, півавары ж называюць законапраект дыскрымінацыйным. Ён абмяжуе доступ на расійскі рынак упакаванай у ПЭТ прадукцыі з Беларусі і Казахстана. А ў нас, напрыклад, піва ў ПЭТ-тары — 80% ад усёй вытворчасці напою.

Я ўжо не кажу пра чарговую ініцыятыву дэпутата расійскай Дзяржлумы ад партыі «Справядлівая Расія» Алега Міхеева забараніць у Мытным саюзе (то бок і ў Беларусі таксама) кеды, балеткі, а таксама абутак на высокім абцасе. Маўляў, яны для здароўя шкодныя. Можа быць, і шкодныя, але што тады будзе рабіць «Белкельме», напрыклад? Закрывацца?

З такімі эканамічнымі хаўруснікамі нам ворагаў не трэба. І нашто мы палезлі ва ўсе гэтыя саюзы? Ад іх адны непрыемнасці. То карункавую бялізну забароняць, то абцас... Заўважым: забараняюць усё рускія, церпяць беларусы, а кампенсацыі за цярплівасць — ніякай.

Карацей, грошай няма. А калі няма грошай, і, падаецца, узяць іх няма адкуль, то застаецца дзейнічаць як у мульціку пра Прастаквашына — пайсці ў поле шукаць скарб. Неверагодна? Але ж у Прастаквашына знайшлі яго адразу. Гэта ў мульціку? Вы ўпэўненыя?

«Кропку ў гісторыі з дыяментамі яшчэ ставіць рана», — паведаміў у інтэрв'ю газеце «Рэспубліка» дырэктар дзяржаўнага прадпрыемства «Белдзяржгеацэнтр» Андрэй Каўхута. «На Гомельшчыне выяўлена 33 трубкі выбуху, у некаторых з іх знойдзена зерне алмазаў. Праўда, само радовішча не выяўлена. Сёння пошукавыя працы прыпыненыя. А ў свой час цікавасць з боку інвестараў да патэнцыйных беларускіх дыяментаў была», — заўважыў спадар Каўхута.

Паколькі гэты «свой час» прыпаў на «ліхія 90-я», калі не было спрыяльнага інвестыцыйнага клімату, супрацоўніцтва не склалася. Між тым, у нашай краіне вулканічных структур, адкуль «родам» трубкі выбуху і самі алмазы, вельмі шмат.

Дык што, па дыяменты?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Пётр Пракаповіч



**Віцэ-прэм'ер заявіў, што беларускія ўлады не плануюць уводзіць норму аб абавязковай прысутнасці беларускіх тавараў у гандлі ў памеры 85% ад агульнага аб'ёму нейкім нарматыўным актам. Але тым, хто не выканае гэтае даручэнне, мала не пакажацца.**

«Ніхто заканадаўча не можа дазволіць або забараніць, або паказаць каму, што выраблць і колькі павінна прысутнічаць у гандлі беларускіх ці імпартных тавараў», — заявіў Пракаповіч. «Але мы павінны зрабіць так, каб гандлёвыя сеткі спрабавалі ўзяць па максімуме на рэалізацыю беларускія тавары, і я ўжо бачу, што нашы малыя прадпрыемствы гатовыя ўступіць у канкурэнцыю», — паведаміў Пракаповіч, які з'яўляецца прабацькам новага прынцыпу адміністрацыйнага кіравання эканомікай праз прыняцце абавязковых да выканання рэкамендацый. Менавіта пры ім Нацбанк пачаў актыўна выкарыстоўваць рэкамендацыі для кіравання банкаўскай сферай.

Між тым, у Мінгарвыканкаме прайшла нарада з удзелам кіраўнікоў гандлёвых аб'ектаў, у ходзе якой была выдадзена «рэкамендацыя» — удзельная вага беларускіх тавараў павінна быць даведзена да 85% асартыменту крамаў і аб'ектаў грамадскага харчавання. На выкананне гэтага даручэння і выпраўленне іншых парушэнняў і заўваг па якасці абслугоўвання ўлады Мінска адвялі тыдзень, папярэдзіўшы, што да тых, хто праігнаруе патрабаванні Мінгарвыканкама, будуць ужытыя жорсткія меры, аж да закрыцця гандлёвых аб'ектаў.



## Валерый Вакульчык

**Кіраўнік КДБ Беларусі Валерый Вакульчык пацвердзіў, што ягонае ведамства кантралюе прыватную перапіску людзей без дай прычыны.**

24 чэрвеня старшыня КДБ Беларусі на пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў заявіў, што практычна штомесяц беларускія спецслужбы выяўляюць у інтэрнэце перапіску людзей, якія абменьваюцца інфармацыяй «па вырабе выбуховых прылад».

«Адны вырабляюць гэтыя прылады ў хуліганскіх мэтах, іншыя — з цікаўнасці», — сказаў старшыня камітэта. Пры гэтым ён падкрэсліў, што ўсё гэта можа несці пагрозу не толькі для саміх «падрыўнікоў», але і для ўсяго грамадства. Таксама кіраўнік КДБ паведаміў, што падчас ЧС–2014 па хакеі спецслужбы зафіксавалі ў інтэрнэце паведамленні ад адной невядомай асобы іншай пра тое, што «падрыхтавана банка з аманіту, гэта значыць выбуховае прыстасаванне, і засталося толькі яго запусціць». Дзякуючы ўзаемадзеянню з калегамі з Расіі было ўстаноўлена, што адзін з гэтых людзей знаходзіўся ў Санкт-Пецярбургу, іншы чалавек быў у Беларусі. У выніку аказалася, што гэта быў жарт. «Але гэта стала вядома толькі потым. І адны б мы гэтую інфармацыю не высветлілі», — адзначыў Валерый Вакульчык.

Старшыня КДБ не ўдакладніў, дзе менавіта перапісваліся грамадзяне, аб якіх ішла гаворка і якім менавіта спосабам была перахопленая інфармацыя. Нагадаем, што па беларускім заканадаўстве прагляд прыватнай перапіскі магчымы толькі з санкцыі пракурора.



## Міхаіл Грабоўскі

**Агент Гэры Грынсцін, які прадстаўляе інтарэсы форварда «Вашынгтон Кэпіталс» Міхаіла Грабоўскага, паведаміў, што яго кліент хацеў бы застацца ў «Кэпіталс».**

«Думаю, у кіраўніцтва «Вашынгтона» ёсць цікавасць у захаванні Міхаіла, сам ён таксама гэтага хоча. Паглядзім, чым усё скончыцца. Калі мы дамовімся да 1 ліпеня, гэта будзе вельмі добра, хоць у нас застаецца не так шмат часу. Калі не, то нам, у прынцыпе, няма пра што турбавацца», — сказаў Грынсцін.

Раней паведамлялася, што Грабоўскі хоча падпісаць кантракт на 4–5 гадоў з заробкам у 5 мільёнаў долараў у год.

Нагадаем, мінулым летам «Таронта» выкупіў пагадненне 30-гадовага беларуса, пасля чаго той падпісаў гадавы кантракт з «Вашынгтонам» на 3 мільёны.

# Алесь Бяляцкі: Трэба жыць на сваёй зямлі

Генадзь КЕСНЕР

**Старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі ў панядзелак правёў першую пасля выхаду на волю сустрэчу з журналістамі.**

Былы палітвязень распавёў пра ўмовы ўтрымання за кратамі, пра свае адчуванні ў калоніі і планы на будучыню.

Да офіса «Вясны», што на вуліцы Мяржынскага ў Мінску, яшчэ за гадзіну да вызначанага часу пачалі падцягвацца не толькі журналісты, але і калегі Бяляцкага з іншых праваабарончых арганізацыяў. Алесь з'яўляецца і сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў, таму не дзіва, што з вялікім букетам бел-чырвона-белых кветак павітаць яго прыйшлі старшыня БАЖ Жанна Літвіна і яе намеснік Андрэй Бастунец. Заскочыў паціснуць руку кіраўніку «Вясны» і лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. А вочы самі́х вясноўцаў літаральна свяціліся радасцю з таго, што іх любімы шэф зноў побач.

### Вызваліць усіх палітвязняў

На самым пачатку прэс-канферэнцыі Алесь Бяляцкі падзякаваў тым, хто рабіў усё магчымае дзеля яго як мага хутчэйшага вызвалення — калегам-праваабаронцам, грамадзянскай супольнасці, журналістам, якія пастаянна пісалі пра яго. Былы вязень ведае гэта, бо меў магчымасць атрымліваць у Бабруйскай калоніі незалежныя выданні.

Потым Алесь выкрасліў чырвоным маркерам з майкі са спісам палітвязняў сваё імя. «Адным палітвязнем у Беларусі стала меней, але яшчэ сем палітычных застаюцца ў вязніцах, — нагадаў Бяляцкі. — Я спадзяюся, што маё вызваленне — толькі пачатак, і іншыя палітвязні будуць таксама на волі. Я звяртаюся да ўладаў з патрабаваннем не спыняцца на вызваленні толькі Бяляцкага, бо сітуацыя з маім вызваленнем не паляпшаецца. Мы павінны быць краінай без палітвязняў, і мы знаходзімся ад гэтага даволі блізка. Дастаткова выпусціць гэтых сем чалавек — Мікалая Статкевіча, Эдуарда Лобава, Арцёма Пракапенку, Васіля Парфянкова, Яўгена Васьковіча, Ігара Аліневіча, Мікалая Дзядка — і абвясціць мараторый, выявіць добрую волю адносна грамадзянскай супольнасці, да людзей з іншымі поглядамі».



**Алесь Бяляцкі распавёў пра ўмовы ўтрымання за кратамі, пра свае адчуванні ў калоніі і планы на будучыню.**
Фота Генадзя Кеснера

### Умова для пацяплення стасункаў

Хтосьці з калегаў запытаўся ў кіраўніка «Вясны», што ён думае наконт актывізацыі апошнім часам дзейнасці афіцыйнага Мінска на заходнім накірунку і магчымага пацяплення ў дачыненнях паміж Беларуссю і Еўропай.

«Першае, чаго трэба дамагацца, — гэта вызвалення палітвязняў. Усялякія размовы пра пацяпленне могуць весціся толькі пасля гэтага. Пакуль ёсць палітвязні, мы не павінны дапускаць такой сітуацыі падвойных стандартаў, як, напрыклад, у Азербайджане, дзе ёсць палітвязні, але таварыш Аліеў катаецца па Еўропах, і з ім усе вітаюцца. Такога ў нас не павінна быць, і мы мусім рабіць тое, што і рабілі да маёй пасадкі. Надзвычай важна стварэнне сітуацыі накшталт таго, як бывае "бяз'ядзерная зона", то ў нас павінна быць зона без палітвязняў. І калі мы даб'емся гэтага, і калі ўлады зразумеюць, што для іх гэта выгадна ў палітычным і эканамічным плане — не мець палітвязняў у Беларусі, вось тады могуць ісці і іншыя размовы і перамовы. Пакуль гэтага няма, гаварыць пра паляпшэнне сітуацыі не выпадае. Калі сядзіць хоць адзін чалавек, гэта азначае, што паўторыцца сцэнар, які быў у 2010 годзе. Зноў нейкі зрыў — і ў нас не адзін, а сто чалавек у турме. Зноў у нас чарговы чэмпіянат — і пачынаюцца незразумелыя затрыманні, дэбільныя пратаколы за лаянку матам. Мы не павінны скатвацца да сітуацыі бяспраўя і беззаконня, якое фактычна прыкрываецца ўладай. Калі мы спрабуем пабудаваць нешта на законных падставах, дык давайце гуляць больш-менш шчыра ў гэтай гульні», — падкрэсліў Бяляцкі.

### Высокая мэта

Па словах экс-палітвязня, тое, што яго ўнутрана трымала падчас трох гадоў знаходжання ў няволі, — гэта мэта, дзеля якой ён «сядзеў». «Сядзець за дэмакратычную Беларусь, за Беларусь незалежную — гэта нармальна, гэта можна. Я не ўпадаў ні ў якія стрэсавыя сітуацыі, не знаходзіўся ў нейкім унутраным заламанні. Бо мэта, дзеля якой і актывісты грамадзянскай супольнасці, і дэмакратычна настроеныя беларусы дабіваюцца змянення сітуацыі ў нашай краіне ў лепшы бок, высокая. І гэтая мэта патрабуе пэўных намаганняў, і калі трэба, то нават вось такіх ахвяраў, хаця, можа быць, гэта занадта высокае слова», — сказаў праваабаронца. І дадаў, што проста так, без высілкаў, «у нас нічога не будзе». «З тым пачуваннем, за што я сяджу, мне ўнутрана сядзелася вельмі лёгка», — адзначыў Алесь.

### Поўная нечаканасць

Бяляцкі прызнаўся, што датэрміновае вызваленне сталася для яго поўнай нечаканасцю. Яшчэ а 8-й раніцы ў суботу, 21 чэрвеня, ён быў на працы, а ўжо а 9-й яго выклікалі да начальства калоніі, дзе паведамілі, што ён вызваляецца «згодна артыкула 6 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб амністыі" ад 17.06.2014 на неадбытую частку тэрміна».

Паўтары гадзіны спатрэбілася амніставанаму на зборы, пасля чаго Алеся і яшчэ аднаго таксама амніставанага чалавека на машыне «хуткай дапамогі» (?!) даставілі на вакзал Бабруйска і пасадзілі ў электрычку да Мінска. «Відаць, яны вельмі баяліся, каб інфармацыя пра маё вызваленне не прасачылася за муры калоніі, і каб тут нешта не здарылася. Таму вось так яны спяшаліся», — усміхнуўся Бяляцкі.

### Аб памілаванні нават не задумваўся

Праваабаронца падкрэсліў, што ў яго нават у думках не было падаваць прашэнне аб памілаванні. Хоць прапановы такія паступалі.

«Выбару, пісаць ці не пісаць прашэнне, у мяне не было. Фармальна, мне прапаноўвалі два разы напісаць прашэнне на імя Лукашэнкі — спачатку ў верасні 2011-га, а пасля ў студзені 2014-га пасля прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі. Дарэчы, у калоніях шмат што не гаворыцца на словах, але цябе падштурхоўваюць сваімі ўчынкамі, нейкімі дробнымі правакацыямі ды абмежаваннямі», — адзначыў Бяляцкі.

### Жыць на сваёй зямлі

На пытанне, ці не збіраецца ён пасля вызвалення па прыкладзе Андрэя Саннікава і Зміцера Бандарэнкі з'ехаць з Беларусі, Алесь Бяляцкі катэгарычна адказаў: «Не!». «З'язджаць я не збіраюся, мне тут вельмі камфортна. Я нават на зоне, пра што пісаў у лістах, адчуваў сябе вельмі камфортна, бо вакол мяне свае людзі. Для мяне важная атмасфера беларускага грамадства — такога, якое яно ёсць. Добра, калі людзі, асабліва маладыя, едуць за мяжу вучыцца, каб набрацца ведаў, а потым вярнуцца ў Беларусь і рабіць жыццё лепшым. Але жыць за мяжою я б не змог. Жыць трэба на сваёй зямлі», — сказаў праваабаронца.

# Надзея застаецца, і яна ж падрывае сілы

Генадзь КЕСНЕР

**Мы звярнуліся да сваякоў палітзняволеных, якія дагэтуль застаюцца за кратамі з пытаннем, ці спадзяюцца яны на вызваленне сваіх родных у сувязі з вызваленнем Алеся Бяляцкага?**

**Марына Адамовіч, жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Мікалая Статкевіча:**



— Я не бачу тут нагоды для нейкіх пазітыўных чаканняў. Што тычыцца Алеся Бяляцкага, то я разлічвала на яго вызваленне. Так званыя пазітыўныя сігналы для Захаду даюцца ўжо даўно. І калі быў надрукаваны цяперашні закон аб амністыі, то там з'явіўся артыкул, па якім Алесь быў асуджаны, і тады ў мне з'явіліся спадзяванні. Бо да гэтага былі адмысловыя выняткі, і калі хоць адзін «палітычны» сядзеў па пэўным артыкуле, то гэты артыкул выключаўся з закона аб амністыі.

Так што гандаль пачаўся, свае казырныя карты, як ні цынічна гэта выглядае, Лукашэнка выклаў. Але ў гэтым жа законе аб амністыі ўсе астатнія артыкулы Крымінальнага кодэкса, па якіх асуджаны палітычныя зняволеныя, як і раней, ідуць у вынятках. То бок, яны спецыяльна прапісаныя як артыкулы, на якія амністыя не распаўсюджваецца.

Я не выключала, я заўжды казала і кажу, што надзея ніколі не памірае, пакуль мы жывыя, і вызваленне хлопцаў будзе залежаць не ад тых ці іншых законаў, але ад эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне і вакол яе. Але пад гэтую канкрэтную амністыю я іх не чакаю.

Паспрыяць хутчэйшаму вызваленню палітвязняў могуць супольны ўціск і адзіны голас беларускага дэмакратычнага грамадства і еўрапейскіх ды паўночнаамерыканскіх нашых партнёраў, сусветнай супольнасці. Ну, і тое, што ад нас з вамі не залежыць, гэта эканамічная і палітычная сітуацыя. Тое, што зараз адбываецца на Украіне, як не дзіўна, магло б паспрыяць вызваленню беларускіх палітвязняў. Бо гэта такі моцны сігнал, які не можа не напужаць беларускія ўлады. Так што я, канешне, спадзяюся, але ў сувязі з гэтым законам аб амністыі я нічога станоўчага не чакаю.

**Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча:**



— З такімі пытаннямі можна звяртацца да каго заўгодна, але не да маці зняволеных. Вельмі балюча на іх адказваць. Надзея падрывае сілы. Таму нічога не буду казаць, нават з усёй павагаю ставячыся да вашага выдання. Проста не магу.

# Зброя ёсць — не маем грошай

Сяргей ПУЛЬША

**Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз расказаў, якое ў нас павінна быць войска: неабходна ствараць мабільную армію, абсталяваную эфектыўным узбраеннем. З гэтым ніхто не спрачаецца. А вось за якія грошы — Аляксандр Рыгоравіч, на жаль, не паведаміў.**

### Усё сваё?

«Нам патрэбна мабільная армія. Мы зрабілі на гэта стаўку. Яе трэба забяспечыць мабільнымі машынамі і эфектыўным узбраеннем. Нам мабільная тэхніка важней, чым танкі, самалёты і іншае. Мы не будзем весці такую вайну, як Расія ці Амерыка. Нам патрэбныя гэтыя мабільныя шматмэтавыя машыны, каб мы маглі ў любы час выехаць, куды трэба, і нанесці непапраўную шкоду таму, хто сюды паедзе. Сучасная вайна без іх немагчымая», — заявіў Лукашэнка, наведваючы прадпрыемствы ВПК.

Кіраўнік дзяржавы і (не будзем на гэта забывацца) галоўнакамандуючы паставіў задачу распрацаваць і вырабіць у Беларусі ўласны ўзор бронемашыны. Таксама паставіў задачу распрацаваць зенітна-ракетныя сістэмы, не горш за расійскія С-300. «Вы думайце, якая ў яго будзе ракета. Галоўнае, каб яна была эфектыўная, каб яна пацэліла ў любую цэль. Не сядзець і не чакаць. Усе заводы калісьці пачыналі з рамонту на каленях, з малатка, мадэрнізацыяй займаліся, а потым выходзілі на новыя ўзоры. Падумайце, які гэта павінен быць узор, і далажыце», — даручыў беларускі кіраўнік.

Канешне, досвед Украіны патрабуе больш увагі звяртаць на войска. Але, як мы бачым, гэтая ўвага нейкая «доўгатэрміновая». Ці здольны беларускі ВПК на стварэнне сваёй буйной тэхнікі, такой, як аналаг С-300?

### Здольныя!

Як мяркуе ваенны аглядальнік Аляксандр Алесін, мы на ўсё здольныя. «У нас ёсць досвед глыбокай мадэрнізацыі, напрыклад, комплексаў Т25 «Пячора», чым займаецца прадпрыемства «Тэтраэдр». Ёсць досвед мадэрнізацыі комплексаў «Пячора» 2М, якую выконваюць «Волат-Аўта» і Барысаўскі 2566 завод па рамонце радыёэлектроннага ўзбраення. У працэсе мадэрнізацыі фактычна мы стварылі новы комплекс — ад ранейшага засталася толькі назва «Пячора», — лічыць Алесін.



Так што мы можам скапіяваць і С-300. Адзіная праблема — у нас адсутнічае ўласная вытворчасць ракет. Але іх можна купіць ва Украіне, якая раней працавала на ракетны комплекс Расіі, а зараз... Дарэчы, і кан'юнктура рынку зараз падыходзячая.

### Вы хочаце танкаў?

Не ведаю, якія там у Лукашэнкі дарадцы, але ягоная мара пра «ўласны ўзор бронемашыны» даўно ўжо здзейснена. Яшчэ напачатку 2000-х гадоў беларускае прадпрыемства «Мінатор-сэрвіс» распрацавала і вырабіла выдатную баявую разведвальна-дыверсійную машыну 2Т «Сталкер». Гэта ідэальная зброя для войска, пра якое марыць Лукашэнка — мабільнай і «стрымліваючай» арміі, закліканай нанесці праціўніку «непапраўныя» страты.

Запас ходу «Сталкера» — 1000 кіламетраў, хуткасць — 95 км/гадз. Запас харчавання, вады, запасных акумулятараў дазваляюць экіпажу пратрымацца тыдзень у аўтаномным рэжыме.

Універсальны комплекс узбраення ўключае ў сябе стабілізаваную 30-мм аўтаматычную гармату са спараным 7,62-мм кулямётам, 30-мм аўтаматычны гранатамёт. Машына можа несці 12 супрацьтанкавых мін. Дзве высоўныя пускавыя ўстаноўкі для супрацьтанкавых і зенітных ракет, што робіць яе небяспечнай не толькі для наземных войскаў, але і для авіяцыі. Двухканальная абаронапрыцэльная сістэма кіравання агнём забяспечвае пошук, выяўленне і суправаджэнне цэляў у пасіўным рэжыме ў любых умовах. Корпус зроблены па тэхналогіі «стэлс», што дае паніжаную прыкметнасць у радыёлакацыйным, цеплавым і аптычным дыяпазонах.

Гендырэктар прадпрыемства «Мінатор-сэрвіс» Валер Грабеншчыкаў у 2009 годзе на ваеннай выставе «MILEX» у Мінску заявіў журналістам: «Гэта машына для спецыяльных аперацый: яна сышла, прыйшла, нешта зрабіла, і ніхто не ведае, што яна тут была». Кантрактамі на яе пастаўку нават забаронена называць заказчыкаў і месцы, у якія яна пастаўляецца.

### Грошы дзе?

На ўзбраенні беларускай арміі «Сталкераў» няма. Як толькі гэтая машына з'явілася, беларускія Узброеныя сілы планавалі закупіць 30 штук. Але нават на такі мізэр у беларускай арміі грошай не хапіла — дорага каштуе.

Кіраўнік ваенна-аналітычнага праекту Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў адзначае, што такая сітуацыя не толькі са «Сталкерамі». «Напрыклад, гранатамёт УАГ-40, распрацаваны ў Беларусі, але ствараецца ва Украіне. Альбо зенітны комплекс Т38 «Стылет»: ягоны ўкраінска-беларускі варыянт паспяхова пастаўляўся ў Азербайджан. Справа ў тым, што вытворчасць такой тэхнікі не можа быць таннай у сілу складанасці яе вытворчасці і абмежаванасці краінаў-вытворцаў гэтай тэхнікі», — адзначыў Паротнікаў.

Па меркаванні Паротнікава, калі ў нас будзе ствараецца нешта накшталт С-300, «гэта не будзе прарыўной распрацоўкай». «Гэта будзе тое, што мы можам зрабіць з досведу мадэрнізацыі тэхнікі», — лічыць ён. І канешне, гэта будзе крыху больш танны прадукт, зважаючы на ягоную «нерэвалюцыйнасць». Асноўныя затраты тут — кошт ракетаў, якія мы можам заказваць альбо ва Украіне, альбо ў Кітаі.

Але што тычыцца беларускага войска, то нават на «больш танны прадукт» патрэбныя грошы. І, па словах Паротнікава, пытанне закупак — гэта дзясяткі мільёнаў долараў на год. «У войска такіх грошай няма», — адзначае ваенны эксперт. А значыць, распрацоўвай — не распрацоўвай, а ў войска тэхніка не трапіць.

### «Патрэсці Бураціну»

Выйсце, па меркаванні Паротнікава, тут адно: хочаш добрую армію — прыйдзецца раскашэльвацца. «У войска грошай няма, але гэта не значыць, што іх няма ў краіне. Усё ж наш бюджэт — 26 мільярдаў долараў на год. А ёсць яшчэ пазабюджэтныя фонды... Калі патрэсці «багаценькага Бураціну», грошы на тэхніку знайсці можна. Але гэта ўжо справа прыярытэту: альбо войска, альбо «лядовыя палацы», — лічыць эксперт.

Ці раскашэліцца Аляксандр Рыгоравіч на армію — вось асноўнае пытанне мадэрнізацыі Узброеных сіл. А не недахоп у новых распрацоўках.

# Парады аматарам імпарту

Вольга ХВОІН

**Хітом чэрвеня мусіць стаць навіна пра рашэнне Мінгарвыканкама павялічыць удзельную колькасць тавараў айчыннай вытворчасці ў крамах і аб'ектах грамадскага харчавання сталіцы да 85 працэнтаў.**

І вось ужо праз некалькі дзён пасля скандальнага распараджэння, зусім выпадкова, зразумела, прайшлі праверкі. Кантралёры Мінгандлю, службаў Дзяржстандарту і Міністэрства аховы здароўя выявілі шматлікія парушэнні пры рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці ў мінскіх гандлёвых цэнтрах «Люстэрка», «Пасаж», «Сілуэт», «Еўропа». Для кантролю была адабраная прадукцыя імпартнай вытворчасці: цацкі, дзіцячы абутак, трыкатажныя і швейныя вырабы і інш.

Кантралёры выявілі: неадпаведнасць абутку тэхнічным патрабаванням, дэзінфармацыя пакупнікоў наконт даты вырабу і матэрыялу (паказаная на цэтліку натуральная скура, а фактычна штучная), адсутнасць папераджальных надпісаў на дзіцячых цацках і інш. Было выдадзена больш за 30 рэкамендацый для ліквідацыі парушэнняў заканадаўства аб абароне правоў спажыўцоў.

### Віртуальны паратунак

На шчасце, Беларусь — не ізаляваная краіна, а сучасны свет сапраўды глабальны. Пытанне выбару вырашаецца даволі проста: з дапамогаю візы ў пашпарце, паездкі на шопінг без візы ва Украіну, інтэрнэт-гандлю. Апошні хоць і мае абмежаванне на пакупкі ў памеры 120 еўра на чалавека ў месяц і сякія-такія нязручнасці з-за дыстанцыйнага выбару рэчы і затраты часу на яе дастаўку, але набірае абароты.

Па ініцыятыве гандлёвай пляцоўкі KUPI.TUT.BY аналітычнае агенцтва Data Insight правяло першае ў Беларусі даследаванне рынку электроннага гандлю. З даследавання вынікае,

**У студзені-красавіку імпарт спажывецкіх тавараў у Беларусь склаў 2 мільярды 380,7 мільёна USD і вырас у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 3,8 %. У той жа час экспарт беларускіх спажывецкіх тавараў за названы перыяд склаў 2 мільярды 307,5 мільёна USD, знізіўшыся на 10,5 %.**

што сярэдні чэк беларусаў на пакупку ў інтэрнэце складае 91 долар, цягам 2013 года было здзейснена 4 700 000 пакупак на агульную суму 420 000 000 долараў. З чэрвеня беларусам стала даступная рэгістрацыя ў плацёжнай сістэме PayPal. Цяпер, як выказаліся на адным форуме, «увесь E-bay наш». І з такім раскладам чыноўнікі мараць пра абмежаванне імпарту?

Увогуле, гэтыя размовы падаюцца досыць пустымі. Так, будзе спалена шмат нерваў, магчыма, некаму разбураць бізнэс, незадаволенасць дзеяннямі ўладаў павялічыцца. А воз... воз будзе на месцы. На шчасце беларусаў, не ўсе пастановы і рашэнні мудрага кіраўніцтва знаходзяць сваё рэальнае ўвасабленне.

### Практычныя парады

Калі ўсё ж дзяржаве атрымаецца пазбавіць нас імпартных тавараў, так бы мовіць, на выпадак імпартнага голаду прапануем некаторыя парады.

Буйныя гандлёвыя інтэрнэт-пляцоўкі, дзе можна знайсці ўсё — ад гузікаў да брэндавай вопраткі, абутку і складанай тэхнікі: e-bay.com, Amazon.com, AliExpress.com.

Раім прыглядзіцца і да такога варыянту шопінгу, як «сумесныя пакупкі»: калі людзі каапераюцца праз інтэрнэт і набываюць рэчы наўпрост у вытворцы ці на аптовых базах, адпаведна, без вялікіх гандлёвых накрутак. Сумесныя пакупкі можна знайсці на сайтах second.by і rebenok.by.

Там жа можна знайсці пасярэднікаў, якія за невялікі адсотак дапамогуць набыць і прывязуць у Беларусь рэчы з амерыканскіх сайтаў, што наўпрост не дасылаюць тавары ў Беларусь. Для цікаўнасці зайдзіце на сайт 6pm.com і азнаёмцеся з асартыментам-цэнамі, каб пасля было з чым параўноўваць прапановы айчынных крамаў.

Большасць інтэрнэт-крам без праблем прымаюць карткі такіх міжнародных плацёжных сістэм, як Visa і MasterCard. Адмыслоўцы раяць для інтэрнэт-пакупак завесці асобную карту і разлічвацца толькі ёй, а таксама не трымаць на гэтай картцы вялікіх сум грошай.

Анонс інтэрнэт-крамаў замежных вытворцаў не ёсць спробаю падкласці свінню беларускаму «Світанку» і яго калегам. Гэта ўсяго толькі прапанова навучыцца знаходзіць альтэрнатыву, калі нехта спрабуе навязаць свой адзіна правільны погляд на рэчаіснасць.

Бялізну, вопратку, верхнюю вопратку, абутак, галантарэю, касметыку можна набыць і беларускай вытворчасці. Толькі эстэтыка і якасць матэрыялу, асабліва гэта тычыцца тэкстылю і славутага трыкатажу, далёка не заўсёды на вышыні.

На прыкладзе дзіцячых рэчаў магу сказаць, што выбар маці, якія засвоілі віртуальныя гандлёвыя пляцоўкі, у 95% будзе схіляцца не да айчыннага вытворцы. Усё з тых жа банальных прычынаў: якасць, дызайн, цана.

# Што нам абавязана дзяржава?

Міхаіл ПАСТУХОЎ, Сяргей ПУЛЬША

**Мы шмат казалі пра тое, якія правы і свабоды гарантуюць нам міжнародныя дакументы. Гэтыя ж правы гарантуе нам і Канстытуцыя.**




Канстытуцыя 1994 года стваралася на аснове міжнародных дакументаў і канстытуцыяў дэмакратычных краінаў, прайшла экспертызу ў Венецыянскай камісіі — галоўным кансультатыўным органе па канстытуцыйным праве, створаным пры Савеце Еўропы. І атрымала там высокую адзнаку. У 1996 годзе ўлады можа і хацелі б выкінуць з дакумента некаторыя раздзелы пра правы і свабоды грамадзянаў, але тады яшчэ спадзяваліся на супрацоўніцтва з Еўропай. Было значна прасцей не выконваць палажэнні Канстытуцыі, якія тычыліся забеспячэння правоў і свабодаў.

## «Міжнародны» дакумент

Як і ў шматлікіх міжнародных дакументах, канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзян падзяляюцца на пяць груп. Гэта грамадзянскія правы, палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя і культурныя.

Грамадзянскія правы і свабоды — найбольш значныя. З часоў французскай рэвалюцыі яны атрымалі назву «натуральных і неадчужальных правоў», бо з'яўляюцца пажыццёвай уласнасцю грамадзян, ад нараджэння і да смерці. Дзяржава не можа замахвацца на іх, акрамя як у выключных выпадках. Гэта права на жыццё; права на свабоду, недатыкальнасць і годнасць асобы; права не лічыцца вінаватым у здзяйсненні злачынства, пакуль віна не будзе даказаная ва ўстаноўленым парадку; права не сведчыць супраць самога сябе, членаў сваёй сям'і, блізкіх сваякоў; права на абарону ад незаконнага ўмяшання ў асабістае жыццё, у тым ліку на тайну карэспандэнцыі, тэлефонных і іншых паведамленняў; права на недатыкальнасць жылля і іншых законных уладанняў; права на свабоду перамяшчэння і выбар месца жыхарства ў межах Рэспублікі Беларусь, права пакідаць краіну і беспершкодна вяртацца назад; права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі; права на добраахвотнай аснове ўступаць у шлюб і ствараць сям'ю.

Правоў у нас багата, праблема ў тым, што дзяржава не спяшаецца іх выконваць. Напрыклад, асноўнае права — на жыццё. Дзяржава дагэтуль лічыць прымальным для сябе адбіраць жыццё шляхам смяротнага пакарання. Дарэчы, тут ёсць і пэўнае супярэчанне ў Асноўным законе. З аднаго боку, Канстытуцыя гарантуе права на жыццё, з другога — яна ўсталёўвае «часовы» парадак смяротнага пакарання "да яго адмены" і з трэцяга боку — дае магчымасць ужываць гэтае пакаранне «за асабліва цяжкія злачынствы».

Праблема смяротнай кары няпростая. Яна вырашыцца, калі прыйдзе ўсведамленне таго, што права на жыццё — гэта неад'емнае права чалавека. І значыць, дзяржава не можа яго адбіраць.

Не менш значным з'яўляецца права на свабоду, недатыкальнасць і годнасць асобы. У якасці мераў яго забеспячэння выступаюць забароны на адвольныя арышты, катаванні, жорсткае, бесчалавечнае альбо прыніжаючае чалавечую годнасць абыходжанне ці пакаранне. Але ў рэчаіснасці людзі ўжо звыкліся да «прэвентыўных арыштаў» актывістаў апазіцыі напярэдадні нейкіх значных падзей. Чэмпіянат свету па хакеі парушыў правы больш за 40 асобаў, якія былі стандартна асуджаныя за «непадпарадкаванне міліцыі» ці «дробнае хуліганства».

Няма сэнсу «праходзіцца» па ўсіх грамадзянскіх правах і свабодах. У цяперашняй Беларусі яны не сталі ўласнасцю грамадзян, а, па сутнасці, яны незаконна захопленыя дзяржавай. І цяпер задача складаецца ў тым, каб дамагчыся ажыццяўлення і абароны сваіх правоў.

## Натуральная палітыка

Другія па значнасці правы грамадзян — палітычныя. У адрозненне ад першай групы, гэтыя правы прадастаўляюцца грамадзянам па дасягненні пэўнага ўзросту, калі яны рэальна могуць удзельнічаць у кіраванні справамі грамадства і дзяржавы.

Сярод палітычных правоў і свабод Канстытуцыя называе права на свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне; права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд інфармацыі; свабоду сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання; права на свабоду аб'яднанняў; права ўдзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных спраў; права свабодна выбіраць і быць абраным у дзяржаўныя органы; права роўнага доступу да любых пасадаў у дзяржаўных органах; права накіроўваць асабістыя і калектыўныя звароты ў дзяржаўныя органы.

Варта зазначыць, што найпершым палітычным правам з'яўляецца свабода слова. Грамадзянін павінен мець права свабодна выкладаць свае думкі і перакананні па ўсіх пытаннях дзяржаўнага жыцця, і, адпаведна, мае права ведаць усё пра сваю дзяржаву. І гэта невыпадкова, бо без свабоды слова і свабоды інфармацыі нельга зрабіць асэнсаваны выбар. Відавочна, калі дзяржава спрабуе заторкнуць рот усім крытыкам, навязаць сваю «адзіна правільную» ідэалогію, то гэта ёй патрэбна для таго, каб маніпуляваць грамадствам.

Свабода мірных акцый пратэсту — гэта аддушына для грамадскай незадаволенасці. Грамадзяне маюць права публічна выказваць свае прэтэнзіі да ўлады. З гэтага вынікае, што міліцыя не мае права ўжываць сілу супраць удзельнікаў акцыі (акрамя выпадкаў парушэння грамадскага парадку).

З-за сістэмы дазволаў і забаронаў практычна ніводнае з палітычных правоў і свабод не можа быць рэалізавана напоўніцу. Гэта датычыць і права ўдзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных спраў, і права выбіраць і быць абраным у дзяржаўныя органы, і права доступу да любых пасад у дзяржаўных органах, і нават права на звароты ў дзяржаўныя органы.

Але, як сказана ў Канстытуцыі, крыніцай улады з'яўляецца народ. Грамадзяне павінны як супольна, так і паасобна вырашаць пытанні палітычнага жыцця. Менавіта яны на нейкі час даручаюць сваім прадстаўнікам ажыццяўляць агульную ўладу. Па меры неабходнасці павінна адбывацца ратацыя «кіруючых кадраў».

Узурпацыя ўлады групай асобаў, а роўна яе ўтрыманне звыш устаноўленых тэрмінаў, прыводзіць не толькі да злоўжыванняў з боку ўлады. Ва ўладзе ўзнікае адсутнасць новых ідэй, а значыць — адсутнасць магчымасцяў прагрэсу і развіцця. У жыцці дзяржавы выспявае застой, які з часам пагаршаецца. Далей — як у арганізме чалавека: альбо слабільная з наступным вызваленнем ад «завалаў», альбо арганізм гіне, змучаны і аслаблены. Як вядома, часцей здараецца першы варыянт.

## Грамадская эканоміка

Эканамічныя правы — гэта тыя магчымасці, якія дзяржава абавязваецца даць кожнаму ў сферы працоўнай дзейнасці. Гаворка ідзе аб стварэнні ўмоў, пры якіх чалавек можа зарабляць сабе на харчаванне, адзенне, жыллё, і ўвогуле на жыццё.

Па Канстытуцыі, грамадзянам гарантуецца права на працу як найбольш годны спосаб самасцвярджэння чалавека; права на справядлівае ўзнагароджанне за працу асобам, якія працуюць па найму, але не ніжэй за ўзровень, які забяспечвае ім і іх сем'ям свабоднае і годнае існаванне; права на адпачынак; права ўласнасці.

Здавалася б, няшмат. Але і тут праблемы. Права на працу ператварылася ў абавязак: варта толькі ўзгадаць прымусовае размеркаванне выпускнікоў ВНУ. Кароткатэрміновыя кантракты ставяць працоўных у жорсткую залежнасць ад наймальнікаў і ўскосна — у залежнасць ад дзяржавы. Узровень зарплаты большасці працаўнікоў пакідае жадаць лепшага, бо ў разы меншы, чым у суседніх краінах.

Права грамадзян на ўласнасць у многіх выпадках проста ігнаруецца дзяржавай. Напрыклад, за шэраг злачынстваў можа прымяняцца канфіскацыя маёмасці. І нават не злачынстваў — у прадпрымальніка могуць сканфіскаваць тавар за адміністратыўнае правапарушэнне. Па рашэнні судоў могуць адбірацца кватэры за няслату жыллёва-камунальных плацяжоў. Асобным радком ідзе канфіскацыя аўтамабіляў, калі кіроўца два разы на працягу года затрымліваўся ў стане ап'янення. Карацей, у дзяржавы ёсць шмат інструментаў «адносна сумленнага ад'ёму каштоўнасцяў» у сваіх грамадзянаў.

## Ці «сацыяльная» дзяржава?

Сацыяльныя правы — праява клопату дзяржавы аб шырокім грамадстве ў мэтах стварэння спрыяльных умоў жыцця. Звычайна гаворка ідзе аб ахове здароўя, адукацыі, пенсійным забеспячэнні, аказанні дапамогі сем'ям, якія маюць малалетніх дзяцей, прадастаўленні жылля.

У ліку сацыяльных правоў Канстытуцыя прадугледжвае: права на ахову здароўя, уключаючы бясплатнае лячэнне ў дзяржаўных установах аховы здароўя; права на спрыяльнае навакольнае асяроддзе і на пакрыццё шкоды, прычыненай парушэннем гэтага права; права на сацыяльнае забеспячэнне ў старасці, у выпадку хваробы, інваліднасці, страты працаздольнасці, страты карміцеля і ў іншых выпадках; права на жыллё; права на адукацыю.

Але нават тое, што яшчэ захавалася, некаторыя чыноўнікі імкнуцца знішчыць. Напрыклад, па сэнсу артыкула 45 Канстытуцыі медыцынская дапамога ў дзяржаўных медыцынскіх установах павінна аказвацца бясплатна. Аднак ужо не першы год ходзяць ініцыятывы аб платным наведванні паліклінік. Гэта не толькі супярэчыць «сацыяльнай дзяржаве» як дэвізу, але і парушае тое, што запісана ў Канстытуцыі.

Тэндэнцыя адыходу дзяржавы ад выканання сваіх абавязацельстваў назіраецца і ў іншых сацыяльных сферах. Сур'ёзныя праблемы назіраюцца ў сферы пенсійнага забеспячэння, калі памеры пенсій не дазваляюць задавальняць асноўныя патрэбы пажылых людзей, і практычна згорнута праграма прадастаўлення жылля малазабяспечаным сем'ям, інвалідам, адзінокім маці.

## Культура без мовы?

На культуры, як гэта часцяком адбываецца ў жыцці, стваральнікі канстытуцыі «зэканомілі». Культурных правоў няшмат. Гэта права захоўваць сваю нацыянальную прыналежнасць; права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін; права на ўдзел у культурным жыцці; свабода мастацкай, навуковай, тэхнічнай творчасці і выкладання.

Бадай, самым балючым у нашай сітуацыі з'яўляецца «права на мову». Улада не надае належнай увагі развіццю нацыянальнай культуры, і не стварае ўмоў для шырокага прымянення мовы тытульнай нацыі. Дагэтуль у Беларусі няма беларускамоўнай вышэйшай адукацыі, а ў Магілёве на беларускай мове навучаецца толькі адна школьніца.

***

Абвешчаныя Канстытуцыяй правы і свабоды сталі фікцыяй. Па сутнасці, дзеючая ўлада ўзурпавала правы і свабоды грамадзян, ператварыўшы іх у бяспраўных і безабаронных людзей.

*Паважаныя чытачы! Свае пытанні па абароне правоў чалавека вы можаце задаць Міхаілу Пастухову, даслаўшы іх у рэдакцыю, альбо ў каментарах пад артыкулам на сайце novychas.info.*

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №6 (94)
(чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info


## Змест



# Клопат пра бяспеку,
## або Герб «ПАГОНЯ» і адсутнасць яго «канкрэтнага апісання»



Антон АСТАПОВІЧ

**Прайшло багата часу, але, мабыць, узгадаць той выпадак не будзе праблемай. 25 сакавіка ў Бабры старшыня мясцовага пасялковага савета Загорскі сарваў з падрамніка карціны мастака Алеся Пушкіна герб «Пагоня» і разламаў яго.**

Давялося пісаць у Следчы камітэт аб узбуджэнні крымінальнай справы пра апаганьванне гісторыка-культурнай каштоўнасці. Для даведкі: герб «Пагоня» мае такі статус, з’яўляецца нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасцю.

Нарэшце прыйшоў адказ: пастанова аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Прачытаць яе трэба ўважліва, каб зразумець усю глыбіню жыццёвага і службовага подзвіга таварышча Загорскага, які, не шкадуючы сябе, выратаваў жыццё нехлямяжага і безабароннага (ну мастак, што з ім зробіш!) Алеся Пушкіна, практычна выцягнуўшы яго з-пад колаў цяжкой тэхнікі, якая пайшла ў атаку на залежы бруду на цэнтральнай плошчы мястэчка.

Але ж ёсць відэазапіс інцэдэнта, які адбыўся ў Бабры 25-га сакавіка. Яго і цяпер не толькі можна, яго абавязкова трэба праглядзець зноўку, каб зрабіць высновы наконт адпаведнасці «следчага» тэксту на трох старонках тым падзеям (http://www.svaboda.org/content/article/25310362.html).

А з разгледжанай справы выявілася, што герб «Пагоня» і насамрэч па законе — гісторыка-культурная каштоўнасць, але... паколькі няма яго канкрэтнага апісання, той герб каштоўнасцю можа і не з’яўляцца...

У чарговы раз упэўніваешся, што народная прымаўка наконт таго, каб «памачыцца» ў вочы, актуальная, як ніколі...

Не верыцца? Прачытаем дакумент у мове арыгінала:

**«ПОСТАНОВЛЕНИЕ**

**об отказе в возбуждении уголовного дела**
**г. Крупки**
**27.05.2014**

Следователь Крупского РОСК Короткевич И. Г., рассмотрев материалы проверки КРП №126 от 09.04.2014,

УСТАНОВИЛ:

27.03.2014 в Крупский РОВД из прокуратуры Крупского района поступило заявление Пушкина Александра Николаевича о противоправной деятельности председателя Бобрского поселкового исполнительного комитета Загорского Владимира Александровича <...>

09.04.2014 в Крупский РОСК из УСК Республики Беларусь по Минской области поступило письмо руководителя общественного объединения «Белорусское добровольное общество охраны памятников истории и культуры» Астаповича А. по вопросу привлечения к уголовной ответственности председателя Бобрского поселкового исполнительного комитета Загорского В.А. <...>




Опрошенный в ходе проверки Пушкин А. Н. пояснил, что ежегодно 25 марта празднует объявление Белорусской Народной Республики, как историческое событие и данного числа пишет картину «Свободы». Так 25.03.2014 Пушкин А. Н. организовал выставку своих картин на площади в г.п. Бобр Крупского района Минской области, разместив их вдоль здания столовой, картину «Свободы» разместил в центре указанной площади. Пушкин А. Н. пояснил, что к нему подошел председатель Бобрского сельского совета, и попытался вырвать картину «Свободы», с обратной стороны которой, был закреплен щит с изображением герба «Погоня». Как указал Пушкин А. Н. — Загорский В. А. бросил картину на землю, после чего оторвав щит с изображением герба «Погоня» переломал его на две части.

Загорский В. А. при опросе пояснил, что 25.03.2014 встретил Пушкина А. Н. на площади в г. п. Бобр, который организовывал несанкционированную выставку своих картин, при этом пояснил, что также будет писать свою картину, на, что Загорский В. А. сказал, что на данный день запланирована уборка асфальтированного покрытия площади, при помощи техники. <...> В виду плохой видимости из-за «столба» пыли, чтобы предотвратить наезда техники на Пушкина А. Н. — Загорский В. А. взялся за картину, чтобы попытаться увести его с площади, однако Пушкин А. Н. оказал сопротивление. Ослабив хват, Пушкин А. Н. потянул картину в свою сторону, в связи с чем она упала, придавив картину ногой Загорский В. А. взялся рукой за картину и не целенаправленно оторвал щит с изображением герба «Погоня» на две части и покинул площадь. <...>

11.04.2014 в ходе осмотра места происшествия <...> был изъят поврежденный щит с изображением герба «Погоня». 16.04.2014 изъятый объект был направлен в Министерство культуры Республики Беларусь для дачи ответа, является ли изъятый щит с изображением герба «Погоня» историко-культурной ценностью.

Согласно ответа Министерства культуры Республики Беларусь герб «Погоня» на основании положительного решения Белорусской республиканской научно-методической рады по вопросам историко-культурного наследия при Министерстве культуры <...> в соответствии со ст. 20 Закона Республики Беларусь от 13 ноября 1992 года «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны» включен в Государственный список историко-культурных ценностей Республики Беларусь как нематериальная историко-культурная ценность.

В настоящее время, в соответствии с п. 1 ст. 23 Закона Республики Беларусь от 9 января 2006 года «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь» вышеназванному гербу статус историко-культурной ценности придан постановлением Совета Министров Республики Беларусь и в Государственном списке историко-культурных ценностей Республики Беларусь он отмечен под шифром 73БЛ000004.

Вместе с тем, учитывая значительное количество вариантов изображений рассматриваемого герба, отсутствует его конкретное описание, в связи с чем, изъятый в ходе осмотра места происшествия от 11.04.2014 щит с изображением герба «Погоня» не является историко-культурной ценностью, что свидетельствует об отсутствии в действиях Загорского В. А. состава преступления <...>.

Анализируя в совокупности собранные материалы, достоверно установлено отсутствие в действиях Загорского В. А. составов преступления <...>, в связи с тем, что действия последнего не были совершены им вопреки интересам службы и явно не выходили за пределы прав и полномочий, предоставленных ему по службе, и были направлены на обеспечение личной безопасности Пушкина А. Н. <...>».

Вось так... Першым пад пастановай стаіць подпіс следчага па прозвішчы Караткевіч. Як гаворыцца, без каментароў...



**Перад пасяджэннем Рады СБП.** Фота Алены Казловай

# «Даць добрым людзям духоўны спажытак»

**16 чэрвеня ў Мінску адбылося ўрачыстае пасяджэнне Рады, прымеркаванае да 80-годдзя Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел сябры Рады СБП, старэйшыя літаратары, старшыні абласных аддзяленняў, калегі і партнёры грамадскай арганізацыі.

Былі разгледжаны заявы Раісы Баравіковай на аднаўленне сяброўства і Алены Масла на ўступленне ў СБП. У гэты святочны вечар склад Саюза пісьменнікаў папоўніўся двума сябрамі.

Вечар быў адкрыты хвілінай маўчання — прысутныя ўшанавалі памяць Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Дамашэвіча, Анатоля Кудраўца, Давіда Сімановіча, Уладзіміра Чапегі, якія пайшлі з жыцця цягам папярэдніх некалькіх месяцаў.

У сваім слове старшыня СБП Барыс Пятровіч павітаў усіх прысутных, акрэсліў асноўныя этапы станаўлення і развіцця грамадскай арганізацыі, першы з'езд якой адбыўся ў чэрвені 1934 года.

Першы намеснік старшыні СБП Алесь Пашкевіч зачытаў віншавальнае слова, перададзенае Народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам:

«Дарагія аднапалчане, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў!

Ад усяго сэрца віншую вас з высокім юбілеем творчай арганізацыі, да якое мы з вамі належым, у якую кожны з нас уступаў, ведаючы дзеля чаго; а менавіта — ведаючы, што так, у адным шэрагу, локцем да локця, а лепш сказаць сэрцам да сэрца, з паплечнікамі і пабрацімцамі, мы будзем больш упэўнена пачувацца ў сваім вялікім клопаце пра наша роднае мастацкае слова, у сваім нязводным неспакоі, як лепш паслужыць гэтым словам яе вялікасці Праўдзе, а гэта значыць — паслужыць Беларусі, бо нашай бядотнай, шматпакутнай Бацькаўшчыне патрэбна толькі слова Праўды, слова ў абарону чалавечнасці, дабра і справядлівасці.

З гэтым мы паступалі ў Саюз — з гэтаю верай, што будзем працягваць вялікую справу папярэднікаў, будзем працягваць, у меру сваіх здольнасцяў, каб даць добрым людзям духоўны спажытак. А працаваць сёння беларускаму пісьменніку вельмі цяжка. Цяжка, бачачы, колькі няпраўды і хлусні ты вымушаны пераадольваць, бачачы, колькі панапладзілася ворагаў беларушчыны, якія прагнуць задушыць нашае роднае слова.

Сёння кожнаму з нас трэба яшчэ больш думаць і яшчэ больш клапаціцца пра самае галоўнае — пра лёс нашай мовы. Ні на хвіліну не будзем забываць, што цягам стагоддзяў найпершай мэтай каланізатараў было — расправіцца з нашай мовай і такім чынам асіміляваць усіх жыхароў краіны. У асімілятараў літасці не было і няма. Нагадаю вядомы факт: больш палавіны дэлегатаў Устаноўчага з'езду, юбілей якога мы святкуем, к канцу 1938 года былі рэпрэсаваныя; адных расстралялі, другіх саслалі на катаргу. За што? За тое, што былі шчырымі патрыётамі роднага слова. Толькі за тое! Іншай віны ні ў кога з іх не было!

Дарагія сябры! Зычу ўсім вам натхнёнай плённай працы і багатых творчых набыткаў! Зычу мужнасці ў нашым вялікім змаганні за беларускую Беларусь!

Прыняты ў Саюз пісьменнікаў 60 гадоў таму назад
Ніл Гілевіч»

Са святочнымі прамовамі выступілі кіраўніцы ЗБС «Бацькаўшчына» Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская, старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, галоўны рэдактар газеты «Новы Час» Аляксей Кароль, старшыні абласных аддзяленняў СБП (Анатоль Бароўскі, Юрка Голуб, Настасся Лазебная, Іван Мельнічук, Мікола Яцкоў).

Павіншавалі Саюз беларускіх пісьменнікаў з юбілеем літаратары Лідзія Арабей, Уладзімір Арлоў, Раіса Баравікова, Лявон Баршчэўскі, Вольга Іпатава, Віктар Казько, Віктар Карамазаў, Адам Мальдзіс, Алена Масла ды іншыя.

**В.Т.**

# Расійская рок-паэзія па-беларуску

**У мінскім паб-клубе «Графіці» адбылася прэзентацыя ўнікальнага праекта — Анталогіі перакладаў расійскай рок-паэзіі, надрукаванай у 69-м нумары часопіса «Дзеяслоў».**




Жадаючых паслухаць знакамітыя песні Андрэя Макарэвіча, Барыса Грэбеншчыкова, Юрыя Шаўчука, Віктара Цоя, Эдмунда Шклярскага на беларускай мове сабралася шмат. І хаця арыгінальныя тэксты прыхільнікі ведаюць на памяць, пераклады, прасякнутыя нацыянальным каларытам і выкананыя нашымі музыкамі, прыўнеслі новыя эмоцыі ў даўно завучаныя радкі.

Слухачы, «узброіўшыся» часопісамі з публікацыяй, шчыра падпявалі выканаўцам. З першых акордаў стала ясна, што песні па-беларуску пайшлі ў народ з вялікім поспехам.

Усяго ў анталогіі апублікаваныя тэксты 12 расійскіх выканаўцаў, якія былі пераствораны 13 перакладчыкамі.

Вечар быў распачаты песняй Віктара Цоя «Перамен!» у выкананні вядучага імпрэзы Анатоля Івашчанкі (ён пераклаў для анталогіі тэксты Барыса Грэбеншчыкова, Віктара Цоя, Аляксандра Башлачова, Канстанціна Кінчава).

Павітаў прысутных галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў», старшыня СБП Барыс Пятровіч:

— Мы вельмі радыя, што праект удаўся, і нават мяркуем, што ён будзе мець працяг. Спадзяемся, расійскія рок-н-рольшчыкі пагодзяцца праспяваць па-беларуску. Вядома, што ў Бярозе, на радзіме Алеся Разанава і Ніны Мацяш, Андрэй Макарэвіч адшукаў свае карані. А Юры Шаўчук часта бывае ў Ірыны Міхайлаўны Быкавай (удавы Васіля Быкава — аўт.). Ёсць кантакт і з Барысам Грэбеншчыковым.

Музыкант, пісьменнік Юры Несцярэнка, з першаснай ініцыятывы якога нарадзілася ідэя «дзеяслоўскай» рок-анталогіі, пераклаў і падрыхтаваў цэлую праграму з песняў Андрэя Макарэвіча, куды ўвайшлі кампазіцыі розных гадоў — ад 1970-х да 2000-х.

Паэт, старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра Андрэй Хадановіч выступіў у ролі барда і праспяваў некалькі перакладаў: песню «Арландына» Анры Валхонскага і Аляксея Хвасценкі.

Класічныя хіты Барыса Грэбеншчыкова прывабілі многіх перакладчыкаў і выканаўцаў — над ягонымі філасофскімі тэкстамі ламалі галаву, акрамя ўжо згаданага Анатоля Івашчанкі, — Марыя Мартысевіч, Аляксей Чарняўскі, Уладзімір Дрындрожык, Макс Шчур...

А версія песні «Ракенрол памёр» у перакладзе і выкананні Арцёма Сітнікава, як і астатнія залатыя хіты, праспяваныя ім, можна сказаць, стварылі новую, беларускую рэальнасць Грэбеншчыкова (настолькі гарманічна яны гучалі на нашай мове).

Раман Яраш і Віктар Сямашка далучыліся да пераасэнсавання творчасці БГ у больш свабодным, імправізацыйным музычным ключы, чым асвяжылі традыцыйнае ўспрыняцце гурта «Акварыум».

Выступілі таксама Вольга Гронская, Фёдар ДАРАФЕЙ Жывалеўскі ды іншыя.

Пасля мінскага канцэрта «дзеяслоўцы» выправіліся ў тур па беларускіх гарадах (Магілёў, Маладэчна і Вілейка).

**В.Т.**

# Паэт Ганцавіцкай зямлі

**6 чэрвеня адзначыў 65-годдзе Аляксей Галаскок.**

З чатырнаццаці гадоў ён пачаў спасцігаць існасць чалавечага зямнога жыцця, складанасць і пакручастасць лёсу людскога. Моцна задумвацца над праявамі чалавечага існавання і пераламліць свае думы праз шчырае сялянскае сэрца, класці іх вершамі на паперу і дзяліцца паэтычным набыткам з людам беларускім.

Асабіста да мяне той набытак дайшоў два гады таму ў апошнім зборніку «Беларусь мая, родная, мілая». Шчыра шкадую, што не чытаў першага, які нават назваю сцвярджае: «У жыцці для мяне ўсё не проста».

Пасля азнаямлення падалося, што найбольш турбуе паэта, які жыве на блаславёнай Музаю Ганцавіцкай зямлі, няўмольны бег часу, хуткаплыннасць, нават імгненнасць грэшнага, з пункту гледжання нашай паляшуцкай, сярмяжнай маралі, разбэрсанага «бытия».

Здаецца, і вокам не міргнулася, як праляцелі два гады ад таго снежня, калі абзэмкаватага складу з пяшчотаю валошкава блакіту ўвачку дзядзька Галаскок падараваў дзеду Філатаву з двухгадоваю ягонаю ўнучкаю Чкалёнкам два аўтографы з пажаданнямі «расці прыгожай і шчаслівай» унучцы і «тройчы здароўя» дзеду. Валерыя мая – па-дзедаваму Чкалёнак – расце прыгожанькай, а вось шчасця і здароўя дзеду Лявону шукаць трэба...

Так, чалавеча, усё няпроста ў жыцці для нас – усіх тых, хто за паэтам-берасцейцам Іванам Лагвіновічам «позна ўвечары за маркотаю рушыў у заснежаны свет» шукаць усё тое ж шчасце, збіраць яго па драбку ў свой паэтычны пляцак.



У нядаўнім мінулым старшы афіцэр-ракетчык, уганараваны дзевяцю ордэнамі і медалямі, «служка Айчыне, бацька салдатам», а сёння сейбіт-паэт з двума інфарктамі, ваявода ганцавіцкай паэтычнай харугвы Аляксей Галаскок збіраў, збірае, зрэдзь знаходзіць у кругаверці завей і віхур маразму дабрыню, ласку, шчырасць, цеплыню сэрцаў, чысціню душаў, неўміручасць нашых гумару і самаіроніі. Бо такая яна, «родная, мілая Беларусь», бо такія мы, беларусы: нас «крыжуюць з веку ў век новымі здзекамі», а мы «ношку няспынна нясем на плячах і спераду».

**Аляксей ФІЛАТАЎ, bk-brest.by**

## ЛІПЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Ламан Пётр Аляксандравіч (нар. 11.07.1949)
Сачанка Барыс Пятровіч (нар. 17.07.1959)
Сідарук Ігар Фёдаравіч (нар. 23.07.1964)
Лаўшук Сцяпан Сцяпанавіч (нар. 28.07.1944)
Шаўлякова-Барзенка Ірына Леанідаўна (нар. 31.07.1974)



Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!



Зала паседжання XVI З'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў. Мінск, Палац мастацтваў, 2011 г.

# Беларуская літаратура — жыве!

**Самай сталай творчай арганізацыі Беларусі — Саюзу беларускіх пісьменнікаў — 80!**

23 красавіка 1932 года выйшла пастанова ЦК ВКП (б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». Пасля падрыхтоўчай працы ў чэрвені 1934 года адбыўся першы ўстаноўчы з'езд Сюза пісьменнікаў Савецкай Беларусі. Выбраныя на ім дэлегаты 18 жніўня «з радасцю і творчым уздымам», як паведамлялі тагачасныя газеты, удзельнічалі ў першым Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў СССР. Усіх мастакоў слова сабралася з адной шостай Зямлі паўтары тысячы. Усіх, акрамя знішчаных ці беспадстаўна асуджаных, акрамя — з беларусаў — Францішка Аляхновіча, Максіма Гарэцкага, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Язэпа Пушчы, Адама Бабарэкі, Андрэя Мрыя, Лукаша Калюгі і дзясяткаў іншых на сёння класікаў нацыянальнай літаратуры. А таму юбілеі творчай арганізацыі праходзяць і з адчуваннем горычы ды ўсведамленнем трагедыйнасці...

Але як з песні слова, так і з гісторыі былога — не выкінуць. Ды і як не ганарыцца тым, што да існавання гэтага Саюза пісьменнікаў спрычыняліся і спрычыняюцца сваёй дзейнасцю Купала і Колас, Чорны і Крапіва, Лынькоў і Броўка, Танк і Куляшоў, Панчанка і Макаёнак, Скрыган і Мележ, Быкаў і Шамякін, Брыль і Навуменка, Караткевіч і Адамовіч, Барадулін і Бураўкін, Гілевіч і Казько, Някляеў і Разанаў, дзясяткі іншых творцаў?

Лёс не быў літасцівым да пісьменніцкай сям'і Беларусі: з дзвюх тысячаў рэпрэсаваных бальшавіцкай уладай літаратараў Савецкага Саюза чацвёртая частка — беларускія творцы. Тых жа, хто ацалеў, паклікалі франты Вялікай Айчыннай...



У перапынку VIII з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў. Злева направа: В. Казько, А. Адамовіч, Я. Брыль, Д. Міцкевіч, М. Лужанін. Мінск, Палац прафсаюзаў, 1981 г.



Беларускія пісьменнікі ў гасцях у Якуба Коласа. Злева направа: І. Мележ, Д. Міцкевіч, К. Кірэенка, І. Шамякін, А. Бялевіч, А. Русецкі, М. Аўрамчык, Я. Колас, Я. Брыль, І. Грамовіч. Мінск, 1949 г.

Не была літасцівай да пісьменніцкай суполкі і дзяржава. Традыцыйна яна ставілася да творцаў і ў першую чаргу да іхніх саюзаў (як памнажанай на сотні галасоў, вопытаў і розумаў сілы) з рэпрэсіўнай насцярогай.

Дзяржава з разлікам, дакладна, жорстка дабівала і дабівае творцаў. І — незалежны Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Хоць гісторыя Саюза пісьменнікаў — гэта найперш гісторыя нашай краіны з яе радаснымі і трагічнымі шляхамі. На пачатку XX стагоддзя да адраджэння беларускай нацыі і дзяржавы, да распрацоўкі беларускай літаратурнай мовы і яе граматыкі першымі спрычыніліся беларускія пісьменнікі. Яны стварылі першыя беларускія газеты і выдалі першыя беларускія буквары і чытанкі. Урэшце, гэта яны — беларускія пісьменнікі — распачалі нацыянальна-вызвольны рух на абшарах Расійскай Імперыі, гэта яны былі першымі палітыкамі і дзяржаўнікамі Беларусі, і гэта яны сталі першымі кіраўнікамі і Беларускай Народнай Рэспублікі (Вацлаў Ластоўскі), і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (Цішка Гартны).

За дасягненні ў развіцці нацыянальнай культуры і папулярызацыю беларускай літаратуры Саюз пісьменнікаў мае шэраг дзяржаўных узнагарод, сярод якіх — ордэн Дружбы народаў і ордэн Леніна. Дзевятнаццаці сябрам Саюза пісьменнікаў было прысуджана званне народных паэтаў і пісьменнікаў. У яго шэрагах — народныя артысты, Героі Сацыялістычнай Працы, дзясяткі заслужаных дзеячаў культуры і навукі, лаўрэаты Дзяржаўных і замежных літаратурных прэмій, акадэмікі і член-карэспандэнты Нацыянальнай акадэміі навук, Надзвычайныя і Паўнамоцныя Паслы Рэспублікі Беларусь, дактары і кандыдаты навук.

Літаратура — дачка часу, час — яе бацька. Дочкі, як вядома, бываюць рахманымі, паслухмянымі, а бываюць і капрызлівымі, самастойнымі. Ды і характары бацькоў, не сакрэт, розныя. Аднак хацелі б ці не яны чагосьці іншага, літаратуры-дачцэ і часу-бацьку наканавана жыць разам, і вучыцца адно ў аднаго, і вучыць адно аднаго.

Практыка доўгіх дзесяцігоддзяў сацрэалізму засведчыла, што нават самы магутны ідэалагічны дыктат не можа ператварыць усіх пісьменнікаў у калектыў бяздумных выканаўцаў ды «алілуйшчыкаў». І калі ў сярэдзіне 1980-х гадоў захісталіся падмуркі савецкай імперыі (партнаменклатура, ідэалагічныя і карна-сілавыя інстытуты), з улоння Саюза беларускіх пісьменнікаў з'явіліся Таварыства беларускай мовы, а таксама многія нацыянальныя грамадскія і палітычныя рухі ды партыі. Гэта Саюз пісьменнікаў першы ўзняў сцягі новага нацыянальнага адраджэння, на якіх была сімволіка Грунвальда, Ластоўскага, Багдановіча...

А сталася так таму, што літаратура і час — дзве родныя катэгорыі, якія вымяраюць і цэлыя эпохі, і асобныя жыцці. Не па гадах ці месяцах вымяраюцца чалавечыя дзеі ў гісторыі і ў вечнасці, а па вартасці зробленага, створанага. Беларуская літаратура выконвала і будзе выконваць найперш функцыю стваральную. Невыпадкова беларуская мова ў адзіны шэраг сабрала гэтыя словы: стваральны, творчасць, твор... Літаратура, роднае мастацкае слова павінна і ствараць, і аб'ядноўваць нацыю. А нацыя — ствараць літаратуру. Бо, у рэшце рэшт, па вялікім рахунку літаратура — гэта і нацыянальная слава, і нацыянальны клопат, і нацыянальная ідэя.

Кожная нацыянальная літаратура самадастатковая. Кожны народ мае такую літаратуру, якую заслужыў. І кожны народ мусіць жыць з літаратурай. Калі ён народ...

У даўнім супраціве часу і лёсу важна быць актыўным і няскораным, апантаным і вартым памяці сваіх літаратурных першапачынальнікаў, важна вучыцца паважаць думку свайго калегі, імкнуцца знаходзіць агульнае, аб'ядноўвацца вакол галоўных мэтаў і задач. А яны ў Саюза беларускіх пісьменнікаў застаюцца нязменнымі: абарона творчых, прафесійных і сацыяльных правоў пісьменнікаў, адстойванне свабоды слова як першаснай перадумовы творчасці, клопат пра нацыянальную літаратурную спадчыну, развіццё і прапаганда беларускай літаратуры, абарона роднай мовы, умацаванне міжнародных літаратурных сувязяў, спрыянне перакладам твораў беларускіх пісьменнікаў...

Якраз гэтыя мэты і цэментуюць сённяшні Саюз беларускіх пісьменнікаў, яднаюць усіх 452-х яго сяброў — прадстаўнікоў розных мастацкіх светапоглядаў і пакаленняў. Творчая арганізацыя мусіць выконваць і функцыю своеасаблівага «міністэрства літаратуры»: прадстаўляць нацыянальную літаратуру ў Беларусі і па-за яе межамі; каардынаваць розныя літаратурна-мастацкія праграмы і мерапрыемствы, выступленні, прэзентацыі, творчыя сустрэчы; узгадоўваць творчую моладзь (у створанай два гады таму пры Саюзе Школе маладых літаратараў); папаўняць свае шэрагі — праз скрупулёзны адбор кандыдатаў на прыёмнай камісіі.

І надалей Саюз беларускіх пісьменнікаў працягвае захоўваць сваё добрае імя ды адстойваць тытул лідэра нацыянальнай інтэлігенцыі.

І стараецца зберагчы сваю годнасць — годнасць кожнага прафесійнага пісьменніка.

І просіць у Бога талентаў ды спрыяльнага лёсу.

І, безумоўна ж, сардэчна віншуе сваіх сяброў — паэтаў, празаікаў, крытыкаў, літаратуразнаўцаў, а таксама і ўсіх чытачоў Беларусі — з юбілеем.

Беларуская літаратура — жыве!

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (9… 4 | № 25 (394) Новы ЧАС

# Галоўнае — праўда…



**Васіль Быкаў, 1964 г.** Фота Уладзіміра Крука

Гэтая гутарка з серыі «Рабочы стол пісьменніка» адбылася 50 гадоў таму. Гутарка празаіка Васіля Быкава перад самым зенітам ягонай творчай славы — і паэта, загадчыка літаддзела штотыднёвіка «Літаратура і Мастацтва» Анатоля Вярцінскага. Гутарка на той час ужо сяброў у творчасці і жыцці.

Трывалацсь і вернасць таго сяброўства засведчаць дзесяцігоддзі выпрабаванняў, а ў той няблізкі ўжо 1964 год, здавалася, «усё толькі пачыналася»: і пакутная іліяда з апублікаваннем ці не найгалоўнага і найзначнага твора Васіля Уладзіміравіча «Мёртвым не баліць», і развітанне з апошнімі ілюзіямі савецкай «справядлівасці», і гартаванне Яе Вялікасці Праўды ў беларускай літаратуры і беларускім жыцці.

Гартаванне Праўды, якое, на жаль, не закончылася і праз 50 гадоў пасля згаданай гутаркі, і праз 11 гадоў пасля смерці народнага пісьменніка…

Гродна, вуліца Кашавога, 28, кв. 20…

Гэта і ёсць адрас рабочага стала пісьменніка, адрас Васіля Быкава.

Аглядаю невялікі «рабочы» пакойчык Васіля Уладзіміравіча, ва ўсіх кутках якога — у шафе, на стэлажы, на паліцы — кнігі, часопісы (дарэчы, паліца цалкам адведзена пад ваенную літаратуру — як мастацкую, так і дакументальную, мемуарную). Ёсць тут і «рабочы стол пісьменніка» ў літаральным сэнсе гэтых слоў. На стале толькі што прысланая з рэдакцыі «Роман-газеты» карэктура: неўзабаве ўсесаюзны чытач атрымае тры аповесці В. Быкава — «Франтавая старонка», «Пастка» і «Альпійская балада». Тут жа яшчэ некалькі кніг. Гэта зарубежныя выданні твораў В. Быкава, у прыватнасці, яго «Трэцяй ракеты».

Я пачынаю нешта гаварыць пра сапраўдны поспех, пра славу. Але бачу, што Васіль Уладзіміравіч тут жа змаўкае, бянтэжыцца, адчуваю, што яму, з яго сціпласцю і абвостранай патрабавальнасцю, творчай і грамадзянскай, такія размовы не вельмі даспадобы, — і мяняю тэму, пытаюся пра новую аповесць.

— Пішу. Частка ўжо зроблена… Вось яна, — дастае Васіль Уладзіміравіч з шуфляды папку.

На першым лістку — план аповесці, накіданы дробным уборыстым почыркам. Асобныя тэзісы пранумараваны. На пытанне, ці ўся аповесць прадумана, вынашана, пісьменнік адказвае: «Уся».

***— І назва ўжо ёсць?***

— Ёсць. «Мёртвым не баліць» — так, відаць, будзе называцца, калі не ўзнікне што-небудзь іншае.

***— Значыць, пра вайну?***

— Так, пра вайну, — задумення паўтарае Васіль Уладзіміравіч. — Прытым на гэты раз рэч амаль аўтабіяграфічная… Паглядзі вось гэтую паперу.

Я чытаю. Гэта пісьмо з архіва Міністэрства абароны Саюза ССР. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Адначасова паведамляю, што ў імянным спісе беззваротных страт 399-га стралковага палка за 1943–44 гг. значыцца: «Кам. стр. узвода л-т Быкаў Васіль Уладзіміравіч забіты 10.I.1944 г., пахаваны на цэнтральных могілках в. Вялікая Севярынка Кіравааградскай вобласці».

І ён расказвае, якім чынам трапіў у «забітыя», — як быў паранены каля ўкраінскай вёскі Вялікая Севярынка, як ішлі ў шпіталь з таварышам і адначасова вялі палоннага немца, як наткнуліся на нямецкія танкі…

— І вось гэта ўсё, уласна кажучы, і лягло ў аснову аповесці, будзе складаць яе сюжэтную канву. Спачатку мне нават хацелася напісаць усё так, як было ў жыцці. Але пачаў працаваць і адчуў патрэбу дзе-нідзе абагульняць, узбагаціць уласныя назіранні вымыслам.

Калі Васіль Уладзіміравіч знаёміў мяне са зместам аповесці, то звяртаў увагу на тое, як адзін з герояў аповесці, нямецкі салдат, мяняецца, мяняе свае паводзіны ў залежнасці ад абставін, ад ваеннай неабходнасці. Я здагадваюся, што недзе тут — ідэйная сутнасць твора.

— Так, недзе тут, — пацвярджае аўтар. — Мінулая вайна паказала, якім высокім і якім нізкім можа быць чалавек. Да якой велічы могуць узняцца адны і да якой нізкасці апусціцца другія. Побач з прыкладамі геранічнымі, прыкладамі, якія ўзвышаюць чалавечую сутнасць, вайна паказала ў той жа час з усёй наглядннасцю, да чаго прыводзіць бяздумнае паслухмянства перад яе ўладай, яе логікай, да якой мізэрнай вартасці зводзіцца чалавечая асоба, калі дзейнічае ваўсю правіла: мэта — усё, сродкі — нішто.

Гутарка выходзіць за рамкі аповесці. Я прыгадваю, што сёйтой гаворыць часам пра «тэматычную аднастайнасць» Васіля Быкава, пра тое, што пісьменнік як быццам бы паўтарае сябе. Пытаюся, што ён сам адказаў бы на такія разважанні.

— Што б я адказаў?.. Матэрыял мінулай вайны, па-мойму, невычэрпны. Невычэрпны і вельмі павучальны. Вайна пацвердзіла не толькі жыццёвасць нашага ладу, але і выявіла, агаліла ўсё тое, што было народжана культам асобы. Словы вядомага звароту: «Браты і сёстры, сябры мае…» — упершыню за шмат гадоў паказалі банкруцтва чужой народу культаўскай ідэалогіі, палітыкі сляпога падаўлення і азначалі настойлівую патрэбу ў чалавечнасці, без якой немагчыма было выстаць у бязлітаснай барацьбе. Таксама, як і без усведамлення сваёй нацыянальнай і дзяржаўнай годнасці.

Я вельмі шкадую, працягвае Быкаў, па нейкай унутранай асацыяцыі, што не маю асабістага вопыту ў партызанскай вайне, якая мне ўяўляецца найцікавейшым матэрыялам для сучаснага мастацтва. Не шмат якія нацыі могуць пахваліцца столькімі прыкладамі свабодалюбства і такога ўпартага супраціўлення ворагу, як беларусы. На жаль, мы вельмі не па-гаспадарску ставімся да здабыткаў сваёй гісторыі. Словам, мы — жывыя ўдзельнікі і сведкі — абавязаны захаваць для нашчадкаў, для чалавецтва наш горкі, наш гераічны і такі павучальны вопыт. Пакінуць яго на стагоддзі, каб людзі помнілі яго і не паўтарылі тое, што перажылі мы.




Мне ўспамінаецца адна з тых кароткіх, паспешлівых размоў, якія былі да гэтага з Васілём Быкавым. У час такой размовы адзін мой знаёмы загаварыў з ім пра майстэрства. Васіль Уладзіміравіч адказаў тады: «Не ведаю, ці майстар я. Не гэта — галоўнае. Галоўнае — сказаць праўду пра вайну».

— Гэта мае цвёрдае перакананне, — гаворыць цяпер Быкаў. — У дачыненні да праблем мінулай вайны літаратура павінна праявіць крыштальную праўдзівасць і шчырасць. Толькі праўдзівыя і толькі да канца асэнсаваныя сведчанні мінулай вайны могуць саслужыць чалавецтву патрэбную службу. Было б злачынствам і перад сучаснікам, і перад будучай гісторыяй пакінуць нашчадкам паўпраўду «культаўскіх» твораў, горшую за бессаромную хлусню, белетрысцкае «сачыніцельства» пабочных назіральнікаў і лакіроўшчыкаў. Абавязак кожнага сведкі і ўдзельніка мінулай вайны — гаварыць толькі праўду, якой бы горкай яна ні здалася, будучы пры гэтым бязлітасным у сваёй шчырасці. Іменна ў гэтым, як пісаў нядаўна Добрыца Чосіч, адзіны шлях служэння дабру, свабодзе, братэрству і чалавеку ў дачыненні да нашай нядаўняй гісторыі.

Цікавыя думкі выказвае Васіль Уладзіміравіч і пра майстэрства (я ўсё ж «справакаваў» яго на гэтую размову), пра мову сённяшняй прозы. І выказвае іх з той глыбокай перакананасцю, якая сведчыць аб роздуме над уласным вопытам, аб нястомнай унутранай працы.

— Відавочна, што мова, стыль лепшых твораў нашай прозы, у прыватнасці, твораў аб вайне, імкнуцца да лапідарнасці, эканомнасці, натуральнай прастаты. Ды гэта і зразумела. Бо адна справа, калі гутарка ідзе пра рэчы банальныя, звычайныя, а зусім другая — калі пішаш пра нешта самае істотнае, пра рэчы, поўныя драматызму, калі гутарка ідзе аб жыцці і смерці. Тут важна перш за ўсё захаваць меру, мастацкі такт.

Калі ў творы паўстае чалавек са сваім жывым і непаўторным «я», і калі ён сам пачынае гаварыць «пра час і сябе», то адсюль вынікае непасрэднасць яго мовы, яе арганічнасць.

Часам разважаюць так, як быццам бы праблема ў тым, каб знайсці сакавітае народнае, часам нават дыялектнае слоўца і ўкласці яго ў вусны героя. А праблема сёння для нас у іншым. Вось як мне паказваць свайго камбата? Якой мовай яго надзяляць? Народнай мовай, мовай нашай вёскі? Але ў арміі такой мовай не гаварылі, тым больш афіцэры. Брацъ за ўзор нейкую нівеліраваную мову? Таксама нельга. Вось і шукаеш патрэбны эквівалент, такі моўны сплаў, каб герой гаварыў па-беларуску і каб у той жа час яго мова не была ні псеўданароднай, ні «статутнай». Я разумею, што калі гутарка ідзе пра вёску, паказваюцца людзі вёскі, то тут пісьменнік можа браць вясковы моўны пласт, чэрпаць з яго і сваю мову, і моўныя характарыстыкі. Але калі маеш справу з героямі іншага плана — прыходзіцца ісці па іншым шляху.

Відавочна ж, што ідзе працэс урбанізацыі літаратуры. І калі нам слепа трымацца па-ранейшаму за мову нашай вёскі (прытым не сённяшняй, а ўчарашняй), мы будзем многа траціць. Ну ўзяць, да прыкладу, раман Івана Шамякіна «Сэрца на далоні». Як бы выглядалі, скажам, там такія героі, як Славік, Маша, Яраш, калі б яны загаварылі раптам мовай далёкай палескай вёскі? Вобраз, вядома, разбурауся б ад такой неадпаведнасці.

Увогуле, як мне здаецца, сёння з беларускай літаратурнай мовай адбываецца тое, што было з рускай літаратурнай мовай XIX стагоддзя. Асімілюючы розныя стылі і пласты, яна, з аднаго боку, пазбаўляецца ад стылізацыі пад мову народную, з другога — ад кніжнасці і літаратуршчыны і імкнецца да натуральнасці і непасрэднасці гутарковай мовы. Не заўважыць гэтае нельга, як і нельга ігнараваць у нашай пісьменніцкай практыцы…

**Запісаў Анатоль Вярцінскі**

**[1964]**

З новай кнігі «У віры быцця»

# Усё пра тое ж — пра самае набалелае



Ніл ГІЛЕВІЧ

**У любой літаратуры свету сур'ёзныя, сапраўды таленавітыя пісьменнікі — не блазнавалі ў творчасці. Міхась Зарэцкі ў дваццаць восем напісаў раман «Крывічы», Кузьма Чорны ў дваццаць сем — раман «Сёстры». Які сур'ёзны падыход да творчасці, якія задачы перад сабою ставілі! Ніякага блазенства! Ад блазенства — крок да цынізму. Ісціна адвечная як свет: пачынайце з таго, як вы трымаецеся ў сваім асяроддзі і глядзіцё на сваё прызванне.**

Грамадзянская мужнасць, прынцыповасць, шчырасць, звышпатрабавальнасць да сябе, самаахвярнасць у працы, вернасць запаветам вялікіх настаўнікаў. Чаму пра ўсё гэта трэба гаварыць маладым пісьменнікам, зрабіць праграмай ідэйна-эстэтычнага і маральнага выхавання іх? Таму што хітраванцы-прыстасаванцы і мітусліўцы-баязліўцы не ствараюць патрэбную людзям сур'ёзную літаратуру.

**1983**

З пэўнага часу на беларускім радыё і тэлебачанні музычна-песенныя праграмы ўзялі ў свае рукі забойцы культуры, не толькі нацыянальнай, а наогул культуры, забойцы ўсяго таго, што можа памагчы чалавеку заставацца чалавекам. Запанавала суцэльная дурнота, нясцерпная безгустоўшчына, шабаш ведзьмаў, агідная какафонія, прымітыўныя практыкаванні ў музычна-паэтычнай творчасці, вульгарнае дрыганожаства, «мастацкая» прадукцыя людзей, якія ніколі не слухалі вялікай, геніяльнай класічнай музыкі, не выхоўвалі сябе, свой эстэтычны густ на геніяльных народных мелодыях і паэзіі...

**1988**

Колькі разоў браў слова, каб унушыць дэпутатам, што трэба даць дзяржаўны прастор беларускай мове. Пакуль не аб'яднае ўвесь Вярхоўны Савет нацыянальная беларуская ідэя — ідэя Адраджэння з вялікай літары — нічога не будзе. Іншай ідэі няма! Ні нацыяналізм, ні капіталізм — нішто нас, беларусаў, не ўратуе. А ўратуе толькі ідэя нацыянальнага адраджэння, усведамленне, што мы — самі, самі павінны сцвердзіць сябе ў свеце.

**1990**

Літаратура сведчыць, як марудна, але ўпэўнена ў грамадстве наступаюць перамены, як абуджаецца тое, што нібыта было канчаткова забіта — нацыянальная і гістарычная самасвядомасць беларусаў. Дык вось — не канчаткова. Былі, жылі і тварылі яе носьбіты і ў самы цяжкі час. Былі і навукоўцы (гісторыкі, філолагі, філосафы, краязнаўцы), і літаратары (паэты, празаікі, драматургі), і асветнікі (настаўнікі, бібліятэкары, культработнікі). Дзякуючы іх вытрымцы — ацалелі і ажываем.

**1993**

За доўгія стагоддзі нашы мілыя суседзі з Захаду і Усходу дасягнулі выніку: амаль да астатку вытравілі ў нас нацыянальную самасвядомасць, давялі амаль да поўнай страты нацыянальнай самабытнасці і пачуцця нацыянальнай годнасці. Адсюль — і нездаровы лад жыцця. А што шанаваць? Чым даражыць? Хто я? Рускі? — Не! Паляк? — Не! Беларус? — А які я беларус? Што ўва мне беларускае? Дык хто я?

— Ну, яно сабе! Давай вып'ем!

— Давай! Пасля разбяромся!..

**1999**

Журналістка з дэмакратычнай газеты пытае ў вялікім інтэрв'ю свядомага дзеяча мастацтва: «Як вы цягнеце ў пасцель сваіх натуршчыц — па згодзе ці гвалтам?»

Замест таго, каб спытаць (дэмакратка ж): «Што вы думаеце пра паглынанне Беларусі Расіяй?»

Не, гэта яе не цікавіць. Ёй абыякава, што палітычныя гангстэры дабіваюць спрэс усё беларускае, што яшчэ не дабіта. Дабіваюць з дапамогай вядомых вучоных, дзеячаў мастацтва, тэатра. І бяздарных літаратараў. І запраданцаў-журналістаў. Усіх, хто бачыць, з чаго сёння можна смачна карміцца, і ўпусціць гэту магчымасць, гэта карыта — не хочуць.

**1999**

Яны, сённяшнія рашучыя, размашыстыя крытыкі, ганячы і бэсцячы літаратуру папярэдніх дзесяцігоддзяў (60-х–80-х гадоў), заяўляюць, што змагаюцца з пэўнай ідэалогіяй. Гэта — не так, гэта — ашуканства, у лепшым выпадку — самаабман, бо на справе гэта — неразумнае беларускае самаедства, замах і ўдар па каранях народнасці, духоўнасці, маральнасці нашай паэзіі, нашай беларускай эстэтычнай думкі.

**Канец 1990-х.**

Каб табе адзін раман ці аповесць пра сучаснасць, у якіх у цэнтры ўвагі была б Нацыянальная ідэя! (як у «Крывічах» Міхася Зарэцкага). Каб табе адзін твор (раман, аповесць) пра тое, як у сённяшняй Беларусі здзекуюцца з беларуса, з яго мовы, з яго кнігі, з яго нацыянальнай культуры, з яго беларускага менталітэту! Дзе кнігі пра наша жахлівае звыродства? Каб прачыталі і, як у люстэрку, убачылі сябе? Няма такіх кніг, няма! Дык як жа будзе адбывацца нацыянальнае самаўсведамленне народа?

**2000**

Тыя, што сёння ў актыўнай апазіцыі, у свой час не зразумелі, што адбылося — якая бяда звалілася на Беларусь. І толькі праз 5–6 гадоў «дайшло», і яны ўзяліся змагацца. Чаму не дайшло раней? Што перашкодзіла? Слабасць нацыянальнага пачатку ў іх уласнай самасвядомасці. Недаацэнка гэтага моманту — тыповага для «геаграфічных» беларусаў усіх пасляваенных пакаленняў. Былі грамадзянамі «Страны Советов», а не Беларусі. «Читайте, завидуйте» і г.д. Вось і не надавалі значэння таму, што павінна быць галоўным у кожным дзеячы нацыянальнай дзяржавы.

**2000**

Тыя беларускія дзеячы, што пачыналі ажыццяўляць ідэю нацыянальнага адраджэння (1917–1918), былі народнымі інтэлігентамі, г.зн. людзьмі еўрапейскай адукацыі і культуры — і людзьмі народнага выхавання, народнага сумлення, народнай маралі. Яны не маглі дзейнічаць грубай сілай... У той жа час Мяснікоў, Ландэр і іншыя бальшавікі ў Беларусі стаялі на пазіцыях антысялянскіх, антынацыянальных і кіраваліся жалезнай воляй, былі асабліва непрымірымыя да беларускіх рэвалюцыянераў, бо «даеш сусветную сацыялістычную рэвалюцыю!», «к чорту нацыянальныя дзяржавы!»

**2001**

Замежныя беларусісты, якія займаюцца мастацкім перакладам, напэўна заўважылі, адчулі, як нашмат лягчэй стала перакладаць найноўшыя творы беларускай прозы: непатрэбны і слоўнікі, досыць ведаць 2–3 тысячы беларускіх слоў. А перакладчыкам Гарэцкага, Чорнага, Калюгі, Пташнікава не хопіць ніякіх, нават самых поўных акадэмічных слоўнікаў. Хіба што дыялектычных дапамогуць. Вось такія змены адбываюцца ў мове нашай мастацкай літаратуры. Багацеем!

**2001**

Яднанне славян — рэч выдатная, але пры ўмове, што яно сапраўды брацкае, раўнапраўнае. А для гэтага трэба, па першае, падняцца над рэлігійнымі вераваннямі, якіх аж некалькі: праваслаўе, каталіцызм, пратэстанцтва, мусульманства... А гэта — наўрад ці рэальна.

Па-другое, трэба, каб Расія перастала пашыраць імперскую шавіністычную экспансію. Каб не хітравала. Бо ніколі брацкай згоды, а значыць і яднання славян не будзе. Яднанне за кошт гібелі Беларусі? А наступная ахвяра — хто?

**2001**

У душах людзей нарастае пачуццё пратэсту — з пачуцця сораму і крыўды. Заўчора сорам адчувалі адзінкі, учора — сотні, сёння — тысячы. Заўтра будзе яшчэ больш. Абавязкова! Бо не можа такога быць, каб у 10-мільённай нацыі ў наш час — падкрэсліваю: у наш час! — панаваў духоўна-маральны заняпад. Каб у грамадстве не абуджалася, не нарастала сіла, якая выбухне і скрыша гэтае аледзяненне. Паглядзіце адно, колькі ў нас мастакоў і якія сярод іх прызнаныя ў свеце таленты!

**2002**

Кожны дзень безліч разоў чую па радыё, па тэле, чытаю ў газетах: на шчасце, адзіны народ, які быў сілком разарваны ў 1991-м, цяпер зноў уз'ядноўваецца; зноў мы збіраемся ў адно цэлае; зноў народ будзе адзіны... Так і гавораць, і пішуць. Народ будзе адзіны — рускі.

Адзіны? Рускі?

Дык а дзе дзеўся беларускі народ?

**2002**

Ах, вялікія дзяды, чаму вы не пайшлі за Янам Чачотам? Чаму не прыслухаліся, як ён называў і нашу зямлю і нашу мову? Чаму не адчулі пагрозу — небяспеку ў накінутым царыцай найменні? Пайшлі б усе за Чачотам — і ўсё было б, як мае быць! Крывія! Крывічы! Крывіцкая! І ніякай Русі — ні белай, ні чырвонай!

**2002**

Кожны інтэлігент любой нацыі перш за ўсё і лепш за ўсё ведае культуру (гісторыю, мову, мастацтва, літаратуру) сваёй нацыі, і гэта натуральна. А ў нас — адзінкі такіх... Затое — колькі вырачэнцаў-перараджэнцаў!.. А было ж калісь: кожны беларускі селянін і гараджанін ведалі Сваё (быт, веру, звычаі, абрады, песні, увесь фальклор наогул) і даражылі, і ганарыліся... ведалі зямлю, прыроду (дрэвы, травы, птушак), асаблівасці клімату, народныя прыкметы і павер'і... Чужое — дабаўлялася, але не выцясняла, не замяняла сваё, роднае.

**2003**

Усе нашы заклікі захоўваць, даражыць, цікавіцца нацыянальнай культурай будуць даваць мала плёну — датуль, пакуль не пачнем гэта ўнушаць дзецям ад калыскі, ад дзіцячых садкоў, з першых дзён у школе.

**2003**

«Сёння беларускі літаратар павінен еўрапеізіравацца...»

А што гэта значыць — еўрапеізіравацца? Павысіць інтэлектуальны, духоўны ўзровень? Пераймаць «адтуль» прыёмы пісьма? (Напрыклад, пісаць вершы без знакаў прыпынку?) Пазбаўляцца нацыянальнага аблічча? (Пісаць — як на эсперанта: без водару роднай зямлі, гісторыі, духу?)

Дык вось: у Беларусі ў пачатку XX ст. самымі еўрапеізіраванымі былі М. Багдановіч, М. Гарэцкі... Пісалі на ўзроўні тагачаснай еўрапейскай літаратуры. Але былі і ярка-нацыянальнымі.

**2004**

Калі сёння і трэба чым абурацца, дык гэта тым, што ўсё яшчэ зусім мала прыкладаецца намаганняў, каб людзі хутчэй і лягчэй авалодвалі беларускай моваю (хоць збольшага для пачатку: навучыцца чытаць, разумець, карыстацца пасіўна).

Пазарэз патрэбны двухмоўныя слоўнікі — асабліва кішэнных фарматаў. Хто, якое выдавецтва пахваліцца, што такія слоўнікі стаяць у плане і ў самы бліжэйшы час выйдуць накладам у 300–500 тысяч асобнікаў, каб нават у кожнай прадуктовай краме, у касе, як талоны на праезд, прадаваліся?

**2004**

Стаць членам Іспанскай Акадэміі — найвялікшы гонар для кожнага іспанскага пісьменніка. Так і ва ўсіх краінах Еўропы. Калі пісьменнік акадэмік — значыць, ён належыць да ліку самых лепшых, самых таленавітых і ўплывовых. Так павінна было быць і ў нас. Але... У нас у акадэмікі не так выбіралі, як назначалі, і глядзелі не толькі на мастацкую вартасць творчасці, але і на беззаганныя паводзіны і на пасаду. У пасляваенны час акадэмікамі былі М. Лынькоў, К. Крапіва, П. Глебка, П. Броўка, М. Танк, І. Шамякін... Ну, добра. Таленавітыя, вядомыя, нават папулярныя. А А. Куляшоў? А І. Мележ? А П. Панчанка? А Я. Брыль? А В. Быкаў? Чаму іх не выбралі ці не назначылі? Хіба — менш таленавітыя? Не заслугоўвалі?

Так, у вачах правадыроў — не заслугоўвалі.

**2004**

Што рабілася дзясяткі гадоў у душах беларусаў, найперш — у душах беларускай інтэлігенцыі? І што ў іх назбіралася, накапілася, напрарастала! Колькі сумненняў і расчараванняў, колькі крыўды і знявер'я, пакут і болю!

Сёння пад пытаннем не той ці іншы мастацкі стыль, жанр, пошук, эксперымент — пад пытаннем сам сэнс існавання нашай літаратуры.

**2005**

За апошнія 15 гадоў я прачытаў у расійскім друку мноства публікацый пра нацыянальнае адраджэнне Балгары (другая палавіна XIX ст.). Вядома ж, у рэчышчы ідэі славянскага брацтва. А пра нацыянальнае адраджэнне Беларусі (канец XX ст.) не прачытаў нічога. Няма! Каб хоць адна брашурка! Каб хоць адзін артыкул! Хаб хоць адна нататка! Каб хоць адзін абзац! Каб хоць два-тры слоўцы ў падтрымку! Маўляў — вітаем! Зычым поспехаў! Жыві і адраджайся, Беларусь, краіна братоў нашых!

Можа, прачытаю ў наступныя 15 гадоў?..

**2006**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (94) | 27 чэрвеня 2014 | № 25 (394) Новы Час

# Прыемнае пачуццё развітання (Штосьці накшталт рэпартажа)



Вінцэсь МУДРОЎ

Сонца выблытваецца з куздзелі пралётных аблачын, ласкавай пяшчотай кранае арку з надпісам «Колхозный рынок», і я запавольваю крок. Нос мой казыча густы пах шашлыкоў, смажанай рыбы і яшчэ нейкага экзатычнага пахнідла, і пакуль я прыкідваю — кардамон гэта ці кайенскі ладан — атрымліваю штурхяля ў патыліцу.

— Сашко, обэрэжно! — гукаюць мне ў спіну, і даводзіцца адступіць убок.

Міма, стомлена дыхаючы, шыбуе мужчына, цягнучы на карку няўстойлівую піраміду мяхоў, пазначаных гуталінавай водцені надпісам: «Istanbul».

— Дывысь куды йдэш! — прамаўляе нізенькая кабета ў квяцістай хустцы; яна дыбае следам за мужчынам і цягне ў руках вялізныя сумкі. — Вусны мае крывеліць усмешка: кабета надта падобна на маці Веркі Сярдзючкі.

...Апошнім часам надта рэдка бываю на базарах. Не люблю гамэрні і людской мітусні. Але вось вырашыў падараваць унуку саколку з выяваю Чэ Гевары, завітаў на базар, і ногі — сам не ведаю чаму — панеслі мяне на «блышыны рынак». Намётавы гарадок прыбіў яго да самага мура, і тутэйшыя «блыхі» гэтай ранняй парой акурат раскладваюць свой немудрагелісты тавар. Хто раскладвае на газеціне, хто на скрыні з-пад бананаў, а хто на фанерыне, пакладзенай між двума хісткімі ўслонамі.

Сівабароды дзядок з ордэнскімі планкамі на штрыфлі пажаванага пінжака ставіць на фанерыну патэфон, накручвае корбу.

— А паслухаць што-небудзь можна? — пытаюся прадаўца.

Заўсёднік «блышынага рынка» працінае мяне ацэначным позіркам, спрабуючы, відаць, вызначыць сур'ёзнасць маіх пакупніцкіх намераў, падхоплівае з ладнага стосу кружэлак самую верхнюю, з надпісам «Апрелевский завод» на чырвонай налепцы.

— Хорошо идут дела-а у колхозного села-а, — прарываецца скрозь шыпенне бразгатлівы голас Клаўдзіі Іванаўны Шульжэнка.

Песня да болю знаёмая. У дзяцінстве, на святы, маці заўсёды ставіла гэтую кружэлку і, падпёршы далонню шчаку, з прытоеным сумам глядзела ў вакно. Як потым даведаўся, яе падаравалі афіцэры — бацькавы таварышы па службе, — калі прыйшлі абмываць мае народзіны. Даўно няма бацькоў, даўно памёрлі афіцэры, што бразгалі малянкоўскімі шклянкамі, падымаючы тост за нованароджанага, а песня жыве, ляціць над гандлёвымі намётамі, паведамляючы здзіўленаму свету пра шчаслівае жыццё ў савецкім калгасе.

— І што, бяруць? — пытаюся, мацаючы пальцам «лейбл» на нутраным баку патэфоннага века: «Ленинградская артель «Нева»».

— Бяруць... у асноўным іншаземцы. — Дзядок хоча яшчэ нешта сказаць, ды тут мне на плячук нехта навальваецца і з інтанацыяй лёгкага спалоху выдыхае:

— А «Марш энтузіястаў» ёсць?

Пытаецца дама сталага веку ў капялюшыку, упрыгожаным капронавымі кветкамі. Капялюшык па-пірацку збіты набакір. Прадавец нахіляецца, перабірае кружэлкі ў ашмоцці падзёртых капэртаў, і я адыходжу.

Поруч з дзядком расклаў тавар аднаногі інвалід. Тут і парцалянавы Пушкін-ліцэіст з адбітай нагой, і старая, ці не трафейная яшчэ золінгенаўская брытва, і тузін аблупленых багетавых асадаў.

— Вазьміце, нядорага аддам, — інвалід ці то жартам, ці то ўсур'ёз прапануе мне пакарабачаны трамбон. — Фірмы «Эдвардс»... сын калісьці граў, — дадае інвалід ужо апалым голасам, і я разумею, што той хоча проста пагаманіць з жывым чалавекам, распавесці пра сына, якога, відаць, ужо няма на гэтым свеце.

Слухаць шчымлівыя гісторыі няма часу, таму я з вінаватай усмешкай трасу галавой і хуценька, ступаючы ў лад з шапялявым «Маршам энтузіястаў», рушу ўздоўж гандлёвых радоў.

«Ты што, ужо на трамбоне?» — прамаўляю бязгучнымі вуснамі пачутую ў далёкім юнацтве фразу. Так казалі знаёмцы, што вучыліся ў музвучэльні: пасля таго, як хтосьці з навучэнцаў завальваў іспыты на фано ці скрыпцы, іх пераводзілі ў клас трамбона.

Народу на базары яшчэ няшмат. Сям-там стаяць рэдкія купкі людзей і толькі ля шапіка з шыльдай «Семена» таўчэцца невялікі натоўп.

— Летась пасадзіла Ямелю, дык ніводнага пустацвету, — весела сакоча мажная цётка. — Пойдзеш на ляху, зірнеш пад ліст — і ніводнага пустацвету: і агурок, і агурок... — цётухна перахоплівае мой дапытлівы позірк, выпроствае спіну, падбірае пукаты жывот і ўжо без ранейшага энтузіязма паўтарае: — И агурэтс, и агурэтс, и агурэтс...

Ля аднаго з намётаў сустракаю «знаёмых», з якімі сутыкнуўся ля ўваходу. «Сярдзючкіна мама» са страшнай хуткасцю выкідвае з сумкі вязанкі ваўняных шкарпэтак, а Сашко гэтак жа хутка раскладвае іх на прылаўку.

— Бэрыць шкарпэткы! — прамаўляе, не гледзячы ў мой бок, кабета, і тут жа, з капрызінкай у голасе, пачынае некага лаяць: — Ох, підлюга донэцька... ох, пустыв по світу...

Гляджу на Сашка, торгаю падбароддзем, маўляў, на каго гэта так, і Сашко, злавесна прашаптаўшы: — Та помовчы ты... — ужо па-расійску тлумачыць: — Януковича кроит, кого же ещё...



— Шкарпэткі самі вяжаце? — падае голас пакупніца з пукатымі, фаянсава-блакітнага колеру вачыма.

— Самы, — адгукаецца хахлушка.

— А з якой воўны?

— Вярблюджая, — тлумачыць Сашко, і пакупніца з робленым здзіўленнем перапытвае: — З вярблюджай? А вярблюдаў у сябе на двары пасвіце?.. Прывязуць мэтлахаў з Турцыі, і за свае выдаюць, — шукаючы падтрымкі, пакупніца глядзіць у мой бок, «сярдзючкіна мама» ўдыхае паветра, каб годна адказаць вірлавокай нахабніцы, ды Сашко папераджальна ляпае далонямі па сцёгнах.

— З кожнай стрэчнай заводзіцца, — незадаволена сіпіць Сашко, — нас і так ужо бандэраўцамі называюць.

— А як вы з такімі сумкамі праз мяжу праязджаеце? — летась я ездзіў ва Львоў і бачыў, як мытнікі ссаджвалі з цягніка «тарбэшнікаў».

— Ды якая мяжа. Мы ж тут жывем, у Беларусі. Донька наша з беларусам пабраўшыся. Вось і прыехалі. У нас жа там жыцця зусім няма.

Суседзі «ўкраінскіх эмігрантаў» прадаюць пуховыя хусткі. Дзве пенсіянерка веку гандляркі сядзяць на нізенькіх услонах, і звонку бачны толькі іхныя галовы. Пенсіянеркі лузаюць семкі, напаўголаса перамаўляюцца.

— Ці дзержыш ты парасёнка? — пытаецца адна з іх, наставіўшы на суразмоўніцу радасна ўсхваляваны твар.

— Анягож, — з такой жа гатовай радасцю адказвае суразмоўніца: — У мяне ж трое ўнукаў на шыі.

— Во як — гадуй сыноў, тады ўнукаў. Рабі і рабі на іх, а яны і ў твой бок не глядзяць.

Прыканцы гандлёвага шыхта ўзбіваюся на сівога дзядзьку майго веку, перад якім пярэстым дыванком раскладзены кніжкі: Брэдберы, Саймак, Шэклі... Вока адразу выхоплівае чаргу выцвілых бела-чырвоных вокладак: «Бібліятэка сучаснай фантастыкі». Выдавалася яна ў сярэдзіне шасцідзясятых гадоў, і мой бацька меў шчасце на яе падпісацца. Першы том з «Туманнасцю Андрамеды» Яфрэмава, памятаецца, прачытаў, але без натхнення. Другі том, з аповесцямі Абэ Коба, так і не адолеў. А вось што прачытаў з натхненнем, а потым перачытваў, дык гэта апавяданне «Анірафільм» з пятага тома. Дзіва што! Аўтар, італіец Ліна Алдані, апавядаў пра тое, што цяпер называюць парнухай. Нібыта ў далёкай будучыні варта будзе нацубіць на голаў апарат з мініяцюрным кінапраектарам, і ты вомігам апынешся ў жаночых абдымках. Апавяданне тое займела і грамадскі розгалас. У часопісе «Здароўе», які выпісвала маці, змясцілі абураны ліст чытачкі. Я нават назву таго ліста запомніў: «Ці патрэбны дзецям такія «кветкі»». Чытачка кляла выдавецтва «Маладая гвардыя», якое разбэшчвае савецкую моладзь падобнымі кнігамі, і патрабавала прыбраць з бібліятэкаў усю гэтую амаральшчыну.

Кнігар уздымае на мяне дапытлівыя вочы, але я адмоўна ківаю галавой.

— Не любіце фантастыкі? Дыктат рэальнасці над уяўленнем?

Дзіўлюся такому мудрагелістаму вызначэнню сваіх чытацкіх тэндэнцый, хапаюся за лабешнік, спрабуючы намацаць там згаданы дыктат, а потым, ачуўшыся, бяру ў рукі адну з кніг. «Я — робат» Айзек Азімаў. Выданне 1964 года.

— Даволі рэдкі асобнік. Першае выданне Азімава ў Саюзе. Я, ведаеце, фантастыку з дзесяці гадоў збіраю.

Гартаю старонкі і лезу, у плане змагання з дыктатам рэальнасці, у кішэнь па грошы.

— Наш зямляк, — з ухвалай у голасе прамаўляе кнігар, заходзячыся ад кашлю. — Збіральнік фантастыкі, падобна, шмат паліць.

— Нібыта са Смаленшчыны, — адказваю, адлічваючы патрэбную суму.

— Дзе нарадзіўся Айзек — гэта яшчэ трэба высветліць, — суразмоўнік піхае кніжку ў поліэтыленавую торбу. — Я вось на амерыканскі сайт залез, паглядзець — што яны пішуць пра месца нараджэння Азімава. Чытаю: «Мястэчка Пятровічы, Гомельская губерня, БССР». Але ж, выбачайце, у год нараджэння пісьменніка Гомельская губерня была ў складзе Расійскай Федэрацыі. А вось Вялікая савецкая энцыклапедыя падае месца нараджэння больш хітра: мястэчка Пятровічы, БССР.

Суразмоўнік прамаўляе ўсё гэта хуткагаворкай, я стаю з напаўразяўленым ротам, чакаючы, калі між шчыльных словаў узнікне зазор, і, не дачакаўшыся, перабіваю:

— Ды на Смаленшчыне ён нарадзіўся. Азімаў сам казаў пра гэта ў інтэрв'ю,

— Ды пачакайце, дойдзе чарга і да Смаленшчыны, — азываецца кнігар і зацята кашляе. — Карацей, якое б месца нараджэння ні згадвалі, абавязкова фігуруе Бээсэсэр. А чаму? А таму, што на дакументах, якія бацькі ўзялі з сабой у Амерыку, стаяла бээсэсэраўская пячатка. Паколькі на момант з'яўлення Айзека на свет Бээсэсэр складалі некалькі паветаў Мінскай губерні, дык менавіта на гэтай тэрыторыі і трэба шукаць тое месца. Але яго і шукаць не трэба: гэта вёска Пятровічы Смалявіцкага раёна.

— А скуль тады ўзялася Смаленшчына? — пытаюся з вясёлай панікай у голасе.

— Адказваю. Сям'я эмігравала ў Амерыку, калі дзіцяню было тры гады?

У адказ на запытальную інтанацыю няўпэўнена ківаю галавой:

— Ну, тры...

— А пра месца свайго нараджэння хлопец ад каго пачуў? Вядома ж, ад бацькоў. Размаўлялі ў сям'і выключна на ідыш, таму й лёгка было зблытаць Смалявіччыну са Смаленшчынай.

Рукаюся з заўзятарам навуковай фантастыкі і адыходжу, прыціскаючы да грудзей нечаканы набытак — раман нашага земляка. А потым яшчэ пару разоў азіраюся. Кнігар сядзіць, панурыўшы голаў, і ў сэрцы маім нараджаецца панылая туга. Нібыта сам сябе ўбачыў аднекуль збоку. Я ж таксама ўсё жыццё збіраў кніжкі, адбіраючы ад сям'і апошнія капейкі. Цяпер яны, нікому не патрэбныя, гніюць на лецішчы.

Народу ля намётаў з трыкатажам тым часам набралося як завязаць. Спехам перабіраю прапанаваныя ўзоры. На адным разгоністы надпіс «Вперёд, Россия!», на другім трафарэтны партрэт нейкага мурына, што на трэцім — нават не ўгледзеў, бо літаральна перад маім носам, бессаромна задзёршы спадніцу, нейкая маладзіца нацягвае на клубы канарэечнай афарбоўкі ласіны.

У мяне ўзнікае палкае жаданне вырвацца з гэтай сумятні ды тахуаніны, а смутныя абрыўкі думак зліваюцца ў геніяльную фразу: «Самае прыемнае, што адчуваеш на базары, гэта пачуццё развітання з ім». І ўсё ж такі, каб зразумець ідэалы народа, яго штодзённыя турботы, яго думкі і надзеі, яго вартасці і недахопы, а таксама каб даведацца — дзе насамрэч нарадзіўся ўсясветна вядомы фантаст, не трэба чытаць газеты і глядзець тэлебачанне. Трэба проста пайсці на бліжэйшы базар.



# Чужыя гарады



Сяржук СЫС

***

*Чужыя гарады раскусваеш паволі,*
*Праточваешся ціха за глянцавы фасад,*
*Звужаючы кругі, шукаючы паролі*
*Да вулак і дамоў, да плошчаў і прысад.*

*Чужыя гарады — яны і ёсць чужыя.*
*Аднак жа, надарэецца, —*
*вяртаюцца зрэдчас*
*У восеньскія сны, халодныя, глухія,*
*І з неадольнай сілай праглынаюць нас.*

## Цішыня

*Яшчэ не закружыўся ў дзікім карагодзе*
*Світальны Менск, і позірк заўважае:*
*Над Залатою Горкай сонейка ўзыходзіць,*
*Таму і Горка, мусіць, залатая.*

*Яшчэ пра волю сняць у нетрах «Валадаркі»*
*І вязні і, магчыма, вертухаі,*
*А над Траецкім чайкі горад будзяць сваркай.*
*Прыходзіць дзень, і цішыня ўмірае…*

***

*Адхінаю далонь*
*ад парэнчаў метро*
*не адчуўшы цяпла*
*тысяч дотыкаў рук*
*што былі да мяне…*

## Востраў слёз

*В.*
*Купілі ў «Траецкім» піва*
*па плошчы «Крыніцы» звычайнай,*
*пасля кароткае паўзы —*
*гарэлкі, каб піць усур'ёз…*
*Бязладна крычалі чайкі,*
*крычалі і мы пра вершы*
*і слёзы гублялі ў ядловец*
*на менскім востраве Слёз*

***

*Блукаю сярод*
*чужых гарадоў*
*іх прыгажосці*
*халоднай*
*не бачу,*
*дарэмна шукаю туман*
*над разлівай*
*дзяцінства…*

***

*Тры шчарбатыя прыступкі*
*Ля ўваходу ў «хрушчоўку»*
*Безліч зведалі падэшваў,*
*Процьму вытрымалі ног.*
*Хто адкажа: не ці доўга*
*Тут маім абцасам шчоўкаць?*
*Дык няхай жывуць прыступкі*
*Крайняй кропкаю дарог.*

***

*Хутка тут,*
*між абрыдлых*
*дамоў гарадскіх,*
*паўзадушаных ціскам*
*бязлітасных вуліц,*
*з-пад асфальту ўзаўецца*
*зямля на дыбкі,*
*і надзеяй мяне,*
*і пяшчотай атуліць.*

## Менск

*Звонам ратуша зноў нагадала пра час*
*Падымацца і, вусны апёкшы гарбатай,*
*Выпаўзаць, каб пакорліва легчы пад прас*
*Шэраговага дня, закаванага ў латы.*

*Менск світальны, увесь у пялюшках начы,*
*Прыме суха ў сваё ненажэрнае ўлонне,*
*Ды садзьме мяне,*
*пёркай птушынай пламчыць*
*У такое ж пустое бяздарнае «сёння».*

## Станцыя метро «Няміга»

*Соннае цела*
*трапляе ў глыбіні*
*падземнага Стыксу,*
*плынню сярод менчукоў*
*праплывае*
*і крохкаю крыгай*
*я пачуваюся тут, дзе*
*самотныя ўсхліпы*
*замураванай*
*навечна ў бетон*
*нескаронай Нямігі…*

## Вільня

*«Скрадзены рай Беларусі» –*
*Позірк схапіў на паперцы.*
*Раптам у Вільні прачнуся…*
*Выбягу ў рай, каб… памерці.*

## У горадзе, дзе…

*У горадзе, дзе на дамах і засовы, і краты,*
*Тубыльцамі лічаць сябе павукі ды хімеры.*
*У горадзе, дзе не жадаюць смяяцца дзяўчаты,*
*Калі баяць сумныя казкі для іх кавалеры.*

*У горадзе, дзе давялося аднойчы мне ночыць,*
*А досвіткам вулкамі спехам*
*сыходзіць нервова,*
*Пры гэтым з трывогай*
*глядзець у сустрэчныя вочы,*
*Хапаючы ротам туман і губляючы словы.*

*У горадзе, дзе не сустрэнешся*
*з мужным рэйтарам,*
*А ззаду нажа між рабрын*
*атрымаць верагодна…*
*Адгэтуль хіба што*
*мой цень застанецца бульварам,*
*Збягаю адсюль назаўжды*
*да зямлі пershароднай.*

**2011**

***

*Апошняе піва сезона*
*У брудным сырым павільёне*
*Такое ж цягуча-стылае,*
*Як сум непраходны мой.*

## За Шапэна!

*Я пабачыў — не памёр!*
*Бо ў кішэні — дуля.*
*Важны крочу, як бабёр,*
*А са мною Юля.*

*У Парыжы — дваццаць тры,*
*Чорныя таксісты…*
*Вось і Нотр Дам дэ Пары,*
*Бабілон турыстаў.*

*На Манмартр, было, узлез,*
*Лузнуў келіх віскі…*
*А цяпер — на Пер-Лашэз,*
*Хоць і шлях няблізкі…*

*Цішыня, спакой і тлен*
*Агарнулі Юлю…*
*Юль, глядзі, а вось — Шапэн!*
*Памянём дзядулю?*

*Даставай хутчэй «Шато»,*
*Сыр і пластыкоўкі…*
*Сядзем тут, сярод кустоў,*
*Бо без іх нялоўка.*

*Фрэдэрык, давай за нас!*
*Заўтра мы дахаты.*
*Налівай, яшчэ не час*
*Для Другой санаты…*

## Выбар

*На левы бок — святая Магдалена,*
*на правы спакушае Кафедральны…*
*Гуляючы па Менску задуменна*
*я крочу ў бар: лагічна і банальна.*

## Беласток

*У гарадах блукаў далёкіх,*
*Губляўся ў скопішчах людзей,*
*І толькі ў ціхім Беластоку,*
*Так, так, у ціхім Беластоку,*
*Найбольш утульна і мілей.*

*Да Заменгофа вольным крокам*
*Прайсці па Ліпавай наўсцяж…*
*Бо толькі ў шчырым Беластоку,*
*Так, так, у шчырым Беластоку*
*Яшчэ застаўся подых наш.*

*А як зляцяюцца аблокі*
*На мадэрновы Рох святы!*
*Ды ўсё таму, што ў Беластоку,*
*Так, так, у светлым Беластоку*
*Пабачыш Боскія сляды.*

*Яшчэ не раз усцешаць вока*
*Пляц і Браніцкага Версаль,*
*Пакуль спачну, — не ў Беластоку,*
*Так, так, спачну не ў Беластоку,*
*А ў Беларусіі, на жаль…*

## Гусі над Берлінам

*Зняў Берлін аснежаны парык,*
*Абмывае дождж дамоў чупрыны,*
*І раптоўна ў мутным небе крык*
*Пакідае доўгі клін гусіны.*
*На радзіме цені топчуць снег,*
*Ледзяшы трымаюцца франтонаў,*
*А па Шпрэе прэ вясна ў разбег,*
*Шчэміцца праз дзверы ды балконы.*
*Каля кірхі крокусы крычаць:*
*«Перамога! Hende Hoh, марозы!»*
*Недзе гусі стомлена ляцяць,*
*Важныя, нібыта бамбавозы.*
*Пралятуць праз сэрца і імжу*
*І Берлін ахутаюць туманам…*
*Як я гэтым крыкам даражу,*
*У тумане зніклым караванам.*

## Стамбул

*Паўстаў Стамбул мурлатым раем…*
*Пераканаўся сам: і сапраўды*
*На Галатасараі загараюць*
*Нібыта беі важныя — каты.*

*Гляджу не на мячэты ганарыста,*
*Нішто больш не цікавіць, акрамя*
*Як шчэмяцца апасліва турысты*
*Сярод лянівых млявых турчамяў.*

## Смаленск

*Як выпраўляюся ў паход —*
*заўжды, па-джэнтэльменску,*
*сваю экспансію на Ўсход*
*спыняю на Смаленску.*

*Ля сценаў велічных крамля*
*палохаю смалянаў:*
*«Віват, крывіцкая зямля,*
*Край кнежіка Рамана!»*

*Даруйце гэтакі імпэт, –*
*Хаця чаго дзівіцца!*
*Не таямніца, не сакрэт:*
*«Смаленск — мая сталіца».*

*Тут мой Дняпро і сем халмоў,*
*Царква на Гарадзянцы…*
*Вось тут бы жыць, ды час дамоў,*
*Экспансія — без шанцаў.*

# Камп'ютарны путанчык



Стася НАРКЕВІЧ

**У апошні час Марусі чагосьці не хапала: то добрага настрою, то вялікіх грошай, то цікавых сустрэч. Але самага галоўнага, у чым адчувала дэфіцыт, дык гэта ў цеплыні і шчырасці свайго мужа. Асабліва пасля таго, як камп'ютар набылі і паставілі яго на самым відным месцы. Сядзіць мужанёк ля яго дапазна, як малое дзіця. У розныя гульні ўсё рэжацца, а то баявыя баталіі на маніторы разгортвае. Калі перамагае, ад задавальнення аж нагамі грукоча па падлозе ды пішчыць, быццам парасё ў плоце. А бывае і ночку прыхопіць, каб настраляцца ўдоваль. А да Марускі — ні на сантыметр. Жанчына нават забылася, як гучаць такія чароўныя словы — накшталт «любая», «даражэнькая», «мая адзіная», ад якіх калісьці дрыжыкі па целе насіліся, не гаворачы ўжо пра абдымкі і найсаладзейшыя пацалункі. Дакранецца, бывала, да вуснаў — як мядком памажа. Асалода! Яна тады гатова горы перавярнуць — процьму работы перарабіць і раніцу пачаць з прыгатавання кавы. Прынясе ў ложак і заглядзіцца, як Міхаська адсёрбае пітво кахання. Потым абед шыкоўны прыгатуе, у пакоі прыбярэ, бялізну памые, у краму збегае і піва купіць свайму любаму. А ён рады-радзёшаняк. За такую ласку на руках насіў сваю жонку. А тут быццам падмянілі мужыка. Чужым стаў і халодным.**

«Ці не захварэў», — падумала жанчына і стала назіраць за сваім суджаным. Доўга моўчкі прыглядалася да чалавека і, у рэшце рэшт, не вытрымала — вырашыла за абедам спытаць, што ж яго так турбуе. І толькі адкрыла рот, каб вымавіць падрыхтаваную прамову, як Міхась апярэдзіў яе.

— Муся, нам патрэбна раз'ехацца на нейкі час і адпачыць адзін ад аднаго, — зірнуўшы ў бок, прагаварыў ён і змоўк. Глынуў гарбаты і прадоўжыў, — у розныя пакоі.

Спярша Маруся прыняла яго словы як неабчэсаны жарт, але калі вечарам з агульнага шырокага ложку ён забраў сваю падушку і коўдру ды перанёс у залу, занепакоілася.

— Што стала з ім? Няўжо ж камп'ютар усю мужчынскую сілачку высмактаў і яму сорамна прызнацца? — пыталася ў сябе жанчына. — Вунь колькі ўсялякіх лекаў цяпер — толькі ўжывай. Як жа дапамагчы, што зрабіць, каб наш мядовы месяц цягнуўся да апошняга ўздыху?

Думала Маруся, думала — але, нічога так і не змагла прыдумаць, акрамя таго, што гэтым горам рашыла падзяліцца з прыяцелькай Люськай, суседкай. Практычнай і ўсёзнаўцай у мужчынскіх справах і пытаннях. А вопыт у Люські быў на самай справе велізарны. Разоў з пяць заручальныя пярсцёнкі на свой кволенькі пальчык надзявала, але ні адзін з іх так і не падышоў, як і хлопцы, што іх набывалі. І засталася жанчына са сваёй шэрай коткай Пантэрай у сваёй аднапакаёўцы і вечнымі думкамі, як выйсці замуж.

Неяк надвячоркам, як толькі Міхась прыладкаваўся да камп'ютара, Маруська са слязьмі на вачах пазваніла ў дзверы суседцы. І, як тая адчыніла іх, загаласіла амаль на парозе.

— Люсечка, даражэнькая, парай, што рабіць. Міхася як падмянілі. Яму камп'ютар стаў даражэйшым, чым я. Глядзіць на мяне — і не бачыць. А калі я пачынаю з ім гаворку — быццам не чуе, а то можа і вушы заткнуць сваімі крывымі пальцамі. Нават сваю пасцель перанёс у залу. Што з ім, не ведаю…

— Мо і камп'ютар вінаваты. Але мне здаецца, ён у цябе хворы. Клімакс у яго. І, што страшнае, гэты нядуг цягнецца доўга-доўга і робіць мужчын непрыгодным для розных уцех. Быў у мяне адзін з такім дыягназам. Цяпер ведаеш, чаму я яго прагнала з хаты? Так што набярыся цярпення і мужнасці. Міхася ўсё роўна маладым не зробіць. А вось твая постаць, на якую нават маладыя хлопцы зазіраюцца, чорныя, як вугалле, вочы, так хочуць ласкі — і менавіта цяпер! Бо ў твае сорак з хвосцікам ты падобная на мядовы спелы наліў — дакранешся, а ён рассыпаўся. Спяшайся, пакуль зусім не пераспела. Гады вунь як лятуць, пасівееш хутка, а жаночага шчасця так і не пакаштуеш. Лепш займіся пошукамі дбайнага і прыгожага, але свабоднага мужчыны.

— Люся, ты часам з глузду не з'ехала? Якімі яшчэ пошукамі? Каго?! — перапытала Маруся. — Навошта мне гэта? Я лепш кам'ютар выкіну.

— Паўтараю: для тых, хто хоча паспець у апошні вагон. Мужчыны. І не кажы, што табе ён не патрэбен і што ты імі ўжо не цікавішся.

— Навошта? — гыркнула Маруся. — Без іх абыдуся.

— Можа, на нейкі час, — не ўнімалася Люська. — Ты хоць сябра для душы, калі для цела не хочаш, знайдзі. Завядзі віртуальныя шуры-муры. Ніхто ж не пранюхае, а я буду маўчаць, што магіла. Сядзь да таго ж разлучніка-камп'ютара, якім яго ты лічыш: зайдзі на сайт «Знаёмствы», ствары адрас электроннай пошты ды пакінь пра сябе прыкладна такія звесткі: прывабная, даўганогая, з двумя вышэйшымі адукацыямі, з банкаўскім валютным рахункам, з машынамі. Не важна, што адна пральная, а другая швейная (хто даведаецца?), для цёплых і шчырых зносін, пакуль у павуціне, а там як карта ляжа.

— Люся, зірні на мяне ўважліва. Вось малайчына. Я ж у тым камп'ютары разбіраюся, быццам парасё ў апельсінах. Можа, ты гэтую задачку за мяне сама вырашыш? Мне не падняць камп'ютарны пласт, ой, не падняць. А як працаваць з гэтай разумніцай-машынай? Неяк сорамна і цябе, і сына прасіць, тым больш, што ён у другім горадзе жыве, — пачырванеўшы да вушэй, ціха прамовіла Маруська.

— Дапамагу, хоць мне і няма калі. Зірні, колькі паведамленняў прыйшло. І мне на іх трэба адказаць, — сказала Люся і запрасіла Марусю падсесці да жалезнай свахі.

— А зараз я «Знаёмствы» адкрыю… Ну, як табе мужчыны? Пішуць, што вольныя, але мне здаецца, у кожнага з іх ёсць сям'я, і, думаю, нядрэнная. А выходзяць «папаляваць « на «павуціне» проста так, каб заняць час ды нам, жанчынам, галаву задурыць.

Маруся зірнула на фотаздымкі шматлікіх Люсіных пратэндэнтаў у жаніхі і абыякава зазначыла:

— Мужчыны як мужчыны. З галовамі, некаторыя з хітрай усмешкай. А што там за душой — цемра, хмызняк непралазны.

— Хто яго ведае. Давай лепш павывучаем малайцоў, — не ўнімалася Люська і бліжэй падсунулася да манітора. Навяла курсор на адзін фотаздымак і пракаменціравала: — Вось гэты, Бора. Нічога. Толькі нос сіні, выпівоха, відаць. Бач, вочы звузіліся. Пэўна ж фатаграфаваўся, калі кроплі бадзёрасці прыняў, — заключыла жанчына і клікнула другую старонку пекных донжуанаў.

— Маруська, — раптам крыкнула Люся. — Бачыш?! З вусікамі, з залысінкамі, думаю, гарачы яздок. Пад твой тэмперамент. Ямачкі ў шчоках. І не стары. Пясок не сыпецца яшчэ, чуе мая душа і бачаць вочы. Але каго ён мне напамінае, каго? — пыталася Люся не то ў сябе, не то ў сяброўкі, не то ў разумнай машыны. Зняла акуляры і амаль тварам улезла ў экран.

— Ну і каго ж ён напамінае табе, гэты дрыгун, і як яго завуць? — здзекліва перапытала Маруся.

— А ты не ўмееш чытаць? Міхасём, як і твайго. Ой, дык гэта ж і ёсць ён… Трымай мяне, звалюся са стула зараз. Відаць, ужо якая-небудзь жанчына спляла сетку з прыгожых слоў і заманіла твайго мужа ў яе… Цяпер зразумела, чаму ён такі. Закахаўся. Тут хвароба ні пры чым, гэта факт. Відаць, ужо круціць з якой-небудзь раман. Шкада, што не магу ўзламаць яго пароль і даведацца, з кім ён вядзе перапіску. Тут хакер сапраўдны патрэбен. Ды дзе яго ўзяць? Ноч на носе. Але што-небудзь прыдумаем.




— Не можа быць. Ён толькі ў гульні гуляе, сама бачыла. А тут…. — са злосцю сказала Маруся і, быццам п'яўка, прыліпла да камп'ютарнага акна. — Ды і непадобны ён, –заключыла.

— Божа, што ты кажаш? Можа, маленькі здымак? — І Люська павялічыла фатаграфію. — А цяпер, мая даражэнькая, пачытаем, што ён пра сябе піша, якія разумныя словы накідаў, быццам ікрынак. Павялічыць шрыфт?

І не чакаючы дазволу, Люся ўмомант зрабіла літары ў памер вераб'я.

— Што ён там пляце? — спытала Маруся, зірнуўшы чамусьці не на тэкст, а на сваю выратавальніцу.

— Піша, што дужа пунктуальны.

— Ё-ё-ён… пунктуальны. Во пачвара, во злыдзень! Яго ж не дачакацца ля крамы… — зашыпела жанчына. А яшчэ што?

— А яшчэ хоча зносін віртуальных. Але пакуль не пабачыць здымак, слова не выцісне на клавіятуры і мышкай не варухне. Згодзен і на сустрэчу, але не на доўгую. Хвілін на сорак, каб не надакучыць адразу. Хваліцца, што дужа разумее жанчын. Разбіраецца ў стылі напісанага і па почырку можа вызначыць, што за чалавек схаваны за той пісанінай. Бо ён, твой Міхась, псіхааналітык.

— Хто!? — не крыкнула, а прапішчала Маруська. — Ты ж ведаеш, як ён уздзейнічае на цэглу, якую на будоўлі цягае, што стары і аблезлы вол. Псіх ён, а не псіхааналітык. Для грамадства шкодны суб'ект. Такіх у бальніцу трэба лажыць. Што там далей?

— Свае даныя апісвае. Рост 190 см. Вага 95 кг.

— Колькі-колькі!? І чаму маленькія мужчыны так любяць падбавіць сабе дзясяткі тры сантыметраў. Рост у яго метр з капелюхом. Смарчок паганы, — выціскала з сябе не вельмі ласкавыя словы Маруся.

— Супакойся. Далей ён расказвае, што матэрыяльна моцны. Разведзены. Жыве асобна ад былой жонкі ў сучаснай кватэры. Ну і яшчэ, што любіць… Але гледзячы, які саставіў спіс, то любіць ён усё. Асабліва аўто, мастацтва і высокую моду. Гарэлкі не ўжывае.

— Не ўжывае!? Божухна, які бязгрэшнік. А як тады растлумачыць візіты ў выцвярэзнік аж два разы на месяцы — у дзень аванса і ў дзень палучкі, — не стрымалася Маруся і залпам, быццам асушыла стакан квасу, выдала самую страшную сямейную тайну.

— Што ты так расхадзілася? Лепш чытані. Бачыш, у твайго Міхася некалькі вышэйшых адукацый: незакончанае лётнае вучылішча, вышэйшае тэхнічнае, тры «верхнія» на базе вышэйшага, курсы масажа, курсы пашыву мужчынскай і жаночай вопраткі. Альпеніст, шафёр, гатуе смачна ежу і… волат у пасцелі… Які зайздросны кавалер! Што будзеш рабіць? — спытала Люся і адхінулася ад камп'ютара. — Відаць, жанчыны ўжо рвуць твайго Міхаську на шматкі, — і змоўкла. Пасядзела хвінін некалькі, прыжмурыўшы і без таго касыя вочы і прапанавала: — Паслухай, давай і мы напішам твайму Міхасю

пасланне. Маўляў, мы сяброўкі. Даўно аўдавеўшыя. З кватэрамі, «без прычэпаў» (мужы — былыя фізікі-ядзершчыкі), займаемся мадэльным бізнэсам. Пяць гадоў як жывём за мяжой. Але за гэты час (работы поўны рот) так і не знайшлі сабе мужчын. Бо яны, замежныя ўхажоры-французы, сквапныя ды скупыя. Ніколі нават не пачастуюць кавай. Хочам пазнаёміцца бліжэй з былым суайчыннікам. І каго спадар Міхась выбярэ (бо ён спадабаўся абоім), тая і будзе весці далейшую перапіску. А калі яшчэ падыдзе па характары — выкліча да сябе ў Францыю ці прыедзе ў краіну белых бяроз для больш цесных зносін. Фотаздымкі прылепім да тэкстаў.

—Ты што — звар'яцела? Ён жа нас пазнае. Асабліва мяне. Тут хоць паранжу накінь на мае рудыя вочы — агонь высмаліць нутро яго. Ведаеш, як Міхась баіцца майго позірку, ніколі ў вочы не глядзіць.

— Няхай баіцца. Мы такімі сябе зробім прыгажунькамі, і не будзем на сябе падобныя, вось пабачыш. Не верыш? Прынясі сваю якую-небудзь фотакартачку. Зараз!

Ні слова не кажучы, Маруся пабегла па фотаздымак і ўжо праз некалькі хвілін працягнула яго Люсьці.

— Сядай і глядзі. І вачам сваім павер. Праз некаторы час будзеш як артыстка.

І сапраўды, не прайшло і гадзіны, як Маруська ператварылася ў Магрэт, прывабную жанчыну, з кароценькімі валасамі-барашкам, як парык у Люські, з вялікімі сінімі вачыма і таліяй, як у Людмілы Гурчанкі.

— Падабаецца? — спытала Люся Марусю і, задаволеная сваёй працай, пагладзіла па грудзях.

— А твае фота дзе? Мы ж дамовіліся ўдвух ахмурваць майго Міхася, — пакрыўджаным голасам спытала Маруся Люсю.

— Адну хвіліначку. — І Люська адным націскам мышкі, якая чамусьці запішчэла на маленькім дыванчыку, паказала сябе: бландынку, з зялёнымі вачыма, пышнагрудую, але не дужа высокую.

— Падобная?

— Ой, ні за што б не здагадалася, — прызналася Маруся і зірнула на арыгінал, які сядзеў побач.

— А цяпер мы свае фоткі прымацуем адна да адной, захаваем як адзін здымак і кінем у павуціну, што кручок з чарвячком для рыбак. Можа, хто-небудзь клюне. Не выключаю, што гэта можа быць і Міхась.

— А калі ён нас не заўважыць?

— Не гаруй, заўважыць! Заклапочаныя асобы, як мужчыны, так і жанчыны, якія любяць поўзаць па гэтым сайце, адразу навенькіх заўважаюць. Тым больш, што мы будзем наступаць на яго балючыя мазолі, думаю, ты ведаеш, дзе яны знаходзяцца. Станем разжальваць, пісаць тое, што чалавеку даспадобы. Хто-хто, а я спадзяюся, за дваццаць гадоў, дзе яны знаходзяцца, ты ўсё ж вывучыла. Клюне, вось пабачыш!

З таго вечара і пачалося новае жыццё двух пакрыўджаных лёсам жанчын. Маруська як убачыць, што Міхась блытаецца паміж камп'ютарных путанаў — мігам да Люські. І строчаць суседу пасланні. Безупынку. Дапісаліся ўжо да таго, што чала-



век нават змяніўся: душ кожны дзень прымае, быццам упадабаная Магрэт, яна ж Маруська, законная яго жонка, можа праз камп'ютар унюхаць, якім мылам ён намыліў сваю холку ці якія шкарпэткі надзеў раніцою. Але галоўнае, што ў ім змянілася — дык гэта адносіны да гарэлкі. Ні кроплі, ні на глык. Сачыць за сабою пачаў. І на яе, Маруську, таксама неяк па-іншаму пазірае. Загадкава-загадкава. Аднойчы не вытрымаў і сказаў:

— Знаеш, жонка. Не крыўдуй. Маё пачуццё да цябе прайшло. Ты добрая жанчына. Але я пакахаў Магрэт, якая, шчыра прызнацца, нечым падобна да цябе, да той, якую я сустрэў у маладосці. Мой віртуальны раман цягнецца ўжо добрых месяцаў з сем. Калі ў мяне што-небудзь атрымаецца з жанчынай з Парыжа, мы з табою скасуем шлюб. Яна дызайнер. Хутка прыедзе на паказ высокай моды ў наш горад. Будзе старшынёй журы. Праз тыдзень. Я цябе вельмі прашу — знікні на дзень-другі. Хоць да сваёй Люські безгаловай...

— Міхасёк, як жа я рада за цябе! — ледзь стрымліваючы рогат, вымагарыла Маруська. — Зыду, зыду, мой родненькі. Толькі б табе добра было, толькі б утульненька і цёпленька, мой саколік. Я нават да Люські сёння перабяруся, каб не перашкаджаць. Табе ж трэба рамонт дарабіць, вымыць усё, грошы, якія ты назбіраў, патраціць: бялізну купіць, памяняць падштанікі на модныя трусялі і шмат чаго яшчэ. Замежныя кабеты багацце любяць ды чысціню. Ой, ледзь не забылася: халадзільнік забі рознымі прадуктамі. Твая курачка французская што любіць ужываць — каньяк ці марціні? А мо ты ёй сівухі ў бабы Ганькі купі? Учора гнала. Носам чула. Свежачок. — Давала апошнія парады Маруська, ужо звонячы ў Люськіну кватэру.

— Зараз, зараз, — пачулася... — Пачакай. — Шчоўкнуў замок, і, душачыся ад смеху, Маруся забегла ў прыхожую.

— Ну што, дапісаліся? Што ты яму ўчора змарозіла? У горадзе паказ моды. Якой? У нашых кварталах нават швейнай майстэрні няма. А ён, прыдурак, купіўся. Ужо чакае прыгажуню Магрэт. Гатовы рэвалюцыю ў хаце зрабіць — толькі б спадабацца былой зямлячцы.

— Бачыш, якая моцная зброя — каханне. Не перашкаджай. Тыдзень яму хопіць, каб выправіць усе хібы ў кватэры. А ты, жывучы ў мяне, паназірай. Гэта ж так пекна, — усміхаючыся, каментавала Люська.

— А можа, калі ён навядзе марафет, напісаць, што я, ой, Магрэт, захварэла — і прадаўжаць глуміць яму мазгі і надалей праз інтэрнэт.

— Паглядзім. А цяпер спаць. З заўтрашняга дня пачнуцца цікавыя падзеі. — І жанчыны першы раз больш як за паўгода не ўключалі камп'ютар. Улягліся ў пасцель і адразу заснулі. Думалі паспаць да гадзінаў дзесяці, але грукат, які стаяў на лесвічнай пляцоўцы (хоць і была субота), падняў іх на ногі. Усхапіліся з пасцелі і па чарзе прыліплі да дзвярнога вока — і амаль аслупянелі. Міхась з групай сяброў-будаўнікоў валтузіліся ля кватэры, заносячы розныя будаўнічыя матэрыялы. Так пачынаўся вялікі рамонт. Першы капітальны за дваццаць гадоў іх сумеснага жыцця.

— Цудненька, — першай апрытомнела Люська. Праз дні тры-чатыры пойдзем вітаць Магрэт, — і залілася смехам, відаць, прыдумаўшы сцэну сустрэчы.

Амаль тыдзень жанчыны не вялі перапіску. Не ўключаў камп'ютар і Міхась — не было калі. Ён плённа і шчыра мяняў сваё гняздо. Праз сем дзён хрушчоўскую трохпакаёўку ператварыў у кватэру новай сучаснай планіроўкі, у якую ўклаў не малыя, назапашаныя гадамі, грошы. Да прыезда Магрэт заставаўся дзень, і Маруся з Люськай выйшлі на сувязь. Паведамленне, якое адрасавала Міхасю Магрэт, было кароткім:

«Любы! У тваім горадзе буду заўтра вечарам. Мяне не трэба сустракаць. Гэта зробяць арганізатары паказу. Не хвалюйся. На жаль, я не зусім здаровая. Прастыла. Не магу размаўляць, тэмпература хоць і не вельмі высокая, але мне няёмка нават сядзець ля камп'ютара. А яшчэ вельмі баліць горла і цяжкая галава. Баюся, што гэта сімптомы свінога грыпа. Як толькі ўладкуюся ў гасцініцы, патэлефаную на твой хатні, і думаю, калі не зваліць хвароба — праз некаторы час буду ля тваіх ног. Магрэт».

Міхась, доўга не думаючы, напісаў адказ:

«Я вельмі хвалююся за цябе і прашу, як бы ты сябе не адчувала, прыедзь. Буду вельмі чакаць. А мо я сам прывязу цябе з гатэля?»

«Не. Я сама... Да сустрэчы. Твая Магрэт».

— Ну, і што далей? — спытала Маруся.

— Раніца вечара мудрэй. Ці, як кажуць людзі, Бог дасць дзень, дасць і ежу. Давай лепш пойдзем на кухню і распрацуем план сустрэчы іншаземкі. — І яны пайшлі заварваць гарбату, а Міхась, прачытаўшы апошняе пасланне, задаволена пацягнуўся, быццам блудны стары, ні на што не годны, кот, пацiраючы свой тлусты жывот-«мазоль», які падпіраў амаль бараду і не даваў нахіліцца, каб завязаць шнуркі на чаравіках — у чаканні заўтрашняга дня.

Дарэчы, чакалі новага дзянёчка і Маруся з Люськай. Здаецца, доўга не сядзелі, а калі зірнулі на ходзікі, якія цікалі над галовамі, было далёка за чатыры гадзіны раніцы. А як толькі жнівеньская ноч схавалася за далягляд і мастак-ранак на небе правёў светлыя фарбы, кабеты заснулі. Спалі амаль да абеду. Усхапіліся зноў ад бясконцага ляпання дзвярэй суседняй кватэры. Міхасёвай.

— Хопіць спаць, — буркнула Люська, — грыміравацца калі будзем?

— Бліжэй да вечара, — адказала Маруся і перавярнулася на другі бок.

Дзень прайшоў хутка. Міхась мо разоў з дваццаць то выходзіў, то заходзіў у кватэру. Апошні раз выводзіў аўчарку. Узнёслы, заклапочаны. А гадзін каля дзесяці да яго пазваніла мілая і абаяльная жанчына. У модных шортах, у кароценькім топіку, які не даходзіў да пупа, і велізарным выразам, які адкрываў усё багацце, што было схавана пад ім. Твар закрывалі вялікія акуляры. Яны ж і прытрымлівалі валоссе, што баранчыкам вілося на галаве. Чорнае, як смала. Яе рукі былі рудыя. Загар так і кідаўся ў вочы. Сумку госця трымала на плячы, а ў руках быў замежны пакет, куплены на барахолцы.

Міхась адчыніў дзверы, і ўсмешка, шчырая і ясная, асвяціла яго вочы, у якіх можна было прачытаць: мая багіня, маё каханне! Ён нават не звяртаў увагі на Люську, якая высунула галаву ў праём сваіх дзвярэй і пырскала смехам на ўсю пляцоўку.

— Тут жыве спадар Міхаіл? — з акцэнтам прагаварыла жанчына і працягнула руку. — Будзем знаёмымі. Я Магрэт.

— Праходзьце, праходзьце, — блытаючыся ў словах, мямліў Міхась. — Я вельмі задаволены. Можа, акуляры здыміце.

— О-о, нэ, нэ, — на ламанай расійскай прагаварыла жанчына. — У меня конюкцівіт. І, напэўна, грып. Я баюс заразіт Міхаіла. — І, штурхнуўшы чалавека, прайшла ў кватэру.

— Там сабака, Шарык. Баюся, каб ён вас не парваў, — крыкнуў ва ўсё горла гаспадар, успомніўшы пра свайго чатырохногага сябра, якога забыўся выправадзіць туды, дзе была і жонка.

— Вы не турбуйцеся. Мяне любяць усе сабакі на свеце, асабліва аўчаркі. — І рука Магрэт стала чухаць Шарыка за вухам. Міхась стаяў як укапаны.

— Мадам Магрэт! Вас за мяжой так завуць? — трошкі супакоіўшыся, прагаварыў чалавек. — З дарогі трэба падсілкавацца і выпіць. За знаёмства і сустрэчу. Вы ж не забыліся пра нашыя звычаі.

— О нэ, о нэ. Гэта застаецца на ўсё жыццё. Паверце.

І Міхась правёў госцю ў вялікі пакой.

Вячэра была адметнай. Крывячы язык, Магрэт расказвала байкі, а Міхась усміхаўся. Бывала, парагатваў, прыкрываючы рот сурвэткай. Каля стала круціўся Шарык і, схіліўшы галаву, пазіраў на жанчыну. Здавалася, што ён ёй усміхаецца. Калі было далёка за поўнач і Магрэт спазнілася ў атэль, Міхась тактоўна прапанаваў ёй застацца на ноч. На іх першую ноч.

— А я магу перапрануцца? Ванная дзе? — спытала госця і прамічком падалася да яе.

Міхась пабег за жанчынай. Адкрыў дзверы і паказаў, дзе што ляжыць, і выйшаў. Магрэт уключыла ваду і, перакрычваючы яе шум, сказала:

— Міхась, вы можаце лажыцца. Я доўга люблю песціцца ў вадзе. Прагрэюся — і да вас. Вы месца грэйце.

Прайшло досыць часу, а Магрэт усё мылася. Міхась ёрзаўся, ёрзаўся на новым дыванчыку, чакаючы жанчыну, заснуў. Яго выбілі з энергетычнай каляіны не толькі некалькі кілішкаў выпітай гарэлкі, якую ён даўно не ўжываў, але і тыднёвая мітусня: хваляванне і чаканне сваёй каханкі. Захроп так, што Магрэт аж спужалася.

— Пара і выходзіць, — прашаптала яна. Ціхенька адкрыла дзверы і прайшла да Міхася. Падлезла пад коўдру. Чалавек спаў, быццам пшаніцу прадаўшы...

А раніцою, калі да іх ложка падышоў Шарык і стаў лізаць рукі — то яго, то яе, — Міхась усхапіўся. Падскочыў і зірнуў спярша на часопісны столік, на якім ляжаў парык, акуляры, і толькі потым зірнуў на замежную госцю — і войкнуў. Моцна, злосна і працяжна, так, быццам ён прайграў самы адказны бой у жыцці...

Маруся ж спала соладка, падклаўшы пад галаву рукі, як дзяўчо. І ніякія гукі не маглі растрывожыць яе ўпругае цела, якое хацела ласкі і кахання.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (94) | 27 чэрвеня 2014 | № 25 (394) Новы Час

# Графіці



Валеры ДУБОЎСКІ



***

*Мы пранікаем*
*у будучыню*
*праз унукаў, якія*
*прамаўляюць*
*нашай мовай.*

***

*На смочках тваіх*
*такі аптымізм.*
*Ты — спайманая ноч*
*у смелых абдымках*
*паўдня.*

### Графіці

*Неўтаймаваная мроя*
*звыкласці*
*выходзіць праз вуглаватыя*
*крылатыя графіці.*
*Плойма спайманых,*
*спыненых светлаценяў:*
*сценапіс,*
*сцэнапіс,*
*снегапіс,*
*словапіс,*
*сэрцапіс.*

***

*Два небыцці*
*кальцуюць нашае жыццё —*
*да і пасля яго.*

***

*Трывожышся без клопату,*
*нябога:*
*дзянёк адной спагадай*
*прывячае.*
*І вось яна —*
*пякучая трывога.*
*І вось яно —*
*зацятае маўчанне.*
*Гарчэюць палынова*
*небыліцы*
*і лёс па галаве*
*сцябае.*
*І сэрца ўжо*
*нічога не баіцца.*
*І любата нялюбая*
*любая.*

### Усюдная Кніга Быцця

*Як памяць мая задрэмле*
*шчакой ля сунічнай кветкі*
*на ўгрэтым баку*
*муравейніка,*

*як спелы аціхне дождж*
*у прадчуванні дня*
*і бясконцасці паўтарэння,*

*як нехта пакліча некага*
*і нехта прыйдзе,*
*можа, і невідушчы, але*
*з адкрытай душой,*

*як аціхнуць людскія праклёны*
*пад гэтым небам,*
*дзе сонцу больш замінаюць*
*зусім не аблокі,*
*а цені нашых грахоў,*

*як зразумеюць маўклівых*
*тыя, хто ўмее крычаць*
*ад напругі пустэчы,*

*як сыйдуць апошнія*
*з самых апошніх*
*і пахіснуцца зоры,*
*і не ўзляціць пчала*
*прасветленым ранкам…*

*Будзе пісацца і далей*
*усюдная*
*Кніга Быцця.*

### Дзень одумам плыткі

*Я думкі светлыя,*
*ў свет ідучы, выпасваў.*
*Клёк цешыў я*
*урочысты, някляты.*
*А з дзён мінулых*
*і з радзіннай хаты —*
*пясочку жменя,*
*як пясчынка часу.*

*Ды ўсё адно*
*дзень одумам плыткі.*
*Пад шыгаллём*
*не змізарнець, не згаснуць.*
*Які твой час —*
*у часе ты такі.*
*У жмені датрымай*
*хаця б пясчынку*
*часу.*

***

*Ты ўжо прывык*
*да жыцця?*

*Звычка,якая праходзіць.*

### Сляды

*Барысу Пятровічу*

*Прыпамінак мінулага.*
*У ім жыве нават незбылое.*

*Ішоў ці яшчэ не крочыў —*
*паўсюль твае сляды.*
*Сапраўдныя і ўяўныя.*

*Варажба наступства,*
*дзе столькі прасторы*
*чаканню ўсяго,*
*што адбудзецца*
*і што не прыйдзе, але*
*стане ізноў*
*праміnулым.*

*Ва ўчорашнім ніколі.*
*У заўтрашнім калі.*
*У сённяшнім магчыма.*

***

*З прадсвету,*
*з прадвеку*
*і новымі вякамі,*
*чакана і нечакана*
*дзіцё нараджаецца*
*са сціснутымі кулачкамі.*

*Чалавек памірае*
*з разамкнёнымі рукамі.*

***

*Не было ніколі, нідзе*
*пуцявіны лёгкай*
*да рая.*
*Лёс дарогі кладзе —*
*чалавек*
*шляхі выбірае.*

***

*Непрымусны,*
*няз'езджаны,*
*стойкі*
*дзень.*

*Не ўпаду на траву.*

*Абрэжце*
*урэшце*
*пастронкі!*
*Усё адно*
*пастронкі парву.*

### Позна

*Адпрэчыць зазімак душа,*
*Хоць на двары жыцця*
*Марозна.*

*Праведаць сябрука спяшаў*
*Марозам новым.*

*Позна!*
*Позна…*

*Ад далані чужой*
*Сваю ўгрэў,*
*Каб немаль да сваёй*
*Душы дапасці.*
*Жыццё — непрыхаваны грэх,*
*Калі няспраўджанае*
*Шчасце.*

### Пчала ляціць

*Час змяншае прастору,*
*Але ж*
*Штодня размаўляеш*
*З далеччу.*
*Пчала ляціць, панікаючы.*
*Панікаючы,*
*Ты жывеш.*

*І жыццё —*
*чарговай папаскай —*
*Адорыць цябе здзіўленнем.*
*Паўдзён для яблыні*
*Яму ўскапаў —*
*Адвячоркам*
*Лісцем уцэнены.*

*Жыццё —*
*Найскладанейшы верш.*
*Да яго, як рыфму,*
*Падбіраеш ключы.*
*Далей ляціць пчала,*
*Панікаючы.*
*Далей,*
*Панікаючы, ты жывеш.*

***

*Пад'езд*
*дапівае прастору,*
*небяспечна*
*ліфтуе з вамі.*
*Цягне ўніз,*
*а вам трэба ўгору.*
*Ён вярхі*
*яднае з нізамі.*

*З вышыні,*
*трос нібы абарваўся,*
*праз суседзяў,*
*праз цемру ляціце.*
*Ці то вецер,*
*ці панк распісаўся:*
*на дзвярах —*
*пра любоў графіці.*

# Шэсце слова



Валянціна ОСІПАВА

*Слоўнік нядрэнны, дарэчы.*
*Не разумею, чаму гневу лава*
*Так адшліфоўвае сказы,*
*А ў момант, для сэрца самы адказны,*
*Робішся ціхай, няўклюднай, гаркавай.*

### Пра нясмеласць

*1*

*Мне хочацца выбавіць жамчужыну*
*пяшчоты*
*З самай інтымнай глыбіні душы*
*І перадаць табе гэты далікатны дар.*
*Але дарэмна: губляюся пры сустрэчах.*
*І толькі на тэрыторыі мар*
*З лёгкасцю размаўляю з табой*
*пра розныя дробязі.*
*Адно і застаецца: крадком любавацца*
*табой,*
*Мой «сляпы» спадар.*

*2*
*Мне б прашаптаць табе словы пявучыя,*
*А не маўчаць пры сустрэчы.*
*Тонкасцям розным размовы навучана,*

### Пра адданасць

*1*
*Чакаюць гадзінамі, днямі, гадамі:*
*Хто — вяртання, а хто — прывітання,*
*Крыўду хаваючы і нараканне.*
*Ты пакідаеш — ці прыйдзеш назад?…*
*Пачынаю свяшчэнны абрад*
*ЧАКАННЯ.*

*2*
*Сэрцу вернаму добра вядома: пашану*
*Вельмі рэдка жыццё заручае з праўдай.*
*Бо чамусьці часцей за іншых*
*Адданым*
*Раняць душу атручанай дзідай здрады.*

### Пра кампраміс

*Хацелася б ісці не згінаючыся,*
*Прытрымлівацца правілаў неба,*
*Але закон жыцця патрабуе*
*хіліцца да зямлі.*
*…Не нагадвай, што бура ломіць*
*стрункія дрэвы.*

### Пра мэтанакіраванасць

*Лініі …*
*Лініі …*
*Лініі …*
*Шэрыя,*
*Жоўтыя,*
*Сінія …*
*У розналінейнасці*
*Моры*
*Пастаў кропку адліку —*
*Здабудзеш*
*кропку*
*апоры.*

### Пра прызначэнне

*Хто адкажа: якая рацыя*
*Выстаўляць на агульны агляд*
*Летуценні, пачуцці, роздумы?*
*Відаць, мала ў паэтаў розуму…*
*Што іх вабіць да праўды —*
*Слава?*
*Але ведаюць: слава — дым…*
*І які кошт жабрацкаму «брава»,*
*А тым больш, калі пасмяротнаму?..*
*Ды паэтаў — дзіўная справа! —*
*Не шануе, але гадуе*
*Свет стагоддзе кожнае спраўна.*
*Хто яны: маралі кляўрэты?*
*Ці прарокі?*
*Ці, можа, вар'яты,*
*Што з пагардай глядзяць на ганенні?*
*Дзівакі?*
*Кандыдаты ў геніі?*
*Немагчыма прыйсці да высновы…*
*Не шкадуе іх лёс,*
*Ды, на шчасце,*
*Не спыняецца шэсце Слова!*
*Няма іншага шляху паэтам,*
*Бо імкненне да зорнага свету*
*Прыцягненне зямное засціць.*

### Пра брыдкаслоўе

*Як хітры Абрам ганарыцца блатам,*
*Так прастадушны Іван — ма́там…*
*Як прыкіпела да сэрца зараза!*
*Руку з усмешкай гатовы падаць мы*
*Глумліўцу, які пасля кожнай фразы*
*Ганьбіць ТВАЮ маці…*

### Пра сардэчнасць

*Пра міласэрнасць гаворым*
*з пагардай, —*
*З гардыняй прыйшлі мы да поўнае згоды!*
*І сарамацімся звычайнай спагады,*
*Як даўняй сукенкі, што выйшла з моды.*

# Без Генадзя Бураўкіна...

**8 ліпеня споўніцца 40 дзён, як у лепшы свет адышоў вядомы беларускі паэт, журналіст, дыпламат, грамадскі дзеяч, сябра Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Рады беларускай інтэлігенцыі, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра Генадзь Бураўкін.**

Ужніўні яму споўнілася б 78 гадоў. Апошнія месяцы Генадзь Мікалаевіч змагаўся з анкалагічным захворваннем (памёр у сваёй менскай кватэры раніцай 30 траўня).

Генадзь Бураўкін нарадзіўся 28 верасня 1936 года ў вёсцы Шуляціна Расонскага раёна. На гады яго дзяцінства прыпаў страшны час нямецкай акупацыі.

Генадзь Бураўкін скончыў аддзяленне журналістыкі філфака БДУ (1959). Працаваў у часопісе «Камуніст Беларусі», у газеце «Літаратура і Мастацтва», быў карэспандэнтам «Правды» па Беларусі. Паводле ягоных згадак, праца журналістам навучыла яго паважліва і адказна ставіцца да слова.

Калі Генадзь Мікалаевіч працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», то друкаваў творы Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча, а таксама знакамітую кнігу Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка «Я з вогненнай вёскі».

12 гадоў (1978–1990) быў старшынёй Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанні і радыё БССР і прыклаў шмат высілкаў дзеля беларусізацыі эфіру.

У 1990-м Генадзь Бураўкін стаў першым прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры ААН. У Нью-Ёрку ён працаваў з 1990 па 1994 гг.

У 1994 годзе вярнуўся ў Беларусь, быў намеснікам міністра культуры і друку, а ў 1995–2001 гадах працаваў у часопісе «Вожык». У 2000 годзе быў сустаршынёй Усебеларускага з'езда за Незалежнасць, на якім быў прыняты Акт аб незалежнасці Беларусі. Некаторы час Генадзь Бураўкін узначальваў Таварыства беларускай мовы.

Вершы і песні на словы Генадзя Бураўкіна вядомыя, бадай, кожнаму беларусу. Наўрад ці знойдзецца той, хто не засынаў у дзяцінстве пад яго «Калыханку». Усяго ж цягам жыцця Генадзь Бураўкін напісаў больш за два дзясяткі паэтычных кніг. За адну з іх — зборнік «Варта вернасці», які выйшаў у 1978 годзе, — паэт быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы.



Генадзь Бураўкін з тых, хто ствараў незалежную Беларусь. І мы верым, што яго слова і плён яго добрых справаў будуць жыць разам з намі, як і нашая светлая памяць пра яго.

# Асірацелы двор

## Колькі словаў пра старэйшага таварыша

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

**Вельмі шкадую, смуткую невыказна, што страціў адну мажлівасць, адну перавагу ў параўнанні з калегамі-літаратарамі: бачыць Генадзя Бураўкіна, сустракаць дарагога і незабыўнага Генадзя Мікалаевіча ў сваім, а дакладней, у нашым двары.**



**Генадзь Бураўкін і Уладзімір Сіўчыкаў. 2008 г.** Фота Антона Матолькі

Пашчасціла мне суседнічаць па двары — зялёным і даўжэзным, ад «Акадэмкнігі» і амаль што да Батанічнага сада, абмежаванага з бакоў галоўным сталічным праспектам і спортпляцоўкамі пры Палацы воднага спорту, — пятнаццаць гадоў. Гады тыя падаравалі нямала як планаваных, дамоўленых, так і нечаканых, выпадковых, але ад таго не менш прыемных і запамінальных сустрэчаў. Трэба было перадаць яму «друкапіс», карэктуру альбо кнігу — званіў на хатні гарадскі, а пазней і на мабільны тэлефон, Генадзь Мікалаевіч найчасцей бадзёра адгукаўся, нібыта радаваўся магчымасці прагуляцца: «Ну дык рухайся ў бок майго пад'езда, перастрэнемся!»

Падчас тых шпацыровак пра што толькі ні гаварылася: пра падзеі ў свеце і ў краіне, пра навіны ў грамадскім і літаратурным жыцці, пра кніжныя цікавосткі, пра адметныя газетныя і часопісныя публікацыі. І ўсё сведчыла пра тое, што заўсёды быў ён найперш патрыётам, беларусам, а толькі потым дзяржаўным дзеячам і партыйным функцыянерам.

Адгукаўся Генадзь Мікалаевіч і пра кніжкі, што выходзілі з лагатыпам майго выдавецтва, няраз вяртаўся да анталогіі вершаў і песняў пра каханне «Яна і Я», прэзэнтацыя якой з аншлагам прайшла ў тады яшчэ нашым Доме літаратара...

**Хочацца верыць, што выправіўся паэт, дыпламат і дзяржаўны дзеяч у лепшы свет, дзе шануюць і любяць яго не менш, чым на любай Беларусі**



**Пасля выставы Millіennium 22 кастрычніка 2009 года.**
Фота Уладзіміра Сіўчыкава

Вельмі даражыў я ягонымі водгукамі пра мае кніжкі, нечаканымі ацэнкамі часам даўніх публікацый (як, да прыкладу, у альманахах «Дзень паэзіі» ці, наадварот, «свежых» выступаў у «Літаратурнай Беларусі»). Атрымаўшы слоўнік-даведнік «2000 белорусских 2000 русских идиом, фразеологизмов...» з дэдыкацыяй, ён нібыта з дакорам сказаў: «Ну вось, Валодзя, ты падараваў мне бяссонную ноч!»

Расказаў ён аднаго разу пра тое, як працаваў над кнігаю ўспамінаў пра свайго сябра і паплечніка Васіля Быкава. Гэта быў ці не адзіны выпадак, калі Генадзь Мікалаевіч паскардзіўся на складанасці і цяжкасці працы ўкладальніцкай, на тое, якая яна працаёмкая, а нярэдка і няўдзячная, на тое, колькі нерваў і сродкаў каштавала: адны толькі тэлефонныя званкі Чынгізу Айтматаву ў Брусэль або ліставанне з расійскімі калегамі чаго былі вартыя! (Хочацца верыць, што талакою адолеем, выдадзім кнігу эсэ і мемуараў і пра самога Генадзя Мікалаевіча.)

Дзякуючы суседству па двары меў я за гонар прымаць Генадзя Мікалаевіча ў сваім доме.

Але было і яшчэ адно суседства: лецішча ці, як любіў пра яго казаць паэт, лесішча (папраўдзе хавалася яно ў лясным гушчары настолькі, што, прынамсі, суседзяў не было ні відаць, ні чуваць) у яго было ў Крыжоўцы, а маё — непадалёк, у Зялёным, на знакамітай Лысай Гары. Асабліва помніцца адно з гасцяванняў у яго разам з Алесем Жуком, пасля якога не раз пашкадаваў, што не прыхапіў з сабою дыктафон. Гаворка атрымалася доўгаю і разняволенай, можа, праз тое, што ачуньваў Генадзь Мікалаевіч ад хваробы ці праз тое, што доўгі час быў на лецішчы на самоце.

А вось на бальнічным ложку пабачыў яго ў Чыжоўцы, у лякарні №10, дзе праведваў разам з Лявонам Баршчэўскім. Генадзь Мікалаевіч перанёс тады аперацыю на воку, але трымаўся вельмі мужна, хваліў прафесарку, загадчыцу афтальмалагічнага аддзялення, якая ўдала праапервала і хораша глядзела яго. Распытваў пра навіны, хоць меў і газеты, і радыёпрымач, як заўсёды, выяўляў сябе чалавекам цікаўным і зацікаўленым, крыху наракаў на журналістаў «жоўтай» газеты, якія павыдзіралі ягоныя выказванні з кантэксту, пастараліся падаць у скандальным ракурсе...

У роднае Жодзіна на сустрэчы з чытачамі ўдалося звазіць яго двойчы.

З Лявонам Баршчэўскім былі на імпрэзе ў адзінай у краіне жаночай (не разумею, чаму не завецца яна дзявочай!) гімназіі, дзе вядоўца прадставіла Генадзя Бураўкіна як Народнага паэта Беларусі, і аўдыторыя таго аніяк не аспрэчвала. Пасля таго выступу пабывалі на сядзібе ў славутага таксідэрміста і фотамайстра Генадзя Пузанкевіча, агледзелі ягоны «звярынец», сад і аранжэрэю з мноствам экзотаў, ахвотна і ўсмешліва сфатаграфаваліся пры гіганцкім пудзіле бурага мядзведзя! І тады паэт засведчыў сябе як творцу дапытлівага і дасведчанага.

А з Аляксеем Марачкіным выступалі ў мастацкай школцы, якую стварыў і ачольваў Аляксандар Сабалеўскі, а потым і ў гарадской бібліятэцы.

Тамтэйшыя бібліятэкаркі пахваліліся сваёй загадчыцы, калі яна выйшла з адпачынку, якіх пачэсных гасцей мелі на сустрэчы з чытачамі, а тая ўзняла гвалт: «Ды вы што! Гэта ж бэнээфаўцы, апазіцыянеры! Праз тое ім улады ні званняў, ні пасадаў не даюць!»...

Ахвотна наведваў паэт і мастакоўскія імпрэзы.

Хораша помняцца ягоныя мудрыя і дасціпныя словы на выставе ў гонар тысячагоддзя летапіснай Літвы «Millіennium» у Палацы мастацтва, дзе і Генадзь Бураўкін быў ушанаваны важкім масянжовым медалём.

Але асабліва прыемна было пабачыць яго ў той самай зале ў лютым 2008 года на імпрэзе «Жодзінцы», што сталася вянцом аднайменнага праекта з выставаў у шасці гарадах і літаратурна-мастацкага альбома двух дзясяткаў творцаў-жодзінцаў.

Схамянуўся — упершыню гаварыў з паэтам напачатку 80-х гадоў, калі быў яшчэ студэнтам-філфакаўцам, а вось апошняя, працяглая, не мімаходзь сустрэча была ажно паўгады таму. Адбылася яна на паседжанні Рады нашай пісьменніцкай суполкі, дзе абмяркоўвалі планы працы на бліжэйшыя месяцы, а таксама святкаванне 80-х угодкаў Саюза беларускіх пісьменнікаў. Сімвалічна было, што засядалі ў Сусветны дзень правоў чалавека, і ў той дзень рэкамендавалі мы з Генадзем Мікалаевічам да ўступлення ў шэрагі СБП даўняга і мужнага змагара за правы беларускага чалавека Аляксея Марачкіна (Алеся МаRа), якому сціпласць замінала куды раней пагрукацца ў нашу літарацкую сябрыну.

Хочацца верыць, што выправіўся паэт, дыпламат і дзяржаўны дзеяч у лепшы свет.

У той свет, дзе шануюць і любяць яго не менш, чым на любай Беларусі, дзе абмінаюць яго завірухі, дзе зоркі ўспыхваюць над сінявою, дзе спелым яблыкам падае яму на далоні поўня, дзе яго закалыхваюць і зачароўваюць, дзе спяваюць яму калыханкі даўгадзюбыя буслы і найсвятлейшыя анёлкі...

# Герадоцінкі-15,
## або Год аршанскага каня



Леанід ДАЙНЕКА

...Па традыцыі нованароджаны год атрымоўвае імя. 2014-ы, як навучаюць нас усходнія астролагі (і хто толькі прызначыў іх у нашыя настаўнікі?) — Год Каня... Чуў я яшчэ назвы Год Сіняга Каня, Год Чырвонага Каня і г.д. Але ж гэта Год Аршанскага Каня! Чаму, спытаецеся? А таму, што сёлета мы адзначаем 500-годдзе славутай Аршанскай бітвы! Памятаеце? Не забыліся? Роўна пяцьсот гадоў таму 8 верасня 1514 года войска нашай тагачаснай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага пад ачолам гетмана Канстанціна Іванавіча Астрожскага пад горадам Воршай над ракой Крапіўнай ушчэнт разграміла агромністую васьмідзесяцітысячную маскавіцкую рась. Тады была пятніца. Тады быў Дзень Нараджэння Прачыстай Багародзіцы Дзевы Марыі. Сонца было ў сузор'і Дзевы. Яно ўзышло ў той дзень у 7 гадзін 4 хвіліны. Зайшло (для шмат каго назаўсёды) у 18 гадзін 56 хвілін. (Аб гэтай лёсавырашальнай бітве я пісаў у сваім рамане «Назаві сына Канстанцінам». Тых, хто зацікавіўся, адсылаю да гэтай кнігі.)

Чаму ж усё-ткі менавіта конь праславіўся падчас той крывавай сечы? А таму што вершнікі і артылерысты Канстанціна Астрожскага скрышылі, здаецца, непахісную сцяну фанабэрыстага маскавіцкага войска, раздзяўблі яе на горкі пыл.

Конь, як і ягоны гаспадар-вершнік, галоўная фігура бою. Конь, прывучаны да агню, крыві і страляніны, імчыцца ўперад як няўтрымны магутны таран, зразае цяжкімі капытамі ворага. Сваім тулавам, сваёй шыяй і галавой ён прыкрывае вершніка, служыць яму шчытом. Шмат якія раны, што, вядома ж, атрымаў бы чалавек, атрымоўвае конь. Каня калечаць. Каня забіваюць. Белымі конскімі чарапамі высцелены прасторы Еўропы і Азіі.

Узнімем жа чаркі за Год Аршанскага Каня! Уславім той слаўны векапомны дзень, калі Нашы разбілі Іхніх. Не будзем замоўчваць сваю Перамогу. Такі быў Час. Такі быў Век. І нашы гераічныя продкі ліцвіны-беларусы, бароначы свой край, разграмілі нязваных прыхадняў з Усходу. Гэта не азначае, што мы — ворагі расіянам альбо якім-небудзь іншым народам. Мы ворагі захопнікам. Гэта азначае, што мы — народ самабытны, са сваёй гісторыяй, якая вельмі часта пісалася крывёю...

Я ведаю, што нашая сённяшняя дзяржава, пэўна ж, не будзе адзначаць гэтую дату, пастараецца не заўважыць яе. Я нават допускаю, што некаторыя нашы сённяшнія чыноўнікі ў той бітве былі б не пад сцягам Канстанціна Астрожскага, а пад сцягам маскоўскага ваяводы Івана Чаляднiна. Кожны, урэшце, сам абірае рэчышча свайго жыцця, сам будуе яго. Але ўсе мы, хто пачувае сябе беларусамі, хто ганарыцца сваім мужным народам, з радасцю адзначым гэты дзень. Напаўняйце келіхі віном! Ёдзьце, хто зможа, на тое гераічнае аршанскае поле, паслухайце, як звініць там вецер вечнасці. А ў цесным сяброўскім коле паслухайце кружэлку — Зміцер Сасноўскі разам са сваім гуртом «Стары Ольса» натхнёна праспявае песню пра Аршанскую бітву.

Слава нашым продкам! Слава героям! Мы ніколі не забудзем цябе, Аршанская бітва! Нашыя нашчадкі і праз тысячу гадоў будуць славіць цябе.

***

*Хто любіць усіх, той не любіць нікога.*

***

*Мужчыны чырванеюць ад сораму да 60 гадоў. Жанчыны — да 16.*

### Рыданні

Думаецца, што тыя людзі, хто дасягнуў найвышэйшых жыццёвых вяршыняў, асабліва востра і балюча перажываюць свой крах, сваё падзенне з гэтых самых галавакружных вяршыняў. Знешне яны могуць не паказваць гэта, могуць нават усміхацца, але ў душах, пэўна ж, бушуе ўраган.

Вось, напрыклад, Напалеон Банапарт. Сын збяднелага карсіканскага дваранiна, а, значыць, не француз, зрабіўся імператарам магутнай Францыі, стаў уладаром амаль паўсвету. Сваім братам і сёстрам ён з надзвычайнай лёгкасцю раздаваў заваяваныя каралеўствы і графствы, быццам гэта былі гальштукі або заколкі для валасоў. І вось усё рухнула, міраж развеяўся, і грозны ўдачлівы ваяка апынуўся на краі свету, на выспе Святой Алены. Нарадзіўся на выспе Корсіка і жыццё сваё зямное скончыў на яшчэ драбнейшай выспе, пражыўшы ўсяго пяцьдзясят два гады. Шмат хто з ягоных землякоў, ні разу не выбіраўшыся са сваёй выспы, пражылі мо з сотню гадоў, а ён... Пэўна ж, не раз успыхвала сляза на вачах у Банапарта, калі, стоячы на абрывістым беразе сваёй новай, скажам так, «кватэры», глядзеў на поўнач, туды, дзе была Францыя.

Вось расійскі самадзержац Мікалай Другі... Бацька трох (ці чатырох?) дочак і невылечна хворага сына страціў трон і зрабіўся закладнікам нейкай ці то банды, ці то рэвалюцыйнай групы, якая называла сябе Екацярынбургскім саветам. Ён быў усемагутным, ён быў амаль Богам, і ён у адно імгненне зрабіўся нікчэмным чарвяком. Упэўнены, што падчас сну ў цесным пакойчыку Іпацьеўскага дома ён плакаў, слухаючы, як дыхаюць, спяць побач жонка і дзеці. Як ён, цар, як ён, мужчына, пад рукой у якога былі незлічоныя войскі, не здолеў зберагчы сваю сям'ю, сваіх пяшчотных цнатлівых дочак — і аддаў іх на здзек і грубыя цынічныя насмешкі нейкім вычварэнцам?

Вось фюрэр Гітлер-Адольф Шыкльгрубэр. Сын беднага мытнага чыноўніка і хатняй гаспадыні з аўстрыйскага Леандзінга стварыў нацыянал-сацыялістычную партыю, стварыў нацысцкую дактрыну, перамог на выбарах і зрабіўся адзінаўладным гаспадаром вялікай Германіі, радзімы філосафаў і паэтаў. Напачатку ён перамагаў усіх. Перамог камуністаў, сацыял-дэмакратаў, амаль поўнасцю знішчыў нямецкіх габрэяў, захапіў Аўстрыю, Чэхаславакію, Польшчу, Францыю, Нарвегію, Данію, Галандыю, Грэцыю... Здаецца, яшчэ адзін удар, яшчэ адзін крок, і ўвесь свет зробіцца нацысцкім... Але затым нябёсы адвярнуліся ад шанцуншчыка.

Абкружаны ў сваім падземным бункеры, як абкладзены чырвонымі сцяжкамі воўк, ён піша свой запавет: «Усё, чым я валодаю, — калі гэта наогул мае якую-кольвеч каштоўнасць — належыць партыі. Калі яна перастане існаваць — дзяржаве; калі ж будзе знішчана і дзяржава, то якія-небудзь захады з майго боку будуць ужо непатрэбныя... Намаганні і ахвяры нямецкага народу ў гэтай вайне былі такія велізарныя, што я не магу паверыць у іхнюю дарэмнасць. І надалей павінен быць мэтай нямецкага народу захоп абшараў на Усходзе...»

Адчуванне бяссілля, страху і шкадавання самога сябе, адчуванне краху сваёй мары і сваёй гістарычнай ролі вылілася ў апошнія дні жыцця сутаргамі, ярасцю і прыступамі нястрымных бурных рыданняў...

***

Нашы высокія інтэлектуальныя ілбы пакрыты камуністычным загарам, які, пэўна ж, ужо ніколі не змыецца. Не памятаю, дзе я вычытаў гэты сказ, але адносна сябе скажу: я, як і мой бацька з маці, і вясковыя людзі, паміж якіх жыў я ў малалецтве, ніколі не верылі гэтай марксісцка-ленінскай казцы, употай смяяліся з яе. Занадта цяжка і беспрасветна мы існавалі, каб верыць у такое.

*Есть в наших днях такая точность,*
*Что мальчики иных веков,*
*Наверно, будут плакать ночью*
*О времени большевиков.*

Гэта верш паэта 20-30 гадоў, ці Кульчыцкага, ці Когана, дакладна не памятаю. Не думаю, што аўтар такіх радкоў хлусіў самому сабе. Магчыма, ён шчыра верыў у такое. Сёння можна толькі пашкадаваць натхнёнага паэта. Глянуў бы ён на нашую рэчаіснасць! Ратуе камсамольскага паэта толькі слова «наверно». Усё-ткі і ён трошкі сумняваўся.

Хаця мушу зазначыць, што паміж нашых сённяшніх кіруючых элітаў на постсавецкім абшары такая вера існуе. Думаю, адказ тут просты: камунізм, як і наогул менталітэт усходніх славянаў і габрэяў, грунтуецца на «праваднырызме-вождизме». Майсей... Цар-бацюхна... Ленін... Сталін... Брэжнеў... Ельцын... Можна працягваць пералік.

Еўрапейская ж і паўночна-амерыканская палітычная традыцыя дае цвёрды адказ на пытанне, хто такі дыктатар. Усё вельмі проста. Дыктатар — гэта не кат, не сатрап, не самадур. Дыктатар — гэта той, хто імкнецца захаваць і захоўвае сваю ўладу пасля двух прэзідэнцкіх тэрмінаў.

Камунізм, як і наогул менталітэт усходніх славянаў і габрэяў, грунтуецца на «праваднырызме-вождизме». Майсей... Цар-бацюхна... Ленін... Сталін... Брэжнеў... Ельцын... Можна працягваць пералік.
Еўрапейская ж і паўночна-амерыканская палітычная традыцыя дае цвёрды адказ на пытанне, хто такі дыктатар. Усё вельмі проста. Дыктатар — гэта не кат, не сатрап, не самадур. Дыктатар — гэта той, хто імкнецца захаваць і захоўвае сваю ўладу пасля двух прэзідэнцкіх тэрмінаў.

***

*Бальшавіцкія эксперыменты.*
*Колькі цёмных сіл вы ўзбухторылі!*
*Тады людзі былі, як экскрыменты*
*Таўстазадай бабы-гісторыі.*

**1937**

*Як ад перуной ратавацца*
*ў непагоду?*
*Дзе схавацца*
*ў смяротны час?*
*Бяссонныя ночы*
*трыццаць сёмага году,*
*Уласную скуравую адчуваю вас.*
*Спачатку звоняць. Потым*
*грукаюць у дзверы.*
*І вось у спальні — сінепагонная рась.*
*Яны — Мараты. Яны — Рабесп'еры.*
*Ворагаў народа прыйшлі караць.*
*«Вы — иностранных*
*разведок агенты!*
*Молчать! Повернуться*
*лицом к стене!»*
*Дзынкне аб падлогу*
*пенснэ інтэлігента.*
*З хрустам наступяць на тое пенснэ.*

### Майдан

*Гэты час увойдзе ў паданні,*
*Дасць натхнёны спеў кабзарам.*
*Дзе сябры твае? На Майдане!*
*Дзе сяброўкі? Таксама там!*
*Зноў выходзяць з вузенькіх кухняў*
*На шырокі Майдан змагары.*
*Еўрапейская Зорка, не тухні!*
*Еўрапейская Зорка, гары!*

***

*Прощай, немытая Россия,*
*Страна рабов, страна господ...*

Цікава, ці вывучаюць гэты верш Міхаіла Лермантава ў сённяшніх расійскіх школах? Думаю, што не. Пуцінскай Расіі ён, так бы мовіць, «псуе знешнасць». Сёння трэба манікюраваць пальчыкі, якія яшчэ ўчора былі драпежнымі крывавымі кіпцюрамі.

Вось і з'явіўся гістарычны серыял «Рамановы», які тэрмінова зроблены да 400-годдзя дынастыі Раманавых і які да нябёсаў праслаўляе гэтую самую дынастыю. Яна, дынастыя, патрыятычная, яна сімпатычная, яна беленькая і пушысценькая! Яна стварыла агромністую Супердзяржаву! Што сказаць на гэта? Кожны цыган сваю кабылу хваліць.

Вось што пішуць у энцыклапедыях: Раманавы — баярскі род, царская (з 1613г.), імператарская (1721–1917г.г.) дынастыя. Першым вядомым продкам быў Андрэй Іванавіч Кабыла (памёр да 1350г.). Цікава даведацца ў Год Каня, што родапачынальнікам маскоўскіх цароў была (прабачце — быў!) Кабыла. Шмат жа яны вытапталі земляў!

Памятаю са школьных гадоў, што рускіх цароў у падручніках па гісторыі называлі самадурамі, салдафонамі, Палкінымі, Крывавымі і г.д. Не я гэта выдумаў — так было напісана ў вучоных кнігах. Сёння яны ледзь не анёлы. Усе яны, аказваецца, вельмі любілі Расію і ейны народ, па-бацькоўску клапаціўся пра яго. Памятаеце, у Леаніда Філатава:

*Не идёт икра мне в рот.*
*Думаю, что жрёт народ?*

Мне, як кажуць, усё гэта да «лямпачкі». Вось толькі пра што б хацелася напомніць сённяшнім алілуйшчыкам дынастыі Раманавых: пра прыгоннае права. Менавіта Раманавы аддалі сялян у жахлівае рабства памешчыкам! Ад Саборнага Укладання 1649 г. да 1861 г. (цэлых 212 гадоў!) рускія сяляне, і беларускія, і ўкраінскія (мільёны і мільёны) былі рабочай жывёлай, бяспраўным быдлам, якога можна было прадаваць, прайграваць у карты, да смерці засякаць дубцамі на стайнях, гвалціць іхніх жонак і дачок. У той жа Еўропе, якую так любяць крытыкаваць імперскія камуністы, элементы прыгонніцтва зніклі ўжо ў 16–18 стагоддзі, там вызвалялі чорнакурых нявольнікаў, а тут, на «Святой Руси», белыя хрысціянскія людзі валачылі ярмо дзікай няволі. А ў Пецярбурзе і Маскве дзень і ноч грымелі і зіхцелі шыкоўныя балы. Абсыпаная брыльянтамі знаць весела танцавала на бліскучым паркеце пад музыку прыгонных (!) аркестраў.

І вы хочаце, каб нашчадкі тых прыгонных рабоў услаўлялі Раманавых? Праклiцце, толькі праклiцце рабаўладальнікам!

***

*Няхай памрэм. Няхай згарым.*
*Ды наша не памрэ надзея.*
*Не раз палілі Вечны Рым,*
*А ён жыве і маладзее!*

# На ростанях лугоў

**У Беластоку выйшла кніга Багдана Дудко «Даліна з-пад Нарвы і Свіслачы». У ёй змешчаны вершы і фотаздымкі аўтара. Вершы Багдана Дудко апублікаваны на польскай і беларускай мовах. На беларускую мову паэтычныя радкі пераклала Міра Лукша.**




Багдан Дудко нарадзіўся ў 1968 годзе ў Беластоку. Вывучаў польскую філалогію. На працягу 20 гадоў быў рэдактарам і аніматарам літаратурна-мастацкага часопіса «Карткі», а таксама рэдактарам серыі кніг, выдадзеных у бібліятэчцы «Картак». Ён быў лаўрэатам некалькіх літаратурных конкурсаў, у тым ліку пераможцам Агульнапольскага літаратурнага конкурса «Дэбют», які арганізаваў беларускі тыднёвік «Ніва» ў Беластоку. У 2008 годзе з друку выйшла яго кніга «40 і 4 вершы пра каханне».

У новым зборніку Багдана Дудко паэтычныя радкі добра дапаўняюць здымкі: яны то тужлівыя, то настальгічныя, то спакойныя, то шчымлівыя. Беларускі пераклад вершаў вельмі ўзмацніў і ўпрыгожыў выданне, бо гэта кніга пра нас, беларусаў, пра Бацькаўшчыну, пра зямлю родную, пра яе гісторыю.

Багдан Дудко сумуе па радзіме, маленькай радзіме, «якой няма», але якая «кожнага чужога частуе лустай хлеба, глытком халоднае вады з калодзежа з жоравам...».

Даўно я не чытаў вершаў пра беларускіх партызанаў. А ў зборніку Багдана Дудко натрапіў на верш «Магіла партызанаў». Ён пачынаецца так: «Бярозы і сосны — сёстры партызанаў...».

Прачытаў першыя радкі, і адразу прыгадаўся хрэстаматыйны верш Адама Русака «Лясная песня»:

*Ой, бярозы ды сосны —*
*Партызанскія сёстры...*

«Даліна...» Багдана Дудко пачынаецца вершам «Я, Канстант» (у якім аўтар прыгадвае Кастуся Каліноўскага — аднаго з кіраўнікоў нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863–1864 гадоў).

Спадабаўся вобраз вёскі ў вершах і ў здымках фотапаэта. Хораша і цёпла апісана вёска, адчуваецца сум з нейкай іскрынкай настальгіі. Ці пра тое, як у зімовы вечар у далёкай вёсцы на Падляшшы «нейкая каралеўна пасярэдзіне вёскі са снегам крочыць». Ці пра вёску, якая «забітая наглуха дошкамі перагнілымі ад тугі...».

Разам з вёскаю паэт сумуе і прыгадвае каханне — вясковае, светлае, чыстае, тое, калі «ты прыйшла да мяне гасцінцам з боку Шымак, апранутая ў імглу, над табой ляцеў статак дзікіх гусей...». Прайшоў час. Паэт побач з каханай жанчынай, з якой яму добра і хораша, але толькі вось няма таго луга...

Паэт хату параўноўвае з жанчынай. Мне спадабалася гэта параўнанне. У вершы прысутнічае і выразная эратычная афарбаванасць пачуцця, ён вяртае не толькі ў маладосць чытачоў і аўтара, але і нагадвае першыя інтымныя парыванні і перажыванні:

*Ведаеш*
*я быў у цябе*
*ты стаяла нерухома*
*шумелі твае валасы*
*мела ты шырока расплюшчаныя*
*зялёныя вочы*
*я пацалаваў цябе*
*абняў*
*увайдзі, ты сказала*
*увайдзі, калі ласка.*

У кнізе твораў Багдана Дудко адчуваецца паглыбленасць думак, уласная пераканаўчасць, лагодная ўсмешка і журботная задуменнасць, філасофскі роздум. А яшчэ яго вершы-верлібры, несумненна, даюць новыя істотныя магчымасці для выяўлення духоўнага свету сучаснага чалавека.

**Сяргей Чыгрын**

**Па-беларуску з'явілася кніга «Небяспечнае лета» фінскай пісьменніцы Тувэ Янсан, стогадовы юбілей якой сёлета святкуецца ва ўсім свеце.**

Прыхільнікі мумітроляў ды іншых жыхароў Мумідола і яго ваколіцаў могуць папоўніць свае калекцыі мумікніг новым выданнем, якое выйшла ў перакладзе Алесі Башарымавай у выдавецтве Змітра Коласа.

Героі кнігі вымушаныя развітацца з бесклапотнасцю жыцця ў Мумідоле і прымераць на сябе новыя і часам нечаканыя ролі...




## ПАЛІЦА

### 10 том Збора твораў Васіля Быкава




Саюз беларускіх пісьменнікаў працягвае працу па ўкладанні і выданні Поўнага збора твораў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

Выйшаў у свет чарговы — 10-ы — том, што стала выдатным падарункам чытачам Беларусі да 90-гадовага юбілею творцы.

Выданне змяшчае публіцыстыку. Рэдкалегія вырашыла выдаць 10 том у некалькіх кнігах. У кнігу першую ўвайшлі аўтабіяграфічныя дыялогі Васіля Быкава з Алесем Адамовічам (1985, 2001) «Маладыя гады», а таксама шэраг артыкулаў, эсэ, прадмоў, інтэрв'ю, гутарак, аўтабіяграфій, выступленняў Васіля Быкава 1957–1980 гадоў.

Як і раней, выданне Поўнага збора твораў Васіля Быкава застаецца грамадскай акцыяй, і новы том будзе бясплатна перадавацца ў бібліятэкі Беларусі. Частка наклада пастуціць і ў прыватны продаж.

### «Сны...» Рыгора Барадуліна




У выдавецтве «Галіяфы» пабачыла свет кніга Рыгора Барадуліна «Сны сасны». Яе укладальнік і рэдактар-апякун — паэт, бард і сябар дзядзькі Рыгора Алесь Камоцкі.

«Гэтае выданне планавалася яшчэ чатыры гады таму, — прызнаўся спадар Алесь, — але тады не здзейснілася, замест яго з'явілася кніжка вершасказаў Рыгора Барадуліна «Навошта». Мінулай восенню пра «Сны сасны» ўспомнілася галоўным чынам з-за таго, што ўсе ўключаныя ў збор вершы сам паэт прачытаў перад мікрафонам. Я паабяцаў Барадуліну, што да наступнай восені кніжка пабачыць свет разам з аўдыёдыскам — у звыклым фармаце серыі, якая задумалася 10 гадоў таму, калі Рыгор Барадулін дапамагаў Вадзіму Грудзьку з падрыхтоўкай і напісаў прадмову да ягонага фотаальбома «Край», укладаннем якога выпала займацца мне. А цяпер, калі прыйшоў час выдаць кніжку Барадуліна, складзеную яшчэ ў 2010-м годзе, ужо Вадзім паспяшаўся на дапамогу. І я, памятаючы, як захапляўся Барадулін працамі Вадзіма, з радасцю гэтую дапамогу прыняў.

Да восені мы паспелі. І вось яна перад вамі, кніжачка выбраных вершаў, агучаная аўтарам і аздобленая фотаабразкамі, якія зрабіў Вадзім Грудзько».

### «Беларуская глыбіня»




У грамадскага дзеяча і пісьменніка Паўла Севярынца выйшла новая кніга — «Беларуская глыбіня». У выданне, якое пабачыла свет у серыі «Кнігарня пісьменніка» Саюза беларускіх пісьменнікаў, уключаны эсэ, напісаныя падчас апошняга зняволення аўтара. Тэксты пісаліся цягам трох гадоў і друкаваліся у прэсе. Сёння эсэ пра лёс Беларусі і яе народа — усе разам пад адной вокладкай.

— «Беларуская глыбіня» — гэта сведчанне. Калі табе раптам у забытым і занядбаным адкрываецца нешта найвышэйшае — ты сам не здольны гэта ўмясціць, і таму дзелішся. Чытачу хачу сказаць: Бог побач. Тут. Ён любіць Беларусь мацней, чым кожны з нас — і любіць настолькі моцна, што не можа пакінуць нас такімі, якія мы ёсць, — распавёў Павел. — Гэтая кніга — спроба ўглядзецца ў нашу беларускую глыбінку, каб убачыць праз яе Хрыста. Углядзецца ў вочы. У лёсы. У далягляды скрозь краты. На вокладцы зарослы калодзеж, у якім адлюстроўваюцца нябёсы, і дрэвы цягнуцца ў бездань. Беларуская глыбіня — гэта насамрэч імкненне ўгару.

Новая кніга Паўла Севярынца падобная да папярэдняй «Лісты з лесу», аднак у той жа час адрозная ад яе: «Тут усё-такі плюс шэсць гадоў, шэсцьсот кіламетраў на поўдзень, і гісторыя ды жыцці пераплеценыя нашмат гусцей. Таму ў «Глыбіні» больш пытанняў, чым адказаў».

А на пытанне, чым для аўтара ёсць літаратурная дзейнасць, Павел адказаў: «Пісьменніцтва — гэта калі ты шыфруеш для чытача тое, чаго не можаш змяніць сам. Бо тое, што можаш, — не губляй часу, бяры й мяняй у жыцці: рукамі, нагамі, галавой, сэрцам. Найперш — сябе».

### «Сумны суп»




Суплёт гісторый Вольгі Гапеевай, абяднаных назвай «Сумны суп», і ілюстрацыі да іх Марты Герашчанка, летась перамаглі ў літаратурным конкурсе Саюза беларускіх пісьменнікаў «Экслібрыс» імя Янкі Маўра і атрымалі шанец выйсці асобнай кнігай.

Выданне пабачыла свет у серыі «Каляровы ровар» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў у выдавецтве «Галіяфы». Мастацкае афармленне, зручны фармат, які прыемна трымаць у руках, і, вядома, самі тэксты — усё вабіць вока нават самага капрызлівага чытача.

Вольга Гапеева з задавальненнем распавяла пра свой новы праект:

— «Сумны суп» пісаўся ў даволі складаны для мяне час, але менавіта дзякуючы гэтым гісторыям я адчувала сябе лепш і была неяк больш «абароненай» пры сутыкненнях з гэтым «варожым і зласлівым» светам. Калі я пішу для дзяцей, то не думаю, што пішу для дзяцей. Дзіцячая літаратура — гэта своеасаблівы жанр, як «філасофскае эсэ» ці «патрыятычная лірыка», і калі пішаш у гэтым жанры, проста ведаеш, што табе тут дазволена, а што — не. Менавіта таму я пішу розныя рэчы: вершы, навуковыя артыкулы, філасофскую прозу, каб мець магчымасць пабыць рознай ці «пагуляцца» ў адпаведныя правілы.

Асабіста я вельмі люблю разумныя і шчырыя дзіцячыя кніжкі. Думаю, што кніжка можа быць цікавай для дарослых з пункту гледжання «вяртання»/ «паглыблення» ў той свет, дзе суп сапраўды мог быць сумным ці вясёлым, дзе не было думак «гэта нейкі абсурд, такога не бывае». Хаця часта, калі дзеці пачынаюць сацыялізавацца, яны выяўляюцца яшчэ большымі дыктатарамі, якія не прымаюць «іншасці». Дзеці, спадзяюся, пабачаць розныя мадэлі для сябе і не будуць баяцца вырасці «нейкімі не такімі» ці «не як усе».

Кнігі для дзяцей (як і для дарослых) павінны быць рознымі, бо мы ўсе розныя, камусьці падабаюцца нязграбныя, нагрувашчаныя разважанні, а хтосьці ў захапленні ад лёгкага мінімалізму.

Спецыфіка творчага дуэту пісьменнік-мастак у неабходнасці паразумення і адкрытасці. Калі ёсць дыялог — тады ўсё атрымаецца. З Мартай Герашчанка працавалася добра. Гэта наша другая сумесная кніжка, так што я ўжо ведала нейкія ейныя асаблівасці, а яна, думаю, — мае. Нюансы тычыліся збольшага дэталяў, напрыклад, памер ці колер шрыфту, размяшчэнне тэксту на старонцы, пухнатасць ката ці наяўнасць капелюша ў шампіньёна...

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# «Засуджаны на смерць»

## Пра Сяргея Прытыцкага

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

**16 сакавіка 1928 года камуніст Клінцэвіч выканаў партыйны загад: чатырма стрэламі з пісталета забіў у віленскай кавярні свайго нядаўняга таварыша Міхала Гурына, якога сталіністы абвясцілі правакатарам.**



Сяргей Прытыцкі ў росквіце савецка-партыйнай кар'еры, канец 60-х гг.




Сяргей Прытыцкі пасля арышту ў 1936 г.

Пра гэту падзею шырока пісалі польскія газеты, а ў ліку іншых — і «Кур'ер Віленскі».

27 студзеня 1936 года «Кур'ер» паведаміў пра новыя чатыры стрэлы; гэтым разам партыйны загад выконваў Сяргей Прытыцкі — ён імкнуўся забіць правакатара Якуба Стральчука, аднак схібіў, адно параніў у шыю — Я. Стральчук меў пад фрэнчам браню!

«Кур'ер» у сваіх рэпартажах зрабіў акцэнт: уцякаючы з месца злачынства, і Клінцэвіч, і Прытыцкі стралялі ў паліцэйскіх!

Але гэта газетная фантазія.

Той жа С. Прытыцкі, маючы два пісталеты, маўчаў, не адказваў; ушчэнт зранены, трымаўся няпісанага закону: у паліцыянтаў страляць нельга!

«Кур'ер» ведаў: жыццё прымусіла гэтага юнака, які мадзеў у віру на калу, піць з меднай кварты і есці з драўлянай лыжкі, а яшчэ «Кур'ер» здагадваўся: чад сталінізму затуманіў розум рызыкоўнаму беларускаму хлопцу з беластоцкай вёскі Гаркавічы.

«Аркадзь» (ягонае падпольнае імя) быў настроены змяніць і свет, і кожнага асобнага чалавека, і ў сваёй апантанай практыцы добра засвоіў галоўную камінтэрнаўскую навуку: калі свет і чалавек не паддаюцца зменам, то іх трэба знішчыць!

І метода тут была вельмі простая: ліквідацыя ненавіснага свету пачыналася з ліквідацыі ненавіснай асобы.

Такі момант і надышоў 27 студзеня 1936 года...

Замах адбыўся а 13-й; С. Прытыцкі ў сваіх мемуарах аднёс акцыю на дзве гадзіны пазней; зрэшты, раней ці пазней — усё сталася недзе апоўдні, а ўжо ўвечары з'явіўся надзвычайны дадатак газеты з маланкай Польскага тэлеграфнага агенцтва (ПАТ).

Як бачым, «Кур'ер» не спаў у шапку!

У віленскай «Бібліятэцы Урублеўскіх» я не знайшоў гэты выпуск, таму звяртаюся да «Лісткоў календара» Максіма Танка (запіс ад 27 студзеня 1936 г.):

«...мяне спыніў крык газетчыкаў:

...— Стрэлы ў судзе!..

За пяць грошаў я купіў газету...: «Дня 27/1 г.г. у акружным судзе ў Вільні разглядалася справа Раісы Колен...»

Спыню цытату: даследчык Арсень Ліс удакладніў прозвішча падсуднай — не Колен, а Каплан; журналісты ж пісалі — Кабленцуўна...

Далей у маланцы гаварылася: «...падчас паказанняў... Стральчука... падышоў... малады чалавек і, схапіўшы яго левай рукой за каўнер...»

Зноў спынюся: хапанне за каўнер — малаверагодны жэст!

Навошта хапаць ахвяру (за каўнер ці за рукаў), усутыч падступіўшы да яе з пісталетам?!

І нязручна гэта рабіць — рукі ж заняты зброяй!

Цісні на куркі — і ўсё...

Але калі было так, як сказана ў маланцы, то тады С. Прытыцкі мог адстрэліць сабе на левай руцэ палец, а то й два!

Адна куля (аб чым гаворка была ўжо) трапіла Стральчуку ў шыю, прайшоўшы праз каўнер ці над каўнерам — прыкладна там, дзе і была (паводле паведамлення) левая рука стралка.

Зрэшты, усё магло і абысціся, калі пальцы знаходзіліся збоку ад траекторыі кулі — хай сабе нават і на нейкі дробны сантыметр...

А можа С. Прытыцкаму, які падыходзіў да Стральчука ззаду, захацелася павярнуць правакатара да сябе і з пагардай паглядзець у яго прадажныя вочы?!

Такі ўчынак (кіношна-камсамольскі!) магчымы, толькі чаму пра яго больш ніхто не згадаў?

Хапанне за каўнер (ці ў судзе, ці на базары) — запамінальная з'ява, аднак жа яе не заўважылі!

Ды і сам С. Прытыцкі ў мемуарах — ні слова пра гэта...

Перапісваючы паведамленне ПАТ, Максім Танк, дарэчы, не ўсумніўся ў праўдзівасці хапання.


Трэбаванне 2

Мы селяне навагрудскага павету Любчанскоі гміны вёскі [illegible] сабраўшыся на сходу нарадзе... асоб 47 узнаўшы абтым што віленскі суд акружны шыкуе Сергею Прытыцкаму кару смерці мы апсуджваем за не слушнае аскарженьне Сергея Прытыцкага таму што Сергей Прытыцкі будучы усалі судавой нямог задзержацца здрады Якуба Стральчука заработка селянскай масы нешчадна ўбійства Якуба Стральчука катэгарычна звалнення Сергея Прытыцкага.

днём 20 III 36 року

SĄD OKRĘGOWY W WILNIE
BIURO PODAWCZO-WYGOTOWAWCZE
OTRZYMANO
24 MARZ. 1936
№
ZAŁĄCZNIKÓW

Пратэст жыхароў Наваградскай акругі на рашэнне суда па абвінавачванні С. Прытыцкага

Не ведаю, ці чытаў «патаўскае» паведамленне С. Прытыцкі, — «Лісткі календара», вядома ж, чытаў, але ці абмяркоўваў з паэтам гэту недакладнасць?

Думаю, што не, але (дапускаю) — недзе ўпотайкі здзівіўся такой выгоднай для сябе рэпарцёрскай прыдумцы, дзякуючы якой выглядаў не проста нейкім тэрарыстам, а смелым рэвалюцыянерам!

Смелым, сапраўды, быў...

Сцакаўшы ў сёмым радзе роўна столькі, колькі трэ было сцакаць, — спакойна, без лішніх рухаў, пакінуў сваё другое месца ад праходу; яму пашанцавала — на вузкім праходзе яго не затрымалі, і ён паспеў дайсці да Стральчука...

Успаміны С. Прытыцкага, як і любыя ўспаміны, прыблізныя; ён, скажам, напісаў: пасля таго, як прагучалі першыя яго выстралы, суддзі і пракурор ад страху палезлі пад стол.

Ну, вядома, буржуйскія служкі Феміды заўсёды вельмі палахлівыя.

На самай жа справе яны не палезлі пад стол, а зусім наадварот — падняліся над сталом; то-бок, не кінуліся хавацца, а — можна сказаць — самохаць падставіліся пад кулі!



Будынак Віленскага акружнога суда

Пасяджэнне вёў віцэ-старшыня акруговага суда Бжазоўскі; здаецца, С. Прытыцкі і не напалохаў яго, бо пан Бжазоўскі не кінуў работу, не адмовіўся ад судзейства і праз нейкія няпоўныя два месяцы (у панядзелак, 23 сакавіка) ужо разбіраў справу 16-ці з «Цэнтра народна-незалежнага руху Заходняй Беларусі», па якой, заўважу, у ліку іншых праходзілі Пілip Пестрак, Якуб Міско і Валянцін Таўлай...

Пазней віцэ-старшыня Бжазоўскі выступаў сведкам ужо на разглядзе справы самога С. Прытыцкага...

Хочаш не хочаш, а прыблізныя ўспаміны — схіляюць да пытанняў.

Вось С. Прытыцкі паведамляе, што адначасова націснуў на куркі, але куды пацэліў — не ўдакладніў; пра наступныя два стрэлы сказаў больш акрэслена: трапіў Стральчуку ў спіну.

Аднак праз некалькі абзацаў зазначыў: Стральчук быў паранены ў руку (трэба думаць — адной куляй) і дзвюма кулямі ў галаву.

Пра спіну, у якую пацэліў двойчы, ужо ні слова!

Няўжо ад бронекашулі, якой была закрыта спіна, кулі зрыкашэцілі проста ў галаву?

Можа таксама паўстаць і такое пытанне: калі адна куля трапіла ў руку, дзве — у спіну ці ў галаву, то куды дзелася чацвёртая — тая, якою Стральчук, паводле газетчыкаў, быў злёгку паранены ў шыю?

Пра яе мемуарыст, выходзіць, забыўся...

Але дачытаем «Лісткі»: С. Прытыцкі «...4 разы выстраліў... потым кінуўся ўцякаць да дзвярэй, якія ў гэты час былі адкрыты, бо перад гэтым толькі што выйшаў служачы суда Голанд...»

Тут адзначу: згаданае імя мела і такое напісанне — Галэмб.

«...За «замахоўцам» кінуліся паліцыя і работнікі следчай службы, ад якіх ён адстрэльваўся (!), раніўшы ў нагу адну асобу...»

Маланка ПАТ выразна акрэсліла: С. Прытыцкі падняў зброю на паліцыянтаў, і гэта небяспечнае для яго акрэсленне мела працяг.

Нагадаю: маланка ПАТ з'явілася ўвечары 27 студзеня, а ўжо назаўтра (аўторак, 28 чысла) «Кур'ер» у 27-м нумары, на 5-й старонцы, пад назвай «Стрэлы ў зале Віленскага акруговага суда» паведаміў:

«...слухалася справа Раісы Кабленцуўны ды іншых 17 асоб... з КПЗБ (16 жыдоў і 1 расіянін)... паказанні даваў... Стральчук... Юнак чатыры разы стрэліў у яго... Уцякаючы, яшчэ два разы націснуў на курок і параніў у нагу прыватную асобу...»

Пад гэтай (афіцыйнай!) інфармацыяй змешчаны і рэпартаж, падпісаны літарай (С):

«...З лавы... падняўся бялявы (!) хлопец у шэрым касцюме і гетрах. Ніхто не паспеў перашкодзіць яму чатыры разы выстраліць... Паліцыянты...

кінуліся лавіць Прытыцкага... Ён двойчы стрэліў у іх...»

Двойчы?!

Клінцэвіч, паводле «Кур'ера», таксама двойчы стрэліў у пастарунковага, калі выбег з кавярні...

Мусіць, такую колькасць выстралаў «Кур'ер» зазвычай адводзіў камуністам, апісваючы іхнія ўцёкі ад паліцыі...

Дык вось, «хлопец у шэрым касцюме» чатыры разы бахнуў у Стральчука, два разы ў даганятых, але гэтага рэпарцёру здалося мала, таму «...Прытыцкі яшчэ некалькі разоў стрэліў...»

Рэпарцёр таксама паведаміў пра параненага з публікі, аднак жа звесткі меў з чужых вуснаў (у суд з'явіўся пасля замаху!), таму ў яговым допісе «хлопец у шэрым касцюме» нарабіў стрэлаў больш, чым нават у афіцыйным камунікаце...

С. Прытыцкага арыштавалі, як прынята ў такім выпадку казаць, на месцы злачынства, за доўгія тыдні правялі неабходнае следства і ўчынілі суд.

Праз пяць месяцаў «Кур'ер» у 169-м нумары (нядзеля, 21 чэрвеня), на старонках 5 і 8 (а ўсіх было 12 палос) даў матэрыял усё таго ж рэпарцёра (С) «Сяргей Прытыцкі засуджаны на смерць».

Рэпарцёр звярнуў увагу: С. Прытыцкі ўвайшоў у залу, кульгаючы на правую нагу, а сярод публікі знаходзіўся ягоны бацька.

(С) пісаў: «...Выгляд у падсуднага ўпэўнены, твар загарэлы, вочы глыбокія, шэрыя; валасы цёмныя...»

Цёмныя?

А ў студзені (памятаем!): «...з лавы... падняўся бялявы хлопец...»

Але ў студзені (зноў жа памятаем!) рэпарцёр меў інфармацыю з чужых вуснаў, так што мог і памыліцца — зрэшты, за пяць месяцаў страшнай турмы валасы маглі й пацямнець...

С. Прытыцкага трафарэтна, аднак жа небеспадстаўна абвінавацілі ў прыналежнасці да кампартыі; улада мела доказную зачэпку — падчасператрусу ў тэхніка КПЗБ Суцкевета былі знойдзены два фотаздымкі С. Прытыцкага, зробленыя на пашпарт.

Следчая служба спраўдзіла: за колькі дзён да сваёй акцыі арыштаваны зняўся на Вялікай Пагулянцы ў атэлье Бруднэра, і гэта, на думку следства, значыла: партыйцы збіраліся справіць свайму таварышу (пры ягоным удалым знікненні з суда) ліпавы дакумент...

Суд меў таксама і сведчанне жыхара Гаркавічаў нейкага Белагоза: яшчэ ў 1929 годзе (так заявіў Белагоз) С. Прытыцкі намаўляў яго, як земляка, запісацца ў кампартыю.

І што на гэта падсудны?

Само па сабе, стаяў на тым, што ніякі не камуніст, а беспартыйны абаронца пакрыўджанага народа, і сцвярджаў, што сведка Белагоз хлусіць.

Падсудны апавядаў: рэвальверы прыдбаў за пяць злотых у вёсцы, назвы якой не памятае.

— У якім павеце гэта вёска ляжыць? — дапытваўся віцэ-пракурор Вольскі.

— Забыўся...

— А ў каго пан купляў зброю?

— У нейкага невядомага бадзягі...

Удаваў з сябе не вельмі памятлівага (а што яшчэ заставалася рабіць!); ведаў: слабая памяць (ці з прыроды, ці з падману) у прыкрую хвіліну — неблагая памочніца.

Асабліва ж прагнуў, каб старшыня трыбунала Арліцкі паверыў яму, што, пускаючы ў ход зброю, ён быў гранічна ўважлівы, думаў пра навакольных, стараўся не скалечыць, не забіць іншых.

Аднак жа, нягледзячы на сваю «кволую» памяць, арыфметычна (!) удакладніў: тройчы ўжыў рэвальвер правай рукой, і адзін раз той рэвальвер, які знаходзіўся ў левай...

Акрамя прыналежнасці да КПЗБ, С. Прытыцкага абвінавачвалі яшчэ ў спробе забіць сведку Стральчука, а таксама паліцыянта Дайноўскага.

І тут на паверхню выйшла казуістычная тонкасць — замах на паліцыянта разглядаўся як з'ява крымінальная, а замах на сведку віцэ-пракурор трактаваў як палітычнае злачынства.

Больш таго — абвінаваўца выснаваў: акцыя падсуднага пагражала не толькі здароўю і жыццю Стральчука, а наогул пагражала ўсёй Польшчы і яе грамадзянам.

Здаецца, пракурор хапіў цераз край...

С. Прытыцкі ж даваў цвёрдыя адказы: руку на канфідэнта падняў сам па сабе, ніхто яго на гэта не падбіваў, а ў паліцыянта не страляў!

Бо і не страляў...

Арліцкі пачаў апытваць сведкаў, і тут выйшла блытаніна — судовы пасыльны Галэмб (у «Лістках» ён фігуруе як Голанд) прызнаўся:

— Я не бачыў, што Прытыцкі страляў на сходах!

У час пагоні Галэмб знаходзіўся ў вестыбюлі паблізу сходаў, ці нават на саміх сходах, усё адбывалася ў яго на вачах, аднак жа ён не бачыў (!), што ўцякач ужываў зброю.

Спрыяльнае для абароны сведчанне...

Калі слова далі Дайноўскаму, той тут жа бумкнуў: падсудны ледзьве яго не забіў...

Але от жа дзіва — работнік следчай службы Ігнацы Бучкоўскі, а ён разам з Дайноўскім гнаўся за нашым героем, падаў такую навіну:

— Прытыцкі толькі пагражаў нам пісталетамі, але не страляў у нас!

Лепшага паказання і не прыдумаць!

Уяўляю радасць адваката Дурача; бачу радасць самога С. Прытыцкага і ягонага бацькі!



**Вуліца Прытыцкага ў Мінску**

Але чаму Бучкоўскі выступіў з такой заявай?

Чаму не падтрымаў Дайноўскага?

Да лета паспелі паліцыянты пасварыцца ці што?!

А тады, 27 студзеня, дзейнічалі зладжана — здзіравілі маладога камуніста кулямі ўшчэнт!

Пэўна, у Бучкоўскага сумленне загаварыла, з душой аказаўся служака...

С. Прытыцкі мог яго застрэліць (Дайноўскага таксама!), меў такую магчымасць, аднак не зрабіў гэтага, што вельмі, дапускаю, уразіла, нават расчуліла Бучкоўскага.

Рады, што застаўся жывы і што С. Прытыцкі выжыў (каталік Бучкоўскі не так сабе хадзіў у касцёл, хрысціянская навука нешта ўсё-ткі для яго значыла!) — ён і выступіў з такой заявай.

Скажу і пра сведку Бжазоўскага — яго паказанні Дурач таксама мог ацаніць як спрыяльныя, бо паводле іх — С. Прытыцкі, страляючы ў канфідэнта, дбаў аб тым, каб не параніць іншых, а калі выбег на сходы, то ён, Бжазоўскі, ужо не бачыў, хто ў каго там, на сходах, пускаў кулі...

Яшчэ ў будынку суда С. Прытыцкага (ён заставаўся пры памяці!) дапытаў следчы Селкінд; С. Прытыцкі адказваў не па-польску і не па-беларуску, а па-расійску.

Гэта здзівіла ўважлівага следчага; здзівілі таксама і далоні сялянскага сына — гладкія, як у пісара!

Зрэшты, дзіўнага тут не было нічога — хлопец не за плугам хадзіў, а ў асноўным сакратарыў у камсамоле, ладзіў забастоўкі ды вучыўся ў менскай партыйнай школе; крывавыя мазалі нараслі пазней, на польскай катарзе...

Пасля кароткага допыту яго прывезлі ў шпіталь «Святога Якуба», і там зноў жа па-расійску ён спытаўся ў хірурга Ахматовіча: ці патрэбна яму аперацыя?

Разумеў, што апынуўся на краі магілы і, магчыма, ужо ставіў на сабе крыж: доктар, можа нічога не трэба й рабіць, калі ўсё адно памру?!

З характарам быў!

І тут магчымы такі ход: хірургу Ахматовічу спадабалася, што юнак размаўляе па-расійску; Ахматовіча цешыла расійская мова, ён любіў расійскую літаратуру — асабліва раманы Аляксея Талстога «Сёстры» і «Пётр І».

Лекар адчуў да юнака сімпатыю і адказаў, што аперацыя патрэбна, і ён аперыраваць будзе, хаця і не верыць у добры вынік, бо вельмі цяжкія раны...

Русафіл Ахматовіч быў яшчэ і філосафам; ён меркаваў: здаровы чалавек павінен быць радасны ўжо таму, што здаровы, што мае гнуткае дужае цела, аднак жа (хірург вельмі шкадаваў) чалавек зазвычай імкнецца знайсці радасць не ў сваім здароўі, а ў гарэлцы, курэнні, шкодных бавах.

На стале Ахматовіча стаяў партрэт Аляксея Талстога, і на пытанне, чаму якраз гэты партрэт упрыгожвае стол, хірург адказваў:

— Мне падабаецца, як пісьменнік выглядае!

Сапраўды, выгляд Аляксея Талстога — незалежны, здаровы, радавіты — шмат каму падабаўся.

Было ясна — пра хваравітых дэкадэнтаў-упаднікаў з панам Ахматовічам лепей не пачынаць гаворку...

Майстэрства хірурга, вытрымка пацыента, як і тое, што яго даставілі вельмі хутка (бальніца «Святога Якуба» знаходзілася зусім побач, за нейкіх метраў трыста ад суда, адно Лукішскі пляц праскочыць!) — словам, усё гэта разам і дало плён: С. Прытыцкі выжыў...

Але вернемся ў судовую залу — так, сведкі Галэмб, Бучкоўскі і Бжазоўскі хацелі ці не хацелі, аднак жа паспрыялі падсуднаму.

І Дурач умела сцвердзіў: факт, нібыта падсудны спрабаваў забіць Дайноўскага, зусім не даказаны, як і не даказана, што падсудны належыць да КПЗБ.

А што да замаху на Стральчука, то тут адвакат згадаў вядомую этычную норму, паводле якой у дэмакратычным грамадстве расправа над правакатарамі і канфідэнтамі не лічыцца заганным учынкам.

Аднак нічога не памагло, суд падвёў С. Прытыцкага пад шыбеніцу; яму было толькі дваццаць тры, а выглядаў гладыятарам — пачуўшы, што яго павесяць, і не здрыгануўся, адно пачырванеў!

Абарона тут жа, у судовай зале, заявіла, што будзе апеляваць...

Перагляд справы адбыўся праз тры месяцы і сямнаццаць дзён — у сераду, 7 кастрычніка.

Назаўтра «Кур'ер» у сваім 276-м нумары на 7-й старонцы змясціў допіс за подпісам (W) «Смяротны прысуд зацверджаны»; у допісе вылучана цікавая падрабязнасць: ідучы забіваць, С. Прытыцкі не снедаў (!), бо прадчуваў, што можа трапіць пад агонь, таму баяўся кулявой раны ў жывот...

Зноў стаяў на сваім: 1) у Дайноўскага не страляў; 2) да КПЗБ не належыць; 3) замах на Стральчука спланаваў сам.

Тады апеляцыйны суд паклікаў сведку, камісара Пухальскага, і той расказаў пра акцыі КПЗБ у абарону С. Прытыцкага.

Тут не магу не дадаць: спачатку партыйцы спрабавалі прыкрыць С. Прытыцкага; пра тое, што рыхтавалі яму фальшывы пашпарт, было ўжо сказана; перад тым жа, як адправіць узброенага юнака ў суд, далі яму адрас кватэры, дзе ён мог бы схавацца на нейкі час, калі б здолеў вырвацца з суда.

Аднак жа не вырваўся, і тады (мяркую!) пачалі тапіць юнака, бо ён ужо патрэбны быў як яшчэ адна ахвяра пілсудчыкаў!

Знарок ці незнарок, але сваімі адкрытымі акцыямі камуністы паказвалі ўладзе, што С. Прытыцкі — іхняя крэатура!

Мала таго, — за дзень да апеляцыйнага разгляду, у аўторак 6 кастрычніка, у Вільні зладзілі свой пратэст і камсамольцы!

Упэўнены: усё гэта было на шкоду беларускаму хлопцу...

Пракурор прасіў зацвердзіць вырак першай інстанцыі; адвакаты Берансан і Дурач настойвалі на змякчэнні кары (малілі дараваць іхняму кліенту жыццё), і сам асуджаны на смерць звярнуўся з просьбай памілаваць яго.

Аднак жа не памілавалі, улічылі просьбу пракурора — зацвердзілі вырак акруговага суда...

С. Прытыцкі й гэтым разам быў спакойны — шыбеніца дык шыбеніца...

І ў беларусаў бывалі такія, алімпійскія, адносіны да страты свайго маладога жыцця.

Безумоўна, уражаны неверагодным спакоем кліента, адвакат Берансан абвясціў, што накіруе ў Найвышэйшы Суд касацыйную скаргу.

С. Прытыцкага другі раз наблізілі да шыбеніцы, аднак на эшафот не ўзвялі, пакінулі навек, як прынята было раней казаць, у панскім астрозе.

Навек, назаўсёды...

«Удзячны будзь і за такі ратунак!» — пэўна, сказала доля.

Магчыма, дапамог тут адвакацкі зварот у Варшаву, як і шматлікія пратэсты супраць смяротнага прысуду, а, магчыма, С. Прытыцкаму ўсміхнулася сама Беларуская гісторыя: яна захацела, каб менавіта з яго вуснаў прагучала ў кастрычніку 1939-га просьба да Сталіна замацаваць Заходнюю Беларусь пад сцягам чырвонай дзяржавы.

Правадыры заўсёды любяць, калі іх просяць: прыміце нас...

Відавочная паралель паміж С. Прытыцкім і Клінцэвічам мае прынцыповую розніцу: С. Прытыцкі йшоў забіваць сапраўднага (!) правакатара; Клінцэвіч жа знішчыў дзеяча, якога прызначылі (!) правакатарам.

Бальшавікі выбавілі Клінцэвіча з польскай няволі, каб завесці ў Курапаты.

Такі ж лёс чакаў бы й Сяргея Прытыцкага, і яму хапіла б месца на шырокай курапацкай дарозе, каб не турэмны белы арол, што пільнаваў яго да верасня 1939-га.

**13 красавіка 2014 г.**

## Галоўная нямецкая літпрэмія

**Лаўрэатам прэміі імя Георга Бюхнера, якая лічыцца галоўнай літаратурнай прэміяй Нямеччыны, у 2014 годзе стаў нямецкі пісьменнік Юрген Бекер (Jürgen Becker). Гэтую навіну распаўсюдзіла размешчаная ў Дармштадце Акадэмія нямецкай мовы і літаратуры.**



Уручэнне ўзнагароды, прызавы фонд якой складае 50 тысячаў еўра, адбудзецца ў гэтым горадзе восенню.

Як адзначаецца ў рашэнні журы, у сваіх творах Юрген Бекер на працягу дзесяцігоддзяў настойліва і паслядоўна працаваў над новым вызначэннем межаў паміж лірыкай і прозай.

Ю. Бекер нарадзіўся ў 1932 годзе ў Кёльне. За сваю кар'еру ён, у прыватнасці, узначальваў рэдакцыю радыёпастановак вядучай інфармацыйна-палітычнай радыёстанцыі Нямеччыны «Deutschlandfunk», а таксама кіраваў выдавецтвам «Suhrkamp».

Самая прэстыжная літаратурная прэмія Нямеччыны носіць імя знакамітага нямецкага паэта і драматурга, чыя драма «Смерць Дантона» лічыцца адным з фундаментальных твораў сучаснай драматургіі. Прэмія была заснавана ў 1923 годзе яшчэ ў часы Веймарскай рэспублікі. Цяпер яе прысуджае Акадэмія нямецкай мовы і літаратуры. Сярод узнагароджаных прэміяй імя Бюхнера – Анна Зэгерс, Гюнтэр Грас, Генрых Бёль.

# Пісьменнікі Расіі — супраць цэнзуры

**Расійскія пісьменнікі абурыліся цэнзурай і падтрымалі Украіну.**

Члены расійскага ПЭН-клуба заявілі, што не будуць рэтрансляваць хлусню пра падзеі ва Украіне і не перапыняць адносінаў з украінскімі калегамі.

Пра гэта ідзе гаворка ў нядаўна распаўсюджанай заяве арганізацыі.

У прыватнасці, члены расійскага ПЭН-клуба адзначылі, што сённяшняя ўлада Расіі здзяйсняе злачынствы перад культурай, знішчаючы слова.

«Казаць праўду і ствараць сэнсы — прафесійны і грамадзянскі абавязак пішучай супольнасці, пісьменнікаў і журналістаў. Адзіная прылада стварэння сэнсаў і адлюстравання рэальнасці — слова. Сёння расійская ўлада выкарыстоўвае слова для знішчэння сэнсаў. І гэта, безумоўна, злачынства перад культурай», — гаворыцца ў заяве пісьменнікаў.

Паводле яе, тыя выказванні, якія сёння мусіруе інфапрастора Расіі, — «фашызм, хунта, нацызм», — з'яўляюцца каталізатарамі агрэсіі і нянавісці, а вольнае выказванне прыраўнена сёння да тэрарыстычнага акту.

«Несправядлівыя і антыканстытуцыйныя законы пра рэабілітацыю нацызму, пра паклёп, пра блогераў, пра заклікі да сепаратызму крыміналізуюць публічнае выказванне і пакідаюць манаполію на стварэнне сэнсаў за дзяржавай. Гвалт над словам і над сэнсам непазбежна перарастае ў фізічны гвалт. Эскалацыя хлусні спрыяе ваеннай эскалацыі. Менавіта так сёння выглядае вайна ва Украіне», — заяўляюць члены ПЭН-клуба.

Пры гэтым яны вінавацяць распаўсюджвальнікаў хлусні ва ўскосным суўдзеле ў забойствах на паўднёвым усходзе Украіны.

«Распачатая з хлусні пра гвалт у Крыме, яна (эскалацыя) прывяла да дзясяткаў рэальных ахвяр на паўднёвым усходзе Украіны. Узнагароджаныя прэзідэнтам напярэдадні Дня друку журналісты сталі салдатамі гэтай вайны. Іх хлусня ператварылася ў кроў і смерці, а іх цынізм ды істэрыка, якія нанеслі велізарныя страты расійскай грамадскай свядомасці, названы ў падпісаных прэзідэнтам узнагародных лістах «аб'ектыўным адлюстраваннем падзей», — пішуць члены ПЭН-клуба.

Таксама пісьменнікі падкрэслілі, што не будуць мірыцца са здзекам над словам, а будуць надалей адкрыта выказваць сваю пазіцыю, «падтрымліваць дыялог з сябрамі і калегамі ва Украіне, каб разам супрацьстаяць хлусні і гвалту».

«Мы ведаем сілу слоў лепш, чым чыноўнікі і палітыкі. І мы ад гэтага не адступім», — падагульнілі расійскія пісьменнікі.

У расійскі ПЭН-клуб, прэзідэнтам якога з'яўляецца Андрэй Бітаў, уваходзіць некалькі сотняў празаікаў, паэтаў і журналістаў. Сярод іх Барыс Акунін, Міхаіл Жванецкі, Людміла Уліцкая, Уладзімір Сарокін, Віктар Ерафееў і іншыя майстры слова.

## Новая Пушкінская

**У Дзяржаўным літаратурным музеі імя А. С. Пушкіна адбылася 10-я юбілейная цырымонія ўручэння Новай Пушкінскай прэміі.**



Уладальніцай першай прэміі ў памеры 350 тыс. расійскіх рублёў «За сукупны творчы ўнёсак у айчынную культуру» стала паэтэса з Саратава Святлана Кекова. Другая прэмія «За наватарскае развіццё айчынных культурных традыцый» дасталася паэту Аляксею Кудракову з Екацярынбурга. Акрамя таго, адмысловы дыплом «За музейнае служэнне» ўручылі доктару філалагічных навук Наталлі Міхайлавай.

# Пошукі магілы Сервантэса

**У Іспаніі пачаліся пошукі магілы пісьменніка Мігеля дэ Сервантэса, якая, як мяркуецца, знаходзіцца на тэрыторыі трынітарыянскага манастыра ў Мадрыдзе на вуліцы Атоха.**

Дакладнае месцазнаходжанне праху класіка іспанскай літаратуры, які памёр у 1616 годзе ў галечы, невядомае, паколькі за апошнія некалькі сотняў гадоў будынак манастыра перабудоўваўся. Паводле гістарычнага запісу, аўтар «Дон Кіхота» памёр 22 красавіка, а праз дзень быў пахаваны ў манастырскай царкве.

Сервантэс у апошні год жыцця пераехаў у Мадрыд і за некалькі дзён да смерці пастрыгся ў манахі. Таму ён і быў пахаваны на тэрыторыі манастыра. Але, па звестках сучаснікаў пісьменніка, на месцы пахавання не было нават надпісу.

Паводле планаў даследчыкаў, пошукі, эксгумацыя і ідэнтыфікацыя парэштак зоймуць некалькі месяцаў. А выдаткі на іх правядзенне складуць каля 100 тысячаў еўра.

У выпадку ўдалага завяршэння працы можна і высветліць, як выглядаў пісьменнік. Адзіны вядомы партрэт Сервантэса пэндзля Хуана дэ Хуарэгі быў напісаны праз 20 гадоў пасля смерці творцы. Акрамя таго, навукоўцы змогуць высветліць, ад чаго памёр пісьменнік. Сучаснікі сцвярджалі, што Сервантэс занадта шмат піў і ў магілу яго звёў цыроз печані.

Даследчыкі спадзяюцца, што геарадар дапаможа ім адшукаць у сценах манастыра пустэчы, дзе могуць быць захаваны косткі, а раны, атрыманыя Сервантэсам падчас бітвы пры Лепанто ў 1571 годзе, дазволяць лёгка вызначыць, ці яму належаць парэшткі. Падчас ключавой для еўрапейскай гісторыі марской бітвы з туркамі Сервантэс амаль страціў левую руку і быў паранены ў грудзі з аркебузы.

У 2016 годзе будзе адзначацца 400-годдзе з дня смерці аўтара «Дон Кіхота».

# Расійская нацыянальная прэмія «Паэт»

**Адбылася цырымонія ўручэння Расійскай нацыянальнай прэміі «Паэт»-2014. Лаўрэатам прэміі стаў паэт і перакладчык Генадзій Русакоў. Узнагароду ўручыў старшыня журы і леташні лаўрэат «Паэта» Яўгеній Еўтушэнка. Для ўдзелу ва ўзнагароджанні абодва паэты прыляцелі з ЗША.**



Генадзій Русакоў нарадзіўся ў 1938 годзе. Як паэт дэбютаваў зборнікам вершаў у 1960-м, затым амаль 20 гадоў не друкаваўся. Творчы арыенцір паэта, па яго ўласных словах, «паэзія Арсенія Таркоўскага і руская паэтычная традыцыя гарманічнай выразнасці». Вершы Г. Русакова перакладзены на французскую мову.

Расійская прэмія «Паэт» была заснавана Таварыствам заахвочвання расійскай паэзіі пры фінансавай падтрымцы РАТ «Адзіныя энергасістэмы Расіі» ў 2005 годзе як узнагарода за дасягненні ў сучаснай паэзіі. Сума прэміі складае 1,5 мільёна расійскіх рублёў (40 000 даляраў ЗША).

## Партал віктарыянскай літаратуры

**Брытанская бібліятэка запусціла інтэрнэт-партал з 1,2 тысячамі літаратурных дакументаў.**

На сайце даступныя такія дакументы віктарыянскай і класічнай літаратуры, як самы ранні рукапіс Шарлоты Брантэ, дзённікавы запіс Джэйн Осцін, чарнавікі Оскара Уайльда, вершы-рукапісы Персі Бішы Шэлі і інш.

Прадстаўнікі бібліятэкі тлумачаць, што вырашылі зрабіць гэтую падборку пасля апублікавання дадзеных апытання, праведзенага сярод 500 брытанскіх педагогаў. Апытанне паказала, што 82 % настаўнікаў сумняваюцца, што іх вучні могуць ідэнтыфікаваць сябе з героямі класічнай літаратуры.

## Дні Льва Талстога ў Аргентыне

**У культурным Цэнтры імя Борхеса ў Буэнас-Айрэсе прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя жыццю і творчасці Льва Талстога.**



На адкрыцці фестывалю прысутнічаў унук Талстога Аляксандр, які пражывае ва Уругваі. Ён распавёў гасцям пра тое, якім быў Леў Мікалаевіч, якія меў зносіны з сялянамі і арыстакратамі, а таксама прадставіў кадры ўнікальнай прыжыццёвай кінахронікі, якая захоўваецца ў архіве нашчадкаў Талстога. У Цэнтры Борхеса таксама была арганізавана выстава рэдкіх прыжыццёвых фотаздымкаў пісьменніка.

Выстава неўзабаве адправіцца ў турнэ па Аргентыне. Акрамя таго, запланаваны паказы мастацкіх фільмаў «Анна Карэніна» і «Вайна і мір», лекцыі пра творчасць пісьменніка.

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Данбаскія крэсы

Алег НОВІКАЎ

**Польскае грамадства спрабуе зразумець матывы купкі тутэйшых нацыяналістаў, якія адправіліся на Данбас дапамагаць прарускім сепаратыстам.**



Барташ Бекер

Дэлегацыі дэпутатаў Сейму на Майдане, сталічны Палац Кангрэсу ў жоўта-сініх фарбах, бясплатная рэабілітацыя для параненых падчас сутычак з «Беркутам», намаганні дырэктара МЗС Польшчы Сікорскага дабіцца як мага хутчэйшай інтэграцыі Украіны ў структуры ЕС… Падавалася, што ўся Польшча заняла адназначную пазіцыю ў стаўленні да ўкраінскіх падзей. Але на днях стала вядома, што купка польскіх правых радыкалаў з арганізацыі «Фаланга» адправілася валанцёрамі да Стралкова.

Пазней стала вядома, што пакуль дакладна можна казаць толькі пра аднаго чалавека. Гэта Барташ Бекер (Bartosz Bekier), студэнт, рэдактар аднаго з правых сайтаў. Ён сцвярджае, што прыехаў на Данбас, каб аказаць маральную і інфармацыйную падтрымку сепаратыстам. Пра гэта Бекер сказаў на веча, арганізаваным прыхільнікамі так званай «Данецкай народнай рэспублікі» (ДНР), якую Украіна на афіцыйным узроўні прызнала тэрарыстычнай арганізацыяй. У прамове, запіс якой апублікаваны на адным з найбуйнейшых польскіх інтэрнэт-парталаў, Бекер адзначаў, што ён не прадстаўляе «польскі пранатаўскі ўрад». «Я прадстаўляю польскі свабодны народ, які супраць тэрарыстычных баз NATO на тэрыторыі Польшчы», — кінуў ён у натоўп.

У прынцыпе, учынак Бекера можна растлумачыць вядомым выслоўем пра тое, што ў сям'і не без выродку. Так і робяць некаторыя ўдзельнікі польскіх чатаў. На іх думку, асоба з падобнымі поглядамі ўвогуле не ўпісваецца ў катэгорыю «паляк». Таму нейкі час агучвалася версія пра тое, што навіна пра палякаў на службе ДНР — гэта плётка, якую запусціла расійская прэса. Тым больш, што інсінуацый на гэты конт хапае. Так, расійская інфармацыйныя агенцтвы паведамілі, што на ўкраінскім баку змагаюцца прыкладна дзесяць наёмнікаў з полькай вайсковай фірмы ASBS. Як высветлілі польскія журналісты, такой фірмы даўно не існуе, а ў часы існавання ASBS займалася выключна аналітыкай.

Аднак у дадзеным выпадку інфармацыя аказалася праўдзівай. У інтэрнэце нават з'явілася фатаграфія Барташа Бекера і Дзяніса Пушыліна, аднаго з лідараў ДНР. Адначасова высветлілася, што Бекер — не такая ўжо і «белая варона».

У польскім нацыяналізме даўно існуе еўразійская, або, хутчэй, славянафільская плынь. У прынцыпе, нават у славутай працы Рамана Дмоўскага «Думкі сучаснага паляка» — азбуцы польскага правага палітыка — можна знайсці шмат славянафільскіх пасажаў. Аўтар лічыў, што расійская мадэль асіміляцыі палякаў у часы падзелаў Польшчы была больш гуманная за нямецкую, якая ўвогуле не пакідала шансаў на выжыванне польскай культуры і этнасу.

Пасля Дмоўскі падаўся ў фанаты Мусаліні і да гэтай тэмы мала звяртаўся. Затое панславізм пачаў квітнець у часы сацыялістычнай Польшчы, асабліва ў часы Уладзіслава Гамулкі. У той час вялікая месца ў агітпропу адводзілася тэме пагрозы вайны з боку ФРГ, якая, як вядома, да пачатку 1970-х гадоў не прызнавала новую ўсходнюю мяжу Польшчы. Мабілізацыя супраць патэнцыйнага канфлікту з немцамі выклікала канатацыі да часоў агульнага супрацьстаяння славян крыжацкай навале, нямецкай палітыцы «Дранг нах остэн».

У посткамуністычнай дэмакратычнай Польшчы панславісцкая ідэалогія цікавіла толькі невялікія групы правых радыкалаў, накшталт «Фалангі», якія лічаць, што Берлін або Дрэздэн з'яўляюцца гістарычна славянскімі (чытай, польскімі) градамі. Акрамя таго, панславянская рыторыка характэрная для некаторых палітыкаў-папулістаў, накшталт нябожчыка Анджэя Лепера. Матэрыялы, прысвечаныя панславізму і еўразійству, сустракаюцца на старонках сайтаў некаторых экспертных клубаў.

Рафал Панькоўскі, вядучы польскі эксперт па праблемах правага радыкалізму, так апісвае стан еўразійскага лагеру ў Польшчы: «Фаланга» — гэта малая і маргінальная арганізацыя, дэ-факта ў гэтым асяроддзі дзейнічае некалькі чалавек. Групоўка цесна супрацоўнічае з так званым Еўрапейскім цэнтрам геапалітычных аналізаў, на чале якога стаіць польскі палітык Матэвуш Піскорскі. У сваю чаргу, Піскорскі, адзначае эксперт, ёсць польскім звяном міжнароднай сеткі еўразійскага праекта, створанага расіянінам Аляксандрам Дугіным.

Варта адзначыць, што Піскорскі з'яўляецца адным з лепшых сябоў афіцыйнага Мінску.

«Як Піскорскі, так Бекер, у мінулым годзе падчас грамадзянскай вайны былі гасцямі рэжыму Асада ў Сірыі. Матэвуш Піскорскі з'яўляецца частым госцем у такіх месцах, як Беларусь або Прыднястроўе, а нядаўна быў у Крыме, куды ён прыязджаў у якасці назіральніка за рэферэндумам», — заўважае Панькоўскі.

У прынцыпе, можна было б не заўважаць ні Бекера, ні Піскорскага, чыя роля ў польскай палітыцы мікраскапічная. Калі б не трывожныя трэнды. Гаворка па феномен Януша Корвіна-Міке, лідара польскіх еўраскептыкаў, які адкрыта сімпатызуе Пуціну і шмат кім лічыцца агентам Крамля. Пасля таго, як яго партыя «Кангрэс польскіх правых» у маі прайшла ў Еўрапарламент, папулярнасць Корвіна-Міке толькі вырасла. Паводле апошніх сацыялагічных апытанняў, цяпер «Кангрэс польскіх правых» — трэцяя па папулярнасці палітычная сіла ў Польшчы з 10 працэнтамі падтрымкі. Усё ідзе да таго, што вядучым польскім партыям могуць спатрэбіцца галасы фракцыі «Кангрэсу польскіх правых» для фармавання ўраду.

Варта прызнаць, што пакуль бум інтарэсу да Корвіна-Міке цяжка разглядаць як праяву інтарэсу да еўразійскіх тэорый, а тым больш як падтрымку палякамі расійскай знешняй палітыкі. Хутчэй, гэта нешта сярэдняе паміж выразам скепсісу адносна палітыкі Еўрасаюзу і эмацыйным жаданнем паказаць палітычнай эліце дулю ў кішэні. Апошняя поза асабліва характэрна для часткі моладзі, якая бачыць у Корвіне-Міке ікону антысістэмнага пратэсту. Аднак тое, што Корвін-Міке сваімі прапуцінскімі і прарасійскімі сентэнцыямі нармалізуе ў польскім палітычным дыскурсе еўразійскую праблематыку, відавочна. Таму запісваць Барташа Бекера ў вечныя маргіналы рана.

Праўда, для таго, каб мець хоць нейкую палітычную будучыню ў Польшчы, Бекеру патрэбна яшчэ вярнуцца з Данбасу. Прычым, галоўную пагрозу для паляка ўяўляюць не ўкраінскія спецслужбы, а любімыя ім сепаратысты, якія падпарадкуюцца Маскве. Справа ў тым, што расійская, блізкая да афіцыёзу, прэса крытычна адрэагавала на знаходжанне ў Данбасе польскіх правых радыкалаў. Як вядома, крамлёўская прапаганда пабудаваная на тэзісе пра тое, што ў Данбасе адбываецца народнае антафашыстоўскае паўстанне супраць кіеўскага рэжыму.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Віктар Медведчук

Кум Уладзіміра Пуціна, лідар прарасійскай арганізацыі «Украінскі выбар», якога пасля лютаўскай рэвалюцыі лічылі палітычным нябожчыкам, нечакана вярнуўся на палітарэну. Ён стаў адным з удзельнікаў перамоваў паміж Кіевам і Данбасам. Цяпер уся ўкраінская паліталагічная тусоўка ламае галаву, што рабіў на тых кансультацыях Медведчук і ў якім статусе. У АБСЕ кажуць, што Медведчук прадстаўляў сепаратыстаў. У сваю чаргу, пасольства РФ у Кіеве сцвярджае, што Медведчук быў пасланцам Парашэнкі. Калі апошняя версія акажацца праўдай, то Парашэнка атрымае абвінавачванні ў здрадзе. Ужо сам па сабе ўдзел спецпрадстаўніка Парашэнкі Кучмы ў перамовах за адным сталом з лідарамі ДНР і ЛНР спарадзіў масавыя абвінавачванні ў «здачы нацыянальных інтарэсаў». А тут яшчэ высвятляецца, што прадстаўляць Украіну Парашэнка даверыў куму Пуціна. Але наколькі гэтыя абвінавачванні напалохаюць Парашэнку — залежыць ад рэакцыі мас. А яна неадназначная: у грамадстве моцныя настроі як скончыць вайну любой цаной (у тым ліку і больш хуткім мірам), так і працягваць яе да пераможнага канца. Увогуле, з'яўленне Медведчука, які лічыцца прыхільнікам федэралізацыі, значыць, што Пуцін адмовіўся ад ідэі сепарацыі Данбасу ад Украіны.

### Харш Вардхан



Міністр аховы здароўя Індыі пазнаёміў індыйскае грамадства са сваім поглядам на праблему барацьбы са СНІДам. На яго думку, звыклыя метады барацьбы з вірусам, накшталт аднаразовых шпрыцаў і прэзерватываў, не спыняць распаўсюд хваробы. Асноўны ўпор трэба рабіць, па словах чыноўніка, на прапаганду індускай традыцыйнай культуры, а дакладней, на агітацыю за правільныя адносіны жанчыны і мужчыны. Харш Вардхан сцвярджае, што рабіць акцэнт на кампаніі прапаганды выкарыстання прэзерватываў або шпрыцаў ёсць «адмоўнае пасланне». На яго думку, атрымаўшы прэзерватыў, яго ўладальнік адразу пачынае думаць пра палавыя кантакты, а не пра тое, як выкарыстаць асабісты сродак гігіены ў патрэбны час. Што атрымаецца з новай індыйскай палітыкі прафілактыкі вірусу, цяжка прагназаваць. Трэба толькі нагадаць, што Індыя — трэцяя ў свеце краіна па колькасці хворых на СНІД (каля 20 мільёнаў чалавек!). 85 працэнтаў хворых заразіліся палавым шляхам.

### Марын Ле Пэн



Лідар французскай правай партыі Нацыянальны фронт (FN), якая падтрымлівае палітыку Пуціна ва Украіне, настолькі загулялася з Расіяй, што рызыкуе сапсаваць імідж сваёй структуры. Як вядома, Марын змагаецца за тое, каб партыю больш не ўспрымалі як правapадыкальную палітычную арганізацыю. Курс так званай «дэдэманізацыі» дапамог Нацыянальнаму фронту пашырыць сацыяльную базу і стаць адной з вядучых партый краіны. І вось цяпер з-за сяброўства з Пуціным усе напрацоўкі могуць пайсці кату пад хвост. Справа ў тым, што на фоне прарускіх заяў Марын у партыю здолела запісацца цэлая хеўра вельмі супярэчлівых асобаў. Як піша газета «Le Monde», у FN ужо дзейнічае фракцыя нацыянал-бальшавікоў. Прычым гэта не проста сімпатыкі тэорый пра Еўразію. Гаворка пра людзей, якія адначасова з'яўляюцца сябрамі Еўрапейскай камунітарнай партыі (PCN), якая працавала на Кадафі і мае кантакты з расійскімі, блізкімі да Крамля еўразійцамі. На думку экспертаў, наяўнасць падобнай публікі ў партыі можа стаць кампраматам на FN падчас будучых кампаній. Між тым, самой Марын Ле Пэн яўна не да нацыянал-бальшавікоў. На днях яна моцна пасварылася з Жан Мары Ле Пэнам, яе бацькам, былым лідарам FN. Жан Мары паспрабаваў рабіць заявы ад партыі, не ставячы ў вядомасць дачку.

# Лётчыца з Катынскага спісу

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Увесь свет абляцеў відэазапіс допыту захопленай тэрарыстамі штурмана верталёту МІ-24 украінскіх ВПС Надзеі Саўчанкі. Гэта нагадала мне допыт супрацоўнікамі НКУС грамадзянкі ІІ Рэчы Паспалітай, пілота Яніны Левандоўскай.**

## Дачка генерала

Яніна Антаніна нарадзілася 22 красавіка 1908 года ў Харкаве, які ўваходзіў тады ў склад Расійскай імперыі. Бацька дзяўчыны палкоўнік Юзаф Рамуальдавіч Доўбар-Мусніцкі быў (у той момант) афіцэрам штаба 10-га армейскага корпусу Рускага імператарскага войска, які дыслакаваўся ў Кіеўскай вайсковай акрузе.

Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. З вясны 1917 года займаўся фарміраваннем польскіх вайсковых частак на Усходнім фронце. У 1918 годзе ён, ужо генерал, узначаліў I польскі корпус і кіраваў ім падчас баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі.

Пасля дэмабілізацыі разам з сям'ёй пераехаў у польскі Сандамір. У студзені 1919 года ўзначаліў Велькапольскае паўстанне, пазней удзельнічаў у польска-бальшавіцкай вайне, але з-за палітычных рознагалоссяў з Юзафам Пілсудскім у 1920 годзе вымушаны быў пайсці ў адстаўку. Набыў у мястэчку Батараў-Люсаў 150 гектараў зямлі, дзе арганізаваў гаспадарку.

Пасля смерці жонкі ў 1920 годзе былому адстаўному генералу прыйшлося самому займацца выхаваннем дзяцей. Для сына Альгерда і дачкі Яніны ён зняў кватэру ў Познані. Яшчэ адна дачка Агнешка нарадзілася за год да смерці маці (падчас Другой сусветнай вайны яна будзе ўдзельнічаць у польскім падполлі, трапіць у рукі гестапа і загіне 21 чэрвеня 1940 года). Другі сын Доўбар-Мусніцкага Гедымін у міжваеннае дваццацігоддзе выехаў на вучобу ў Тулузу, дзе і пражыў да канца жыцця.

## Спявачка? Не — пілот

Пасля заканчэння вучобы ў жаночай гімназіі ў Познані Янка (так дачку генерала называлі родныя) паступіла ў Музычную кансерваторыю, дзе вучылася па класе фартэпіяна і спеву. Марыла зрабіць кар'еру спявачкі, тым больш, што голас мела добры. Але бацьку гэта вельмі не падабалася. «Прозвішча Доўбар-Мусніцкі на афішах? Дзеля рэкламы? Ганьба!» — крычаў адстаўны генерал. Пасля вучобы дзяўчына ўладкавалася на працу на пошту, а таксама падпрацоўвала канцэртамі ў адным з познаньскіх кінатэатраў.

Але яшчэ ў гімназіі Яніна ўступіла ў аэраклуб і ўдзельнічала ў авіяцыйных паказах у Лавіцы ля Познані. Паступова хобі ператварылася ў сапраўднае захапленне. Дзяўчына скончыла курсы пілатажу і скокаў з парашутам.

У 1930 годзе яна, першая з жанчын у Еўропе, ажыццявіла скок з вышыні 5 кіламетраў. У 1933–1934 гадах Яніна скончыла курсы па радыёсправе ў Львове і Дэмбліне. Нарэшце, яе прынялі ў Вышэйшую школу пілатажу ў Лавіцы, а ў 1936 годзе дачка знакамітага генерала атрымала дыплом пілота. Часцей за ўсё Яніна лятала на польскім самалёце RWD-8.

У 1937 годзе памёр Юзаф Доўбар-Мусніцкі. Пахаваннем бацькі займаліся яго дочкі Янка і Ага. Праз год сям'ю спасцігла новая трагедыя: застрэліўся сын генерала Альгерд, які служыў пілотам Трэцяй вайсковай эскадрыльі ВПС II Рэчы Паспалітай.

Напярэдадні Другой сусветнай вайны на авіяцыйным шоў у Тэнгобожу Яніна пазнаёмілася са сваім будучым мужам, пілотам-інструктарам Мечыславам Левандоўскім. У чэрвені 1939 года яны ажаніліся, а праз два месяцы пачалася Другая сусветная вайна.

3 верасня, разам з калегамі па аэраклубе, Яніна вырашыла ўступіць у Войска Польскае. Нават не дачакаўшыся прыезду мужа. Яе знаёмыя пасля вайны тлумачылі гэты яе ўчынак тым, што дзяўчына была вялікай патрыёткай і рвалася ў бой з нацыстамі.

Муж таксама ваяваў, трапіў у рукі гестапа, аднак яму ўдалося збегчы ў Францыю, а адтуль у Англію, дзе ён ваяваў у 307-й вынішчальнай эскадрылы Каралеўскіх ВПС.



Пілот Войска Польскага Яніна Левандоўская, 1939 год



Штурман верталёту украінскіх ВПС Надзея Саўчанка, 2014 год



Лётчыкі, муж і жонка Яніна і Мячыслаў Левандоўскія, 1939 год



Юзаф Доўбар-Мусніцкі



Яніна Левандоўская, 1930-я гады

## Палон

Яніне Левандоўскай і яе калегам удалося далучыцца да адступаючых на ўсход падраздзяленняў Трэцяй паветранай базы з Лавіцы. Разам з вайскоўцамі добраахвотнікі дабраліся спачатку да Любліна, а пазней да Бучача ля Тарнопаля. Лётчыкі спадзяваліся, што на Усходзе захаваліся не кранутыя бамбёжкамі аэрадромы, дзе будуць вайсковыя самалёты. Аднак на станцыі Капычынцы даведаліся, што з Усходу польскую мяжу перайшлі часткі Чырвонай Арміі. Спрабавалі эвакуіравацца ў паўночным накірунку да мяжы з Венгрыяй і Румыніяй, аднак 22 верасня ля Гусяціна трапілі ў атачэнне савецкіх танкаў.

Капітан ВПС Юзаф Сідар, які камандаваў гэтым атрадам, вырашыў здацца ў палон. Афіцэраў адразу аддзялілі. Да гэтай групы далучылі і дзяўчыну ў лётным камбінезоне. Калег дачкі генерала па аэраклубу накіравалі ў перасыльны лагер для цывільных асоб, а вось пілотаў і Янку этапавалі ў лагер у Асташкаў, а пазней, у лістападзе 1939 года, у Казельск.

На допытах у НКУС Яніна вырашыла не гаварыць пра тое, што з'яўляецца дачкой польскага генерала, які ў 1918 годзе ўвёў з-пад носа бальшавікоў Бабруйскую крэпасць. Назвалася прозвішчам мужа, пазначыла, што яе бацьку звалі Мар'ян, і нарадзілася яна не ў 1908-м, а ў 1914 годзе. Аднак большасць сучасных польскіх даследчыкаў упэўненыя, што савецкія спецслужбы ведалі, якая птушка трапіла ў іх сілкі. Памяталі генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага, мемуары якога былі апублікаваны ў 1935 годзе.

Палонных польскіх афіцэраў размясцілі ў будынках былога Казельскага манастыру. Для жанчыны-пілота адвялі асобнае памяшканне. Па ініцыятыве афіцэрскага савету на чале з генералам Хенрыхам Мінкевічам Яніне выдалі мундзір падпаручніка. Ён павінен быў засцерагчы жанчыну ад розных непрыемнасцяў як з боку лагернай аховы і адміністрацыі, так і ваеннапалонных.

Адзін з вязняў, вайсковы доктар, капітан Вацлаў Муха, успамінаў: «У Казельску я сустрэў Яніну Левандоўскую. Яна часта прыходзіла ў дом №27, дзе акрамя мяне жыў, між іншым, яе знаёмы: урач авіяцыйнага палку з Віленскага ваяводства, паручнік Міхал Кулікоўскі. Яна была апранута ў мундзір польскага вайсковага пілота». Таксама пра тое, што Яніна Левандоўская знаходзілася ў Казельску паведамляў былы познаньскі ваявода Рафал Бнінскі, якому цудам пашчасціла вызваліцца з савецкай няволі.

## Ахвяра сталінскага рэжыму

5 сакавіка 1940 года савецкія ўлады выдалі сумнавядомы загад аб расстрэле польскіх ваеннапалонных, а ўжо 3 красавіка з Казельску вывезлі першыя партыі афіцэраў. Звычайна гэта выглядала так: начальніку лагера тэлефанавалі з Масквы і зачытвалі спіс чарговых ахвяр (ад 100 да 300 асоб). Прозвішча Яніны Левандоўскай пазначана ў этапным спісе пад нумарам 0401. Яе вывезлі з лагеру 20 красавіка 1940 года.

Прызначаных да расстрэлу афіцэраў везлі цягнікамі на станцыю Гнездавая пад Смаленскам, а адкуль аўтобусамі ў раён ля вёскі Катынь, дзе і адбываўся расстрэл. Усяго там было забіта каля 24 тысячы польскіх вайскоўцаў.

У красавіку 1943 года Берлінскае радыё паведаміла, што ў лесе пад Смаленскам знойдзены парэшткі тысяч палякаў, знішчаных бальшавікамі. Нацыстам удалося знайсці 8 брацкіх магіл. Нямецкія ўлады прывезлі ў Катынь экспертаў са шматлікіх краін. Тыя канстатавалі, што сярод ахвяр знойдзена шмат цел вайсковых капеланаў, а таксама парэшткі жанчыны. Працамі па эксгумацыі кіраваў прафесар судовай медыцыны Герхарт Бутц з Брэслаў.

Частку парэшткаў, знойдзеных у Катынскім лесе, у тым ліку і чэрап жанчыны, немцы вывезлі ў Брэслаў, які пасля 1945 года ўвайшоў у склад Польшчы і стаў Вроцлавам. Польскім навукоўцам удалося ўратаваць гэтыя артэфакты ад НКУС і спецслужбаў сацыялістычнай Польшчы. Пасля вайны муж Яніны шукаў сляды жонкі па ўсім свеце. Не раз даваў аб'явы ў польскія і замежныя газеты, але безвынікова. Пазней Мечыслаў ажаніўся з англічанкай.

Пасля праведзенай у 2005 годзе спецыяльнай экспертызы з прымяненнем сучасных методык удалося ўстанавіць, што косткі чэрапа, знойдзеныя ў 1943 годзе ў Катыні, сапраўды належалі Яніне Левандоўскай. Пазней яе парэшткі з вайсковымі ўшанаваннямі былі пахаваныя ў сямейнай магіле роду Доўбар-Мусніцкіх у Люсаве.

# Васіль Быкаў пад цэнзурным абстрэлам

## Самая антысталінская аповесць Васіля Быкава ўпершыню выйшла без цэнзуры



Васіль Быкаў

Працяг. Пачатак у №24

Сяргей ШАПРАН

**Да 90-годдзя Васіля Быкава ў выдавецтве «МЕДЫЯЛ» пры падтрымцы мецэната Паўла Бераговіча выйшлі адразу дзве ўнікальныя кнігі — «Мёртвым не баліць» і «Ліквідацыя» — і абедзве ўпершыню апублікаваныя без тых цэнзурных купюр, якія былі зроблены ў аповесцях падчас іх першай публікацыі і якія пераходзілі на працягу дзесяцігоддзяў з аднаго выдання ў другое.**

### Бураўкін, Вярцінскі і ліст 53-х

Аднак шырокую вядомасць аповесць набыла не пасля публікацыі ў «Маладосці», а толькі на наступны год — пасля таго, як была надрукавана ў часопісе «Новый мир», рэдагаваў які Аляксандр Твардоўскі. Менавіта тады і пачалася шматгадовая кампанія шальмавання Васіля Быкава. Як іранічна заўважыў пазней адносна гэтай аповесці («которую нам всем настоятельно советовали забыть. Поистине МЕРТВЫМ НЕ БОЛЬНО — почему бы и не забыть, если им все равно?») расійскі крытык Ігар Дзядкоў, «конечно, никто не заблуждался: художественная литература — всего лишь мифы, сказки, выдумки досужих щелкоперов, и нет на свете никакого Василевича и никакого Сахно, и никто никого к ответу за все страсти-ужасы (сочиненные!) не потянет. Но давно замечено нашими классиками: тронь какого-нибудь коллежского асессора или будочника, и все коллежские асессоры и будочники, от Петербурга до Камчатки, а также все начальники асессоров и начальники будочников, придут в возмущенное движение и негодование. Им мало того, что сочиненных лиц ни в каком паспортном столе не отыщешь, им подавай опровержение всероссийское, что такого с такими-то чинами такого-то департамента вообще быть не могло и всякие непочтительные предположения на сей счет недопустимы и даже преступны. Столетья не властны над привычками департаментов и над их страхами — тоже. Столетья пролетают, департаменты переименовываются, привычки и страхи остаются, но воплощаются в новых формах».

Сапраўды, уже ў красавіку 1966 года загадчыкі адразу двух аддзелаў ЦК КПСС — адзела прапаганды і агітацыі і аддзела культуры — дакладвалі вышэйшаму кіраўніцтву:

«...Сюжетная основа повести — рассказ о том, как группа раненых советских офицеров и командиров зимой 1944 года пыталась в районе Кировограда уйти от преследования врага. Трагическая судьба этой группы обрисована на фоне хаоса и сумятицы в наших частях и усугублена преступными действиями руководившего группой капитана «особиста» Сахно. Он наделен в повести чертами злодея, убийцы. Сахно творит суд и расправу над солдатами и офицерами, пристреливает наших раненых. Наши офицеры и солдаты без конца стреляют друг в друга. Рядовой стреляет в старшину, ранит его, а затем старшина убивает солдата и т. д.

Повесть призывает к отмщению подобным «особистам». Перенося действие в наше время, в день празднования 20-летия победы на гитлеровской Германией, автор изображает своеобразного двойника Сахно — бывшего председателя Военного трибунала Горбатюка. Горбатюк оправдывает чудовищные жестокости Сахно, который пристреливал раненых советских бойцов, ссылкой на якобы отданный во время войны соответствующий приказ Сталина...

Забвение т. Быковым классовых критериев, грубое искажение исторической правды привели к тому, что из-под его пера вышло произведение, наносящее серьезный вред делу воспитания советских людей, особенно молодежи. Оно мешает правдивому познанию великого подвига советского народа, создает извращенные образы солдат и офицеров Советской Армии...»

Тым часам з выкрывальніцкай крытыкай «Мёртвым не баліць» выступіла газета «Советская Белоруссия». Той артыкул быў надрукаваны без подпісу, што па тым часе азначала, што такім чынам выкладаецца пазіцыя беларускага ЦК. А пазіцыя гэтая была недвухсэнсоўнай:

«...В некоторых произведениях В. Быкова читателю навязывается неправильное, искаженное представление об истоках массового героизма советских людей в годы войны. В таких повестях и рассказах солдаты целиком и полностью отданы во власть, мягко говоря, неумных, а то и нечестных командиров. По утверждению одного из персонажей повести «Мертвым не больно» Горбатюка, советские воины совершали подвиги не из чувства патриотизма, высокой сознательности, беспредельной преданности Родине, а в принудительном порядке, под страхом смерти. «А что же сознательность? — говорит Горбатюк. — Сознательность — в газетах, а тут принудить надо. Чтоб боялись».

Слова эти вложены в уста отрицательного персонажа. Но все ли сделал автор повести для того, чтобы до конца развенчать взгляды Горбатюка, чтобы правда жизни торжествовала убедительно, весомо? Думается, нет.

Из книги в книгу кочуют образы штабных офицеров, которые, если верить В. Быкову, только тем и занимались, что своими неправильными распоряжениями вносили сумятицу в боевые действия.

Серьезные возражения вызывает расстановка сил в повести «Мертвым не больно». Горлопану и перестраховщику Сахно ничто и никто не мешает измываться над честными воинами, обрекать их на бессмысленную смерть.

Могло, конечно, случиться, что в тылу наших наступающих дивизий сохранились недобитые части противника. Искажение правды начинается с того, что никто не верит и не хочет верить предупреждению очевидцев, обстрелянных гитлеровцами. Потрясающе неправдоподобная беспечность, если учесть к тому же, что действие в повести происходит в 1944 году!

Младший лейтенант Василевич встречает капитана и пытается доложить ему о вражеских танках. Ответ: «Наплевать мне на ваши танки». Встретился подполковник. Выслушал и приказал идти в соседнюю деревню и там доложить о неприятном соседстве. Третий офицер не дает даже слова сказать: «Попрошу помолчать. Пока вас не спрашивают... А то панику мне развели! Как в сорок первом. Я вам покажу танки!» Капитан же Сахно начинает стряпать очередное дело против «паникеров». Так создается конфликт, сущность которого сводится к тому, что начальники-головотяпы, пренебрегая жизнью десятков и сотен людей, не хотят ударить палец о палец для разгрома противника. Этому дается и своеобразное толкование: «Кому там заботиться, что в таком-то месте наших боевых порядков образовалась брешь, в которую влезли немцы». Люди гибнут, отбивая натиск фашистов, а генерал, ответственный за создавшееся положение, ищет козла отпущения. В подобной обстановке самодур Сахно одного раненого пристреливает сам, другого заставляет пустить себе пулю в лоб, а всех остальных гонит на минное поле, принуждает отдавать жизнь, лишь бы у него «сходились концы с концами». Это уже не война...

...как случилось, что в Союзе писателей БССР и его литературных изданиях столь долго не замечали, что В. Быков постепенно начинает отходить от жизненной правды, односторонне, а порой искаженно отображать историю Отечественной войны, что, естественно, не способствует воспитанию у народа любви и уважения к Советской Армии, оскорбляет лучшие патриотические чувства наших людей?»



Фрагмент чарнавой рэдакцыі «Мёртвым не баліць»

Між тым рэакцыя на артыкул у «Советской Белоруссии» не прымусіла сябе чакаць: абураныя публікацыяй, беларускія пісьменнікі пайшлі на незвычайны па тым часе крок — маладыя паэты Генадзь Бураўкін і Анатоль Вярцінскі, напісаўшы ліст у ЦК КПБ у падтрымку аўтара «крамольнай» аповесці, сабралі пад ім 53 подпісы беларускіх літаратараў (дапамагаў у тым на апошнім этапе Ніл Гілевіч). Тут дарэчы будзе прыгадаць, што менавіта гэты свой учынак Генадзь Бураўкін назваў напрыканцы жыцця адной з найгалоўных сваіх заслуг. Часам жа раней Генадзь Мікалаевіч распавядаў: «Той факт, што пісьмо падпісалі нашыя аднагодкі, людзі аднаго з Быкавым літаратурнага пакалення, быў зразумелы: усе мы былі дзецьмі XX з'езда. Але было вельмі важна — я і сёння гэтым вельмі даражу, — што нас у нашым парыве барацьбы за справядлівасць падтрымалі людзі, на якіх я заўсёды глядзеў з душэўным трапятаннем, бо мы вывучалі іх кнігі яшчэ ў школе, здавалі па іх творчасці экзамены. Нас падтрымалі выдатныя людзі літаратуры, у якую мы толькі-толькі ўваходзілі: Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Іван Мележ, Янка Брыль. Прычым для нашых класікаў гэта быў сапраўды мужны грамадзянскі ўчынак. Іх падтрымка прыдала нам сіл. Было ясна, як гэтае пісьмо ўспрымуць у ЦК — ах, яны пратэстуюць! Пратэстуюць супраць органа ЦК КПБ газеты «Советская Белоруссия»! Гэта быў акт у нечым нават больш грамадзянскі, чым літаратурны, сяброўскі. Гэта быў факт, пра які ведалі, хай і не шырока, і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў Цэнтральным Камітэце. Пра яго стала вядома і ў Маскве...»

Працяг будзе



# Іх паклікала «Спадчына»

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Пабачыла свет 500-старонкавае выданне «І паўстала «Спадчына», якое мае падзагаловак «Дыярыюш Мінскага грамадскага культурна-асветніцкага клуба «Спадчына».**

Гэта сумесны выдавецкі праект журналіста і адказнага за выпуск Віктара Хурсіка і сяброў «Спадчыны» — рэдактараў выдання Яўгена Гучка і Надзеі Сармант, мастака Анатоля Крывенінкі. Кніга «І паўстала «Спадчына» прысвечана памяці заснавальніка, шматгадовага кіраўніка самага масавага і вядомага сталічнага грамадскага культурна-асветніцкага клуба Анатоля Яўхімавіча Белага і распавядае пра дзейнасць сяброў клуба «Спадчына» на карысць беларускага адраджэння XX стагоддзя.

Цяжка ўявіць сабе працу гісторыкаў, калі б да нашых дзён не дайшлі летапісы, метрыкі і іншыя дакументы мінулых стагоддзяў. Гэтыя рарытэты навукоўцам даюць падставы для аналізу і высноў, на якіх паўстае сапраўдная гісторыя краю і народа. На жаль, у нашу эпоху гэтая традыцыя амаль знікла, а гісторыя на прасторах тагачаснага СССР стала ўяўляць сабой бясконцую чараду пастаноў і рэзалюцый партыйных з'ездаў і пленумаў. А ўсё альтэрнатыўнае і непадцэнзурнае, асабліва з грыфам «нацыяналістычнае» ці «архаічнае», гадамі выкрэслівалася з аналаў гісторыі сучаснай Беларусі.

Як толькі паўстаў культурна-асветніцкі клуб «Спадчына», адразу па ініцыятыве яго кіраўніка А. Белага быў створаны сакратарыят гэтай грамадскай арганізацыі. У кола яго абавязкаў уваходзіла фіксацыя ўсіх тых падзей, якія суправаджалі дзейнасць клуба. Пра большасць гэтых гістарычных фактаў і здзяйсненняў можна даведацца ў першым раздзеле кнігі — «Хроніка асноўных падзей». Ад самых першых, калі ў сакавіку 1984 года клубу было прадастаўлена першае памяшканне на вуліцы Мендзялеева, куды спадчынцы запрашалі беларускіх пісьменнікаў, гісторыкаў, грамадскіх дзеячаў, праводзілі першыя навуковыя канферэнцыі. Аж да самай сумнай падзеі ў жыцці клуба, калі ў 17 лістапада 2011 года сябры «Спадчыны» правялі свайго нязменнага лідара і кіраўніка ў апошні шлях.

Чытач можа даведацца, што паміж гэтымі падзеямі былі і адкрыццё помнікаў М. Багдановічу ў Яраслаўлі, Ларысе Геніюш у Зэльве, устаноўка крыжа каталіцкаму святару-патрыёту В. Гадлеўскаму на месцы яго забойства ў Трасцянцы, сістэматызацыя і выданне дысідэнцкай спадчыны і адкрыццё помніка М. Ермаловічу... Але гэты пералік будзе няпоўным без згадак пра напружаную працу над упарадкаваннем залаў і шматлікіх экспазіцый Музея выяўленчага мастацтва Анатоля Белага ў Старых Дарогах. Нездарма, гэты збор мастацкіх каштоўнасцяў з цягам часу стаў сапраўдным пантэонам беларускай гісторыі і сховішчам бясцэнных узораў нацыянальнага мастацтва.

Бадай, самая вялікая частка клубнага дыярыюша — раздзел «А хто яны — спадчынцы?..». У ім распавядаецца пра жыццёвы і творчы лёс сяброў клуба, іх унёсак у адраджэнне культуры і мовы беларускага народа. А галоўнае — у шматгранную працу клуба «Спадчына», удзельнікі якога заслужылі неафіцыйнае званне «народнага міністэрства культуры Беларусі».

Зразумела, гэта раздзел кнігі распачынаецца нарысам жыцця і творчасці кіраўніка клуба Анатоля Белага. З яго зместу можна зразумець вытокі яго любові да роднага краю, да беларускай культуры, мовы, мастацтва. А таксама пра гатоўнасць Анатоля Яўхімавіча да стаічнага змагання за ідэалы вольнай, дэмакратычнай і беларускай Беларусі. Вялікую ролю ў сваім жыцці і дзейнасці клуба А. Белы адводзіў і сваім вялікім паплечнікам. Сярод іх трэба адзначыць В. Быкава — народнага пісьменніка Беларусі, народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна, гісторыка А. Грыцкевіча, доктара філалагічных навук А. Ліса і шмат іншых сяброў клуба — унікальных творцаў, навукоўцаў, мастакоў, пісьменнікаў і паэтаў. Звесткі аб жыцці і дзейнасці гэтых асоб дапаўняюць агульную палітру нацыянальнага руху нашай краіны XX–XXI стагоддзяў.




**Дзейнасць клуба «Спадчына» выклікала ў многіх беларусаў шчырыя пачуцці павагі, захаплення і жадання далучыцца да іх шыхтоў**

Немагчыма ўявіць справы клуба і самога Анатоля Яўхімавіча без ахвярнай дапамогі блізкіх сваякоў — жонкі Алы Мікалаеўны, дачкі Святланы і яе сям'і, стрыечнага брата Анатоля Яўхімавіча — Міхаіла Антонавіча і яго жонкі Алы Леанідаўны, якія сваёй упартай працай у залах і экспазіцыях Музея выяўленчага мастацтва А. Белага ў Старых Дарогах «стваралі і ствараюць умовы для таго, каб наведвальнікі гэтага ўнікальнага музея адчувалі сябе камфортна ў яго сценах» (стар. 163). Іх біяграфіі і справы таксама адлюстраваны ў новай кнізе.

Вядома, што дзейнасць клуба «Спадчына» выклікала ў многіх беларусаў шчырыя пачуцці павагі, захаплення і жадання далучыцца да іх шыхтоў. Гэтыя эмоцыі часцяком выкрышталізоўваліся ў паэтычныя радкі, словы песень і эмацыянальныя празаічныя прысвячэнні. У наступным раздзеле новай кнігі «Прысвячэнні «Спадчыне» прыводзяцца найбольш яскравыя прыклады гэткіх твораў, якія мастацкімі сродкамі адлюстроўваюць шматгранны шлях спадчынцаў у справе нацыянальнага Адраджэння.

Завяршаюць том «Дыярыюша» раздзел «Узнагароды «Спадчыны», у якім узноўлены пратаколы аб узнагароджванні ўсіх вядомых беларускіх дзеячаў, пісьменнікаў і мастакоў узнагародамі культурна-асветніцкага клуба «Спадчына». Гэтыя знакі пашаны, па прызнанні многіх з тых, хто імі быў адзначаны, з'яўляюцца адзінымі ў іх жыцці. І ад гэтага іх вартасць і вага толькі павялічваецца, бо гэта народнае прызнанне іх жыццёвага і творчага шляху. Такой бачыў гуманістычную рысу дзейнасці клуба Анатоль Белы. Да таго ж, гэты раздзел дае магчымасць пазнаёміцца з унікальнай сістэмай узнагарод клуба «Спадчына», якая можа быць запатрабавана, калі Беларусь стане сапраўды беларускай.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Ліц. ЛП №02330/19 от 30.04.2004 №93. Замова № 849

Падпісана да друку 27.06.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.